Мар'ян ДУКСА

# ГОРН ПРЫМІРЭННЯ

Вершы

Мінск,
«Мастацкая літаратура»,
1993

ББК 84Бел7
Д81

В сборнике есть самые разные акценты: соперничество добра и зла, любви и вражды, судьба родного языка и культуры. Многие стихи содержат элегично-философские раздумия о жизни, быстротечности времени, осмысляют человеческие страдания и радости, утраты и надежды.

Д $\frac{4702120202-146}{М\ 302(03)-93}$ 45—92

* * *

Ты хрыстапрадаўцаў вышукваеш клятых,
што рай на людскім будавалі гарбе.
Навошта з магіл падымаць вінаватых?
Найпершы рахунак — рахунак сабе.

Ах, гэтыя пошукі зла за пагоркам,
ах, гэтая святасць на ўласным ілбе.
Хай сорамна будзе, няхай сабе горка,
а самы пякучы — рахунак сабе.

Шчымлівая ганьба твая — паратунак.
Калі ўжо сумленне ўнутры зашкрабе,
ты выкладзі лютаму свету рахунак.
Ды самы галоўны — рахунак сабе.

## ДЗЕНЬ ПРЫМІРЭННЯ

Хай ветрык
на кожнай сцяне калыхне
па-летняму ўсмешлівы промень лагоды.
Крывавы пірог
ненажэрнай вайне
абрыдла пячы
змардаваным народам.
А можа, ўжо досць
табе пеніцца, злосць.
Прыйдзі, азарэнне,
у дзень прымірэння,
каб тоўшчу зямную
навекі-наскрозь
прайшлі-пранізалі любові карэнні.
Мацней палюбі ты
і ў горн затрубі.
Ах, дзень прымірэння,
ах, дзень прымірэння.
Былых забабонаў жывыя рабы,
уздымем жа горны
за гэта здарэнне.
Мо час валачыць
дарагія мячы —
вастрыць іх нам сёння і страшна і скрушна —
з начы да начы
на уласным плячы
са сховішчаў-нор
у агульную крушню.
Туман растае —
дабрыні не стае...
Нашто фанабэрыцца нам паасобку.
Пазносім жа лозунгі-шыльды свае,

каб нас не дражнілі яны,—
у падсобку!
У дзень прымірэння
бяду адграбі,
што дыхае дымна ў патыліцу людзям.
Лось, бі капытамі
і ў рог пратрубі:
жывое, зялёнае нішчыць не будзем!
І сажу атрутную нашу да зор
штодзённа, штоміг пасылаць перастанем.
Працэдзім ваду мы ўсіх рэк і азёр,
напоўнім паветра былым шчабятаннем.
Ты кожнаму веру ў душу пакладзі,
страх выпусці з сэрца,
нібы з сутарэння.
Крыху паблудзі,
але ўсё-ткі прыйдзі,
як сонца, ты ўстань,
чысты дзень прымірэння.

## РОДНАСЦЬ

Я чую дзятла прывітальны стук,
здзіўлёны ўскрык патурбаванай сойкі.
Адразу лісце туліцца да рук,
і шле сасна
мне свой паклон высокі.
Казычуць цень мой
на пясчаным дне
малыя рыбкі — выхаванцы лета.
Усе стракозы,
быццам для мяне,
паветраныя робяць піруэты.
Паўзе з-пад ног мурашка ў буралом,
сінічка будзіць ліпкую дрымоту.
Хто лапкаю,
хто дзюбкай,
хто крылом
расцягвае ў бакі маю самоту.
Хацела б стаць мне роднаю сястрой
вунь на грудку
бярозка маладая.
Зязюля спачувальна
пад настрой
мой аглушэлы голас ажыўляе.
Мне штосьці кажуць
і трава і мох.
Ёсць сэнс жывы
у іхнім пахкім слове.
І хочацца так весці дыялог
на мне самому
невядомай мове.

* * *

Хворая птушка саскокне і сядзе на рукі.
Звер занядужаны прыйдзе і спыніцца блізка.
Толькі калі захістаецца сонца праз мукі,
яснасць прыходзіць: зямля — наша доля й калыска.

Толькі яна калыхала ўсе гнёзды жывыя.
Толькі яна расчыняла ўсім шчодрыя нетры.
Тых, хто заплача, застогне, завые,
ціха паіла вадой, малаком і паветрам.

Ці зразумее калі чалавек агрубелы
кволых братоў сваіх меншых такое дзівацтва:
хворая птушка малая і звер саслабелы
стомлена ў вочы глядзяць, нагадаўшы сваяцтва.



«Як палыхае беласнежны сад!»
Расчулены, падхвальваеш прыроду,
прыносячы ёй, пэўна, асалоду.
І гэтаму і сам бясконца рад.

Ты кажаш: «Цуд! Ах, супыніся, міг:
чабор мядовы, росы-дыяменты...»
Ты думаеш: прырода кампліментаў
чакае і не можа жыць без іх?

А не здаецца, мілы мой, табе:
яна ўсю гэту прыгажосць стварыла,
расставіла і сонцам азарыла,
расквеціла выключна для сябе!

Ёй усё роўна, хваліш ты ці не.
Яна была і да цябе на свеце.
Ёй проста дзіўна, як ты множыш смецце
вакол сябе і... гімн пяеш вясне.

* * *

Я лесу пульс
намацваю ледзь-ледзь.
Сыры лісцёвы пласт,
даўно пажухлы,
на пень залёг,
нібы на столік круглы...
Кары сасновай іржавее медзь.
Патухла ўсё,
замёрла да пары.
Свае былыя радасныя звычкі
не кінулі
ні дзятлы, ні сінічкі —
б'юць дзюбаю
і скачуць угары.
Прыгасла лета —
вогнішча шкада?
Навокал кепска —
ні агню, ні свечак...
Заціўкаюць —
і ўжо гарыць агеньчык,
пакуль дзён цёмных мчыцца чарада.
Жывуць і помняць
пра сунічны торт...
І разам з тым
усе яны, няйначай, —
вартаўнікі лясной багатай дачы
тых птушак,
што зляцелі на курорт.



Вяслуе сонца — будзе ўсё чын чынам.
Травой і небам пахне час абноўкі.
Дзень блаславёны песняю шпачынай,
лятуць жучкі і божыя кароўкі.

Нязмушана ідзе карэнне ў нетры,
жывыя сокі ўверх плывуць самохаць.
Байчэе рух у залатым паветры —
не адмяніць той рух і не спалохаць.

Жывёлы, птушкі ў нейкай вечнай згодзе,
здаволеныя гнёздамі, лугамі...
Мо толькі мы жадаем у прыродзе
усё паставіць дагары нагамі?

* * *

Няўвагі пагардлівай тля
падточвае беспярастанку.
Табе ўжо абрыдла, зямля,
пакорлівай быць парабчанкай.

І дужасці штось не стае —
дзяўблі і снарадам, і бомбай.
Падвойвалі сілы твае
настырнай хімічнаю помпай.

Чужы старшыня-тарбахват
адвык ля цябе завіхацца.
Атруты глынула зашмат
і вось пачала задыхацца.

І нечысць усю, як раней,
не цягнеш у вечныя спраты.
Ці любіш ты сёння людзей,
назад ім пагнаўшы нітраты?

Ты думаеш, пэўна: а што,
калі я схітру і сфілоню?
Таму што не гладзіць ніхто,
як некалі, цёплай далонню.

* * *

Ласка ўсіх часоў,
цёплая ўспамога —
мора каласоў,
польная дарога.

Свеціць сонца шар,
дыхаючы блізка.
І кранае твар
малады вятрыска.

Верыцца, жаўрук
песенькай прыкрые.
Прыбягуць да рук
валькі жывыя.

А ля галавы
прашумяць стракозы.
Хмаркі з сінявы
адплывуць, як слёзы.

Хлебны пах густы.
Ім душа прашыта.
І здаецца, ты
не выходзіў з жыта.

Ты ўвесь свет любіў,
клікаў вецер стрэчны...
Ты нідзе не быў.
І тут будзеш вечна.



*Уладзіку*

Вясеннія птушкі, жывёлы і мошкі —
хутчэй на паляну! Ляціце, вылазьце,
паўзіце, скачыце. Паціху, патрошкі
усе акунайцеся ў цёплае шчасце.
Ах, нельга схавацца, пад мохам зашыцца,
лаўчэй узбірайцеся ўверх па травінцы.
І, нібы арэлі, вы раскалышыце
уласную песню на мяккай галінцы.
Вы, чаплі з балота, буслы з-пад азер'я,
ласі з-пад імшарніку, рушце вы — з Богам!
Кладзіце адразу на рогі, на пер'е
лагоднага сонца ружовенькі бохан.
У сэрца звярына-птушынае ваша
няхай увальецца з нябёс хваляванне,
уздыме на крылы і ціха падкажа
дарогу у заўтрашні дзень гнездавання.
Вылазьце, жукі, матылькі і мурашкі.
Надзеі ў вас добрыя — як ім ні збыцца.
Я з вамі — прымаеце? Веру — няцяжка
у вашай суполцы шчаслівым зрабіцца.

## ПРАДЧУВАННЕ

А яблыня цвіла, зацьміўшы цэлы сад.
Не помню, каб яна так ззяла хоць калісьці.
Вакол галля ўсяго пялёсткаў вадаспад.
Густы суцэльны цвет, зусім не бачна лісця.

А яблыня цвіла, а яблыня кіпела,
і ад яе уніз не адыходзіў цень.
Усіх тутэйшых пчол вялікая капэла
ад раніцы спявала ёй штодзень.

Суседкі адцвілі — свяцілася адна,
баялася чамусь асыпацца знямогла...
І неяк неўпрыкмет у чэрвені яна
пусціла жоўты цвет і ціхенька засохла.

## ХАТА НА ЗЯЛЁНЫМ ГРУДКУ

На ўзмежку жытнёвага поля
травы пачынаецца баль.
Усе салаўі з наваколля
зляцеліся на фестываль.

Хоць пыл свой жадае эпоха
пакінуць на кожным кусце —
і чыста, і пышна чаромха
ад рання да ночы цвіце.

Датуліцца сонейка ветла
да шоўку нязнятых гардзін...
Самотай упушчаны ветрык,
гуляе ў верандзе адзін.

Бярозы у белым адзенні
на дворык прыйшлі талакой.
Дзе ж людзі падзеліся? Цені
блукаюць з пакоя ў пакой.

Якія ж такія напасці
прыціснулі дошкай акно?
Чаго ж тут спужалася шчасце —
куды падалося яно?

Сон, можа, прысніўся салодкі
яму — і павабіла ў шлях.
Куды ж яго клікнулі ўсё-ткі
багі на гліняных нагах?

* * *

Твае былыя козыры:
вада, свабода, сонца...
Цвіце вада у возеры,
зялёная — да донца.

А што ў яе наперадзе —
ратунак ці хвароба?
Плюскочацца на беразе
ля самых ног мікробы.

Варушыць плотка ротам —
агонія пад скурай.
Падвёў сюды брыдоту
які тутэйшы дурань?

## СПРОБА НІРВАНЫ

Глядзіш у свет,
дзе болю да аблок —
і нібы падключаешся
пад ток.
А вочы прытуманяцца
і змружацца —
ток растае
высокага напружання.
Бы акунуўся
ў прахалодны замак.
Не стомай —
наліваюцца бальзамам
душа і рукі,
думы і ўспаміны.
Цякуць,
як рэкі вечнасці, хвіліны.
Нячутны вецер
цягне ў лёгкі вырай,
пагойдвае
на глыбіні эфіру.
І паплылі з душы —
адбыўся цуд —
распырсканыя
кропелькі пакут.
Твой боль пякучы
адышоў і згас.
Шуміць, нібы чарот азёрны,
час.

## ПАСЛАННІЦА АД ПРОДКАЎ

Плыве яна,
як з азярыны плотка,
ціхманая
пасланніца ад продкаў.
І не старая,
і не маладая.
Чарот чарговы
радасна гайдае.
Вада не тая...
А ідэя — тая:
праз сотню год,
праз сотню год
ці дзвесце
ваду жывой,
празрыстаю данесці
да новых дзён,
да нейчых рук прыпасці,
прабулькаць песню
аб звычайным шчасці.



Ні хат, ні сцяжынак,
бязлюддзе наўзбоч.
Чарговы прыпынак
пад назваю «Ноч».

І гасячы вока,
ахутвае змрок.
Далёка-далёка
мігціць хутарок.

Відаць, небарака,
чакаў колькі мог —
і скача сабака
ля дзядзькавых ног.

Нябоязна ўпрочкі,
душы калі дзве.
Па мокрым пясочку,
па жухлай траве.

І ноч неблагая,
і радасны крок.
Як зорка, мігае
ўначы хутарок.



Чародкамі кружаць гракі,
настырныя, шумна-гарластыя.
Вясковыя, дзе ж вы, шпакі,
і дзе вы, гуллівыя ластаўкі?

Бо свіст шчабятлівы суціх —
пустуюць утульныя домікі.
Даўно пасяліліся ў іх
не вы, а нябачныя гномікі.

Вятры пралятаюць наўпрост
ў адрынах, што сталі агульнымі.
Са свечкай
падвешаных гнёзд
не знойдзеш — загінулі з гумнамі...

На дзікі паселі мо куст —
шчаслівымі сталі і сытымі?
А можа, вас вынішчыў дуст
ці нехта падмёў гербіцыдамі?



Бутэлька шампанскага ў лесе...
Была, але зараз пустая.
На сук яе хтосьці падвесіў —
і вецер, як цацку, гайдае.

Ёсць гумар з маленькай нацяжкай —
звычайныя жарты тубыльца.
Спяць сном непрабудным мурашкі,
залезшы на донца праз рыльца.

Варона тут робіць аблёты,
цікуе з галля берасцянка.
На пні — дэфіцытныя шпроты...
Таксама пустая бляшанка.

Раскіданы «фільтры», сярнічкі,
жаночыя шпількі — ну годзе...
Такая трывалая звычка:
калі ўжо шалець — на прыродзе!



Няпоўная радасць... Успыхне над лесам святло
і пырсне праменнем густым ў заспаныя зрэнкі.
І пройдзе праз цела дрыготкаю хваляй цяпло,
увойдуць у сэрца азёра, крыніцы і рэкі.

Шпакі шчабятаннем і свістам аздобяць вярбу,
і ветрык станцуе на лісцейку песеннай грушы.
Няпоўная радасць казыча і дражніць жальбу,
і нехта мелодыю радасці стоена глушыць.

Як дзіўна, што ўсё адбываецца гэта вясной.
Бяздоннае неба. Хмурынка на сонечным твары.
Не стойце, гады і няшчасці, як цень, за спіной.
Няпоўная радасць — як першая боская кара.



Ты дзе схаваўся ў лесе, дзіўны Пан?
У гушчарняк які забраўся сонны?
І на якой ты з сонечных палян
прылёг спачыць у цішыні паўдзённай?

Ну дзе ж вітае твой зялёны дух?
Яшчэ імгненне — і пачую крокі...
Спытаюся ў сінічак-весялух,
даведаюся зараз у сарокі.

Скажы, салоўка галасісты — дзе?
Дапамажы, казуленька лясная.
Вунь мудры лось задумліва брыдзе —
напэўна, ён усё аб гэтым знае.

Не разумее, гавару пра што...
І я, відаць, пытацца перастану.
Мне паспрыяць не хоча ніхто —
няўжо маўчаць паабяцалі Пану?

У цёмны ельнік з роспачы бягу:
ну нехта ж знае Пана запаветы.
Я небарак адвергнуты.
— Агу-у!
О, вечны волат! Адгукніся, дзе ты?!



Прымае лес цябе, якім ты ёсць.
Яму нішто твайго аблічча выраз.
Ён не заўважыць стоеную злосць,
таваё ўтрапенне і тваю няшчырасць.

Ні салавей і ні шумлівы грак
не зоймуцца адразу ж выхаваннем
тваім, тваім, няшчасны небарак.
Ёсць толькі песні тут, а не ўшчуванні.

Прымае лес цябе ў сваю сям'ю,
над галавою дыхае лагодна,
калыша роспач цяжкую тваю
і шэпча: «Блудны сын мой, сын мой родны...

Сваіх няўдач тужліваe кляймо
пакінь на ўзлессі, мой любімы сыне.
Між дрэў-радні асыплецца само
тваёй душы благое шалупінне...»



Са мною крочыць змрочны боль-мастак
і для вачэй мяняе наваколле.
Замазвае адразу белы лак,
запырсквае хоць чым празрысты колер.

Ідзе і тушыць ліліі бутон,
замест пялёсткаў застаюцца плямы.
Яму абы глушыць святлейшы тон,
яму б змяшаць ў адну чатыры гамы.

Ён ценем замалёўвае мой смех,
хоць гэтага рабіць і не прашу я.
Нябачны пэндзаль ускідае ўверх
і ясны воблік неба рэтушуе.

## ГРЭЧНЕВАЕ ПОЛЕ

Духмянае ззянне, світанне, кіпенне
ля самай дарогі, на роўным узбочку.
На момант сваё перамог нецярпенне
парывісты вецер — прылёг на пясочку.

Мільённыя свецяцца густа пялёсткі
на самым вышэйшым узроўні цвіцення.
Зліліся ў адно галасы й падгалоскі —
навокал суцэльнае мора гудзення.

О, пчолы, якая дзівосная песня,
якое натхненне, якая суладнасць.
Вы дзе падабралі, на крыльцах прынеслі
сюды вось такую крынічную радасць?

Такая шматструннасць, такая шматзычнасць,
якая была хіба ў колішнім лесе.
Вы чуеце: жаўранкі рэдкія зычаць
вам сонечнай долі адтуль, з паднябесся.



Заўважыўшы мой сціплы перакус,
твой голад злёгку дзюбкаю кране.
Пастрэльваючы вочкамі пад куст,
о птушачка, няўжо зайздросціш мне?

На посцілку стракатую табе б,
дзе полудзень — якое гэта свята,
калі духмяны патыхае хлеб
і ў тэрмасе — салодкая гарбата.

О, птушачка, ты верыш у спакой,
які навечна асядлалі людзі?
Паварушу хоць леваю рукой —
і тое, што хачу, адразу будзе...

Наіўная дасведчанасць твая!
Не самы я шчасліўчык у прыродзе.
Ты ведала б, о як зайздрошчу я
твайму нязнанню і тваёй свабодзе.

Усе свае няпэўнасці і драмы
зап'еш расой з бутона-гладыша.
Няма ніводнай на сумленні плямы,
як белы ліст — нябесная душа.

Даўно ўжо намі ўласны лёс абраны,
стол асабісты маем і жыллё...
Заве цябе настольнік самабраны,
я ж думаю, як скокнуць на галлё.

## ЦЕМЕНЬ

Дамы, вароты, яблыні, падворкі,
дарога, рэчка, рыба і трысцё,
сабакі, коні, ямы і пагоркі —
ўсё канула раптоўна ў небыццё.

Зарой адпалыхаўшы развітальна,
дыхнуўшы ветрам хлебапахкім з ніў,
заглох, стаіўся свет матэрыяльны,
пакорна на задворкі адступіў.

Ні тлуму і ні тупату людскога,
раскілзаных турбот спыніўся крос...
Няма нікога і няма нічога —
адна душа і зорны твар нябёс.

* * *

Люблю з'яўляцца ў новым месцы,
захоплены людскім агулам.
І без нічога, так, улегцы —
нібы з адсечаным мінулым.

Не толькі родныя карэнні —
у спецыяльным чорным спісе
рахункі, здымкі, вымярэнні
за цёмным лесам засталіся.

А з імі — звады, соль і перац,
што людзі падсыпаюць лёсу.
Ты тут — ніхто. Або — прышэлец,
якога скінулі нябёсы.

## ПУСТЫ БЕРАГ

*Сашу*

Як добра мору без людзей,
без нагрувашчанасці пляжнай,
без соннай публікі вальяжнай —
каб з намі бачыцца радзей.

Як хочацца без гаманы
чужой, што абяцае звягу,
глыбокую бязмерна смагу
на бераг выкаціць зямны.

Прынёсшы свой запал здалёк,
у меру сіл сваіх трохбальных
без каментарыяў банальных
кіпець і цалаваць пясок.

Гідліва выкінуўшы бруд,
зялёных водарасцей смецце,
любіць найбольш за ўсё на свеце
сваёй самотнай волі цуд.

Сігналы з вечнасці любіць —
не нашы галасы глухія.
У чыстым выглядзе стыхіяй
яшчэ раз хочацца пабыць.



Хваля — прыручаны белы сабака —
лашчыцца, пальцы шчаслівыя ліжа.
Мяккі пясок, залацісты і рыжы,
дыхае ў шчокі, аж хочацца плакаць.

Сцішаны ветрык, прабегшы паўсвета,
у валасах тваіх спіць — не прачнецца.
Свойская мошка узлезла на сэрца
і пазірае з сярэдзіны лета.

Лісце пажухне, [illegible] кветка завяне.
Сонца адыдзе — далей за экватар.
Восень — душэўных згрызот завадатар —
хмура зірне на нябесным экране.

Ясны ж мой дзень — фатаграфія ў раме...
Ззянне паўдзённае — пробліск нябыту.
Зноў ля разбітага буду карыта
кнігу ўспамінаў гартаць вечарамі.

Шчодрае лета, не сып пазалоту.
Робіш багатым мяне як на смех ты.
Узнагародзіш па-царску, [illegible] нехта
[illegible] сонечнай выспы варочае ў слоту.

# ЛІЛЕІ

А тлусты глей ускідвае жыццё
і гоніць сок у прагнае карэнне.
Бушуе лапушыстае трысцё,
як быццам забаяўшыся старэння.

Шалёна ўверх далася асака,
пераплялася гнуткая макрыца
пад навіссю густога лазняка,
што ветру не жадае пакарыцца.

І толькі вы свайму пакорны лёсу,
хоць абміні, хоць абхапі рукамі.
На кволай ножцы на свабодным плёсе
духмянымі застылі паплаўкамі.

Навошта вам спяшацца і буяць —
жыццё-імгненне адвяргае спешку.
Галоўнае — на вадзяную гладзь
вы сонечную вынеслі усмешку.

* * *

Увесь цалюткі дзень
трашчыць аж галава —
вылузваецца боль,
нясцерпны боль з-пад скуры.
І над табой плыве
не дзіва-сінява,
а цяжкі і густы
струмень магнітнай буры.
Ён апускае боль,
ён прыганяе сон,
умее ўсё рабіць —
што можна, што няможна...
І службу запусціў
прапалены азон —
не хоча працаваць
ягоная таможня.
Ты, сонца, не крыўдуй,
ты, сонейка, прабач —
якімі на цябе
цяпер глядзець вачамі?
Хоць смейся пад табой,
хоць голасна заплач —
і ясна свеціш ты,
і ціснеш абручамі.

* * *

А хвалі ў ногі
лёгка б'юць чалом
і дыхаюць, шчаслівыя,
з аеру.
З былой гаркоты
выдзьмуты цяплом,
у рай кароткі на зямлі
паверу.
Я засынаю,
нібы немаўля —
як лёгка сэрцу
у пчаліным гудзе.
Я не жадаю
думаць пра пасля.
Я ўпэўнены,
што лепей мне не будзе...



Звісае
з ружовага бэзу галлё.
Замала букета —
ламай хоць бярэмя...
Брынчыць
ланцугом адарваным цялё —
рэжым надакучыў яму пад'ярэмны...
Ўсё бачыць
і брэша сабака нядрэмны.
Спыніся — прыгледзься:
красуня ў акне —
з букетам увішна снуе каля вазы.
І хваля гарачая шчокі кране —
прамчаць,
чорны дым выдыхаючы, МАЗы,
і ў гэтым
ніхто не заўважыць абразы.

Ганяюць па вуліцы мяч хлапчукі,
ля плота
юнак на гармоніку рэжа...
А ліпа ў нябёсах — вясковая вежа —
спрабуе паслухаць і ўцяміць бязмежжа...

* * *

Пупышкі, трава, салаўі
і... ледзь-ледзь
паціху пачне
навакол палавець,
цішэць —
шчабятанне, дурман і цяпло.
І пойдзе ўсё так,
як і летась ішло.
Туманы, дажджы
і маркота ў людзей,
зімовая сцежка
да новых надзей...
Што́ гэта —
замкнуты, бязвыхадны круг?
Ці гэта
ўгару па ўзыходзячай рух?
Закон паўтарэння?
Ці ў шале гарэння
бег часу сляпога
па круглай арэне?

* * *

На марудным агні дагарае асіннік —
хоча ў бабіна лета дарэшты згарэць.
На сыры, парыжэлы, паніклы маліннік
днём і ноччу бязважкая сыплецца медзь.
Я прыходзіў заўсёды сюды як на свята
і душу ля журботнага полымя грэў.
Зараз моўчкі стаю, нібы ў чым вінаваты
за былыя разы перад постаццю дрэў.
Хутка-хутка пад небам свінцовым паўстане,
замест шумнага вецця, астылая голь...
Хоць прырода не верыць у боль развітання,
нелюдзімы асіннік, вазьмі ты мой боль.

# АСЕННІ ПЕЙЗАЖ

*Сяргею Законнікаву*

Балотца, дзе лотаць у бросні зрыжэлай,
і побач аголены кусцік лазоўя.
Пабіты каровамі мокры іржэўнік,
на вецці паніклым пустое гняздоўе.

Прарослы пакосік няўбранай атавы,
надзьмутыя ветрам мяшкі-цэлафаны.
Слупы адгародкі мо некалі брава
стаялі, а зараз стаяць, як прафаны.

Занадта тужлівыя вочы ў цялушак —
звялі іх спажытак плугі і бароны.
Ніякіх прыстойных шматколерных птушак,
затое раллю атакуюць вароны.

А з неба яшчэ і дажджу пачастунак,
і лужына раптам маршрут перарэжа.
Ну хоць бы адзін які свежы малюнак —
хоць замак маленькі ці гонкая вежа.

Хай штосьці успыхне наўзбоч, загарыцца
агонь рукатворны і здзейсніцца песня.
Ну хоць бы адзін які тутэшні рыцар
нудоту хоць чым-небудзь ды перакрэсліў.

Не важна, хто будзе ён — рыцар ці комік,
хай выкіне толькі вясёлае сальта:
ну, скажам, фасоніста-цацачны домік,
калі ўжо не домік — хоць стужку асфальту!

* * *

Замоўк я, нібы згас у каранціне.
Плыве бяздоннасць неба ля шчакі.
Сарваўся голас. Лёгка ў павуціне
мае ўсе словы ловяць павукі.
Зямлі й нябёс пачнуцца перазовы —
ты ў сэрца гэту музыку занось.
І новыя разбуджаныя словы
народзяцца мелодыяй вось-вось.

І вось ужо дыхнуў у мой радок
зноў вечнасці асенні халадок.

## АСЕННЯЯ НОЧ

Як кінутая ў прадонне,
такая глухая.
Адчуўшы сваю беспрасветнасць,
вымерлі гукі.
Але непадатлівы вецер
упарта ўздыхае
і горне да шыбы галлё,
як кашчавыя рукі.
І шэпча малітву
азяблая яблыня ўпотай.
Шматзначна міргаюць
над ёю нябесныя знакі.
Адчайна рыпяць,
бы схапіўшы раматус,
вароты.
І глянуўшы ўверх, у бяздонне,
адчайныя выюць сабакі.
І сыплюцца зоркі — град слёз —
без усякай прычыны.
Дрымліваю тайнай
запоўнена дрогкая ціша.
О ноч, вы як родныя сёстры
з самотнай жанчынай,
якая ўспаміны калыша
і не закалыша.

* * *

Бульбу скапала і перакапала,
забуртавала, а холад не свішча...
Склала і яблыкі познія дбала
ўсе пад саломку на сцюжным гарышчы.

Знесены морква, бурак і капуста,
луг, ускапычаны загадзя, вымер.
На стадыёне — паверыце? — пуста.
Толькі варон пералічвае сівер.

Нешта, напэўна, зрабіць засталося...
Шоргат даносіцца з вуліцы чыйсьці.
Ходзіць з фабрычнымі граблямі восень,
як на суботніку, ссоўвае лісце.

4. Зак. 5132.

## АСЕННІЯ СТАВЫ

Цяпла ў паветры выстылым няшмат.
Пажухлі травы, ціхенька абвялі.
Паважна едзе па цэнтральным вале
апошні раз тутэйшы рыбнагляд —
уважлівы, бы едзе на парад.

Над воднай гладдзю сонца не пячэ —
у чаек выгляд не замілаваны.
Па самым дне сухога катлавана
раўчук маленькі борздзенька цячэ —
маўляў, жыццё не скончана яшчэ.

Зацятыя, чарнеюць чараты.
Запáлі. І ад росквіту былога
амаль не засталося анічога.
Шапоча глуха ўвесь трыснёг густы,
хаця яго не слухаюць кусты.



Лажыцца хмара на зямлю,
як ноч.
Дзьме бура
у шматлікія свісцёлкі.
Вятры віхураць пругкія наўзбоч
і верцяцца,
як вострыя свярдзёлкі.
Завальваецца
дружна свежы след,
і топяцца
гасцінцы і дарожкі.
Раз'юшыўся
на міг нябесны свет,
людзей пастрашыць выпрашыў
хоць трошкі,
патурбаваць бяспечных ездакоў,
хоць тут над імі справіць перамогу.
Як тэрарысты снежныя,
з бакоў
ускокваюць сумёты на дарогу.
Пуховы ляжа
на асфальт насціл —
і над маторам навісае ка́ра.
І со́тня конскіх утрапёных сіл
зрухну́ць не могуць
дымную пачвару.
Былое, вецер, ты не варушы,
мы за яго пакаяліся горка.
У нас надзея цвеліцца ў душы:
з табою мір наступіць за пагоркам...

* * *

Калі заціхае завея,
уляжацца выдзьмуты снег,
а ветру супыніцца бег —
лагода пад соснамі спее.

І сонца зірне з паднябесся,
спакой пасылаючы ўсім.
І тут жа, натхнёнае ім,
жывое варушыцца ў лесе.

Мільгае, як рыжая знічка,
слізгаючы ўніз па кары,
каб зноўку з'явіцца ўгары,
вавёрка пад голас сінічкі.

У дзятла з'явіліся шанцы
на працу, і гэтаму рад —
нібы перайшоў на падрад
і трэба спяшацца, спяшацца.

Каб выканаць місію роду,
напружвае сілы свае,
крутым капытом дастае
лось марную зелень прыроды.

* * *

Нялёгка меднай вытрымаць струне
і не парвацца на пачатку веку?
Танклявую сасонку вецер гне —
няма канца дакучліваму здзеку.

Адчуўшы сарцавінай: быць бядзе,
і давядзецца ўпасці праз хвіліну —
на грудзі старадрэвіны кладзе
дрыжачую ад страху верхавіну.

І цягне ў асалодзе сок зямны,
на нейкі міг стаіўшыся ў спакоі.
Ці то сасна прыпала да сасны,
ці маці абдымаецца з дачкою.



О як жа марудна ты падаеш, снег,
якое бязвольнае ў небе кружэнне.
Забыў ты ці, можа, свядома адверг,
як вязень няволі, закон прыцяжэння?

З якой неахвотай слізгаеш уніз
і робіш апошні свой танец самоты.
Канчаеш кароткі нябесны круіз,
каб потым памерці, застыўшы сумётам.

Крутнуцца ды зноўку крануцца б уверх,
дзе вольнаму воля, ніякай прынукі...
Ты з часу якога, даверлівы снег,
упасці не хочаш на вусны і рукі?

А можа, сняжынкі павольныя ўсе,
што надта жадаюць адвесці пагрозу,
бо кожная з іх з паднябесся нясе
нябачнай заразы крамольную дозу...

## 24 СНЕЖНЯ

Змрокам цягучым запоўнены лес.
Горнуцца прыцемкі смоллю да вокан.
Воблакі, воблакі снежныя спрэс —
ўсе мы жыўцом заматаныя ў кокан.

Дзівам было б, каб прабіўся прамень —
хоць бы адзін прыляцеў на пацеху.
Да немагчымага сплюшчаны дзень,
нібы прыціснуты прэсам ён зверху.

Ўсё ж такі скіне здранцвенне з плячэй,
з раніцы доўгачакана ўсміхнецца,
будзе вылузвацца з доўгіх начэй —
заўтра ўжо, заўтра
ён з месца скранецца.

Ветліва пырсне святлом па акне,
верне вачам далягляды і зоры.
Нібы расліна, да сонца памкне —
ясна і звонка пацягнецца ўгору.



З агульнага вецця прыўзняўшыся вышай,
па нейкай дасужай і пільнай патрэбе
пра нешта галінка вяршком сваім піша
на гладкай і сіняй паперыне неба.

У цьмяным парыве не ведае стомы,
нябачныя літары вывесці хоча,
каб словы з'явіліся. Ліст невядомы
як-небудзь жадае закончыць да ночы.

Карпее галінка, стараецца дужа,
ды пальцы яе, відавочна, аслаблі.
Ажно задрыжалі ад з'едлівай сцюжы
і задубянелі ў паветры азябла...

Мо пішаш, галінка, ўспаміны аб леце?
Ды штосьці паперына неба сухая...
Спяшайся, спяшайся, бо стомлены вецер
паволі сціхае.

* * *

«Ідзеш да жанчыны?
Не забудзь бізун!»
*Ф. Ніцшэ*

Калі сабраўся ў госці да жанчыны,
да той, што сон твой расхітала дужа,
не злосць сваю у вобразе ляйчыны —
пусці наперад вогненныя ружы.

Не цэлы тузін крыўдаў і дакораў
прынось з сабой на месячную сцежку —
бяры ў дарогу мяккую пакору
і нават вінаватую усмешку.

Калі прыйшоў у госці да жанчыны —
спатоліць неспатоленую смагу,
пакінь на ганку, блаславіўшы чынна,
яе ахову — рыцарскую шпагу.

І пакляніся зорам і нябёсам:
«Я кожны крок абранніцы уквечу.
Я заплачу сваім уласным лёсам
за гэту і наступную сустрэчу».

Калі жанчыну першы раз галубіш —
прынцэсу сэрца і душы графіню,
ці вырашыў,
каго ты болей любіш —
каханую ці сцятую рабыню?



Ці патушыла вусны ваша ноч?
Бяздонную ці наталіла смагу?
Ці рады дню,
ці хочацца працягу —
святла і часу гулкага наўзбоч?
Чым скончыўся ўтрапёны позні баль,
дзе ў скрыпцы першай віртуознай цела?
А вось душа паслухаць што хацела —
ці шум крыві, ці ў небе пастараль?
Пад месяцам блукала давідна,
плыла павольна над зямлёю цёмнай.
Бязважкай, сумнай, чыстай і бяздомнай
хмурынкаю жадала быць яна.



Ей чайкі садзяцца амаль на плячо,
і хваля штораз аж да ног дабягае.
Па белым пяску шпацыруе дзяўчо —
бярозка, дый годзе, узятая з гаю.

Калі ўжо не з гаю, то, пэўна, яна
сышла на кароценькі міг з паднябесся.
Звініць яе точаны стан, як струна.
Пранятае сонейкам цела — як песня.

Вось кінецца зноў на марскую пасцель
і будзе вадзе, як маленькая, рада.
Ды зараз мужчынскія лашчаць пагляды
і цела яе абвіваюць, як хмель.

А ветрык на русай яе галаве
хітнецца, папесціцца зрэдку.
Не хочацца ў мора. Без мора плыве
цяпер яна ў тысячных зрэнках...

## СУПЕРНІЦЫ

Яна паглядзела на звабнае цела
з адчайнай увагай,
з напружаннем дрогкім.
Спакойнай застацца страшэнна хацела,
хоць ёй захаваць раўнавагу нялёгка.
Падумала горка: «У чым яе сіла?
Высокія грудзі? Пагляд яснавокі?»
Зацята заўважыла і ацаніла
і белыя рукі, і свежыя шчокі.
Плячэй паўадкрытых малюнак авальны,
і лёгкія крокі, і мяккія рухі...
Ёй балы давала прафесіянальна —
без злосці, якую нясуць векавухі.
І ёй асабіста здаліся прынадай
і чорныя бровы, і кругленькі роцік...
І дужа была яна ўсё-такі рада,
што ўбачыла раптам не імпартны боцік...

* * *

Чатыры рукзакі
ляжаць — скачы, народ!
Дзяўчаты, юнакі —
пад васемнаццаць год.
Іх цела — льецца звон
з-пад маечак, трыко...
Ламаючы батон,
п'юць смачна малако.
У шыбу паглядзяць —
ах, як іх лёс нясе!
Так яблык храбусцяць,
што нават змоўклі ўсе.
Здаецца, смеху мех —
абрыдзеў нудны быт.
І зараз іхні смех
грыміць, як дынаміт.
Шчаслівы гулкі міг.
Апроч таго, апроч
чакае сёння іх
у дзвюх палатках ноч.



Навошта вы, жанчыны,
так лаеце мужоў —
спазняюцца яны па праву па якому?
На крыллях прылятуць
без вашых нудных слоў,
калі карціць душы варочацца дадому.
У вас замнога слоў,
неапраўданых мук,
сваіх мужоў яшчэ
вы не паспелі ўведаць.
Калі нясе душа
да вашых цёплых рук —
прыедуць на таксі,
не спозняцца, прыедуць.
Тады толькі заўжды спазняюцца мужы,
калі чакае іх...
цяпло кухоннай міскі.
Як цяжка ім дамоў вяртацца
без душы,
якая за акном
блукае без прапіскі.
Вы супыніце крык,
не трэба вашых слёз,
няхай спакой пашле
усім вам розум дужы.
Не ведаеце вы,
дык, можа, знае лёс,
чаму ўсяго на міг
сышліся вашы душы.

* * *

Мы ў поўным бязлюддзі, у позняй глушы,
адступіцца дзень, мітуслівы і грузны.
І блізка падыдзе душа да душы,
спаткаюцца рукі, сустрэнуцца вусны.

Не чэпяцца страх, прадчуванне бяды,
не ліпне густым халадком невядомасць...
Няўжо гэта праўда, што толькі тады
выблісквае шчасце, як гасне свядомасць?

# У ПАРКУ

Самыя светлыя мукі —
ду́шы вось-вось злiюцца.
Чуйна-сасмяглыя рукі
хмелем на шыі віюцца.

Радасцю позірк сагрэты,
шчочкі у сонечным цвеце...
Лёгкае сэрцайка, дзе ты?
Ты на якой планеце?

Ох, як трапечацца гулка.
Мілыя ўцехі-забаўкі...
З цёмнаю сумкай бабулька
ходзіць маўкліва ля лаўкі.

Што заблудзіла старая
тут на зыходзе нядзелькі?
Пільна пад куст пазірае
і сабірае бутэлькі.

Можа, яна невідзімка,
хітрая ведзьма чужая,
бо дзеўчынёха з абдымкаў
гэтага не заўважае.

Праўда ці тут недарэчнасць,
бачу ці толькі здаецца,
як паміж імі вечнасць
стала і ціха смяецца.



Сусвету цэнтр — мы з табой удвух.
Нячутна ўсё ж падкрадваецца скруха.
Навокал нас замкнуўся шчыльна круг,
хоць закрычы, настолькі стала глуха.

Ды можна прызвычаіцца як след...
У рэшце рэшт прывыкнуць нашы вочы.
І стане ясна: гэта наш сусвет,
дзе ёсць у нас свае і дні і ночы.

Адліжны дзень і сіверны мароз,
ёсць санцавей і слота ледзяная.
Ідуць дажджы, ліюцца ліўні слёз,
цяплынь-усмешка душы разгінае.

І можна жыць, бы ў бочцы Дыяген,
не знаючы нічога пра бязмежжа,
пакуль касмічны промень-аўтаген
твой круг аднойчы ноччу не разрэжа...

Раптоўна ўбачыш, глянуўшы ўгару:
кудысьці зорка з неба паляцела.
Як потым цяжка ў круг, нібы ў нару,
вяртаць сваё прасветленае цела.



А дзве свечкі гараць...
І агульныя водбліскі скачуць
на абжытай і цёплай,
хаця непрытульнай сцяне.
Ах, навошта ён тут —
дысананс адзіночнага плачу?
Ён нічога не зменіць,
а толькі агонь калыхне.
А дзве свечкі гараць
і паціху змяншаюцца разам.
Пэўна, будзе ўсё так,
усё так, як дагэтуль было.
Ах, навошта яны —
узаемныя нашы абразы?
Хіба скажаш, чыё
болей яркае льецца святло.
А дзве свечкі гараць —
гэта лёс... Адначассе гарэння
з нас нікому ніякіх
ужо не дае пераваг.
Зноў дрыжыць і дрыжыць ён —
ахвярны агонь прымірэння,
што прарос і ўзышоў,
як на воску, супольных гадах.



Пара прыхарошвання
выходзіць на белыя сцежкі.
У зрэнках-гарошынах
світанне таемнай усмешкі,
вясёлыя д'яблікі
і лёгкія блікі лагоды.
Цнатлівыя заклікі
да вуснаў — да свежага мёду.
Пара прыхарошвання,
цюльпаны і іншыя кветкі.
І сэрца запрошана
да іншага сэрца ў адведкі.
Як душы, што музамі
ўзносяцца ў час вечаровы,
нябеснаю музыкай
плывуць выпадковыя словы.
Ўсе зоры варушацца —
згары прысягаюць на вернасць.
У вочы цярушыцца
па кроплі брыльянтавай вечнасць...
Пара прыхарошвання,
з табой адбылося расстанне.
Па травах пакошаных
чамусьці сышла ты ў світанне.
А можа, ты ноччу зблудзіла —
і сэрца спустошана.
Ах, лепей бы днём ты хадзіла,
пара прыхарошвання!

# НЯЗБЫЎНАЕ

— Ты ясенем светлым урос у мой лёс.
Ты — самая добрая, мусіць, прычына
і ранніх, і позніх няклiканых слёз,
мой любы, харошы, мой першы мужчына...

— Ты — белая вішня на даўнім двары,
пялёсткі якой не былі ў патуханні.
Былое світанне ў душы і ўгары,
мая неспатольная песня кахання.

— Збавенне адно — нашых душ перастук.
Была я і гнуткай, і ценькай ляшчынай —
віхор адагнуў ад тваіх мяне рук,
мой любы, харошы, мой першы мужчына.

— На сцежках маіх лапушыцца быллё...
Найбольшая, пэўна, памылка на свеце,
што дрэва майго маладое галлё
тваё не шукала пяшчотнае вецце.

— Прызнайся, ці часта прыходжу я ў сон
такой жа ранейшай вясенняй дзяўчынай?
Ах, не адпускай, заключай у палон,
мой любы, харошы, мой першы мужчына.

— Я зноў валасоў тваіх радасны лён,
бывае, паўночнымі лашчу вачыма.
— Ах, не адпускай, заключай у палон,
мой любы, харошы, мой першы мужчына.

## ФАТАГРАФІІ Ў КІЁСКУ

Паменела убранства —
як будзе жыць кравец?
Святому пурытанству,
відаць, прыйшоў канец.
Тут просценькая сутнасць:
цяжэй за ўсё пачаць...
Паўзуць таропка сукні
з жаночага пляча,
штоззяе сонцам-лакам...
А сорам — гэта воск.
Прыгожанькім русалкам
шлях адчыніў кіёск.
Яны ў пікантнай позе,
адкрыты свету бюст.
Вясёлы дымны позірк...
Глядзі — на кожны густ.
Юнак, віхрасты Колька,
і дзед сівы як лунь —
вы радуйцеся, колькі
айчынных прыгажунь!
Які ні зробіш захад,
каб вабіла акно...
Па гэтай частцы Захад
нас абагнаў даўно.
Ёсць добрыя намеры
прайсці хутчэй лікбез —
не без «Маленькай Веры»
ў купальніку і без.
Старацца дык старацца!
Каб не праслыць ханжой,
калі ўжо распранацца —
хутчэй, чым за мяжой!



Вятрыска, колкі снег, зіма.
Адзінае — тваё імя
мне свеціць, бы спакойны месяц,
цяпер, як не знаходжу месца.
Скразная золь, настырны холад.
Мне ён ніхто — азызлы горад,
яго душа, яго натура,
адметная архітэктура,
фасад і чорны двор ягоны,
пчаліныя мікрараёны,
дзе не знайшоў кутка сабе я.
Сагрэць ягоны сквер не ўмее.
Раскінуў голле парк пусты.
Адзіная каштоўнасць — ты...
Малая цёплая іскрынка.
Не знаю, у якім будынку
(чыя ці, можа, нічыя)
трапечацца душа твая.
Плыве твой позірк малады
ізноў праз камень і гады.

* * *

Мой сябар,
што ты згас-патух?
А мо сям'я —
і праўда круг?
Хоць сэрца з сэрцам
у саюзе,
ды воля —
шарыкам па крузе...
І тут,
нібы на крытым трэку,
занадта цесна
чалавеку.
Ты нават
уявіць не мог,
што думкі падаюць
да ног.
Ды марыць
кожны валацуга
набыць
сталёвы панцыр круга.



Бракуе рашучасці для расставання,
для новай дарогі, што зробіцца гладкай...
Шлях вельмі пакутлівы ў суіснавання —
прыцірка, прысадка, прыкідка, прыглядка.

Ёсць мроі дзівосныя, як кіпарысы.
І свецяцца словы «каханая», «любы».
Ды гірамі ціснуць душу кампрамісы —
самотныя вочы, падцятыя губы.

А шчасця палац не ўзнімаецца. Кладка
тых сцен верагодная толькі ў лагодзе...
Прысадка, прыцірка, прыкідка, прыглядка,
а потым... глядзіш, і твой век на зыходзе.



Яна і ён. Як і заўжды — удвух,
старыя распагоджаныя твары.
Вось-вось завершаць свой жыццёвы круг,
прайшоўшы колькі вёрст па тратуары.

І ззяе заспакоенасць з вачэй,
боль не ператвараецца ў грымасу.
Штодзень гадзіннік цінькае званчэй —
пакорліва даверыліся часу.

Іх душы згодна сняць аб сіняве,
куды ляцець, як не ў нябесны поплаў.
І кожны з іх на ціхай галаве,
як божы дар, нясе агульны попел.

5. Зак. 5132.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Агледземся — можа, што ёсць
вакол. Не руіны ж адны.
Ці шкельцы разбітыя скрозь
валяюцца ад даўніны!

Агледземся. Спалася нам
так доўга пад шум баравы.
Сцяжынка расчынена ў храм,
што нудзіцца без галавы.

Напружым аглушаны слых,
наблізіўшы твар да раллі —
паслухаем жаўранкаў тых,
што некалі мову далі.

Імчыцца бяда стрымгалоў —
раней яе важна паспець...
Да родных датулімся слоў,
што дыхаюць сёння ледзь-ледзь.

Кранемся і пройдземся ўсё ж
слядамі былых гарадоў.
Хай стануць у сэрцы, як нож,
выявы самотных гадоў.

Памацаем дрогкай рукой
гранітны патрэсканы брус.
Абдымем зямлю, па якой
эпохі прайшоў землятрус.

## БЕЛАРУСАМ

Ах, мой народзе, ні адно ярмо
насіў, скідаў, зноў надзяваў, нябога,
але за іх страшнейшае намнога
чарнобыльскае чорнае кляймо.
Яно ўвабрала стоенае зло,
яно візіткай стала беларуса
і сведчыць, што такога землятруса
нідзе яшчэ дагэтуль не было.
Народ азёраў, соснаў і бяроз
якой сляпой дасужыўся абразы —
заложнікам стаць д'ябальскай праказы.
І роспачна, і сорамна да слёз.
Хто ведае, праз колькі яшчэ год
журбу і горыч цёплы вецер зліжа.
І будзе лёс наш векавечным крыжам
стаяць над намі, мілы мой народ.
Прывыклі мо да долі ўжо такой —
не можам штось разжыцца на зямельцы.
Мы бежанцы святыя, пагарэльцы,
што ў свет ідуць з працягнутай рукой.
Мы будзем помніць, хто нам дапамог,
мы не забудзем, хто нам зла падкінуў.
Паплачам крыху. І сваю хаціну
мы пакладзём ізноў на свежы мох.
Як-небудзь адбудуемся ізноў.
Мы станем, мы прыўзнімемся на ногі.
Адкінем сон — і выпаўзем з бярлогі,
сваю ціхманасць скінуўшы далоў.



Зямля мая! Як час віхурна трос
заўжды цябе, збудзіўшы на світанні.
Ну трэба ж мець такі нядобры лёс —
раскінуцца на самым скрыжаванні.

Як шмат стаптана бульбы і травы
за ўсе гады, а як абрыдла гэта...
І гасячы напор свой лабавы,
таўкліся тут усе напрамкі свету.

Было няпроста край перамагчы
і праскакаць палетак васільковы.
Тупіліся гарачыя мячы,
гублялі коні ўсе свае падковы.

І зноў чаромха радасна цвіла,
а з вокан усміхаліся вазоны...
Зямля мая! Як доўга ты была
чужому людству буфернаю зонай.

І сёння ты, хоць і бракуе сіл,
сабе ўзяла чарнобыльскія беды —
у глыбіню ўсмактала чорны пыл,
пашкадаваўшы блізкага суседа.

А загубіўшы не адзін лясок,
у свае нетры ты ўвабрала цэзій.
І чорны пыл, і нежывы пясок
самаахвярна праз сябе працэдзіш.

* * *

Хоць ты і ў нябёсы палез,
пакуль што і кволы і ценькі.
Чаму ж ты, айчынны мой лес,
усюды такі маладзенькі?
З бакоў травяных да вачэй
падлеткам бяжыш неспакойным...
Чым сталасць лясная, хутчэй
прыходзілі з піламі войны.
Калі ж разгарнуцца ты мог?
(Хоць неба пакратаць павінен.)
Чарговы ўзварушваю мох —
і бачу адно пілавінне.
Ды будзеш да зорак бліжэць —
не возьме ніякая трасца.
Удасца табе падужэць —
і нам стаць на ногі удасца.



Даўно сабраўся ў іншы свет —
адна вярста ў нябесны рай.
Ціхманы беларускі дзед,
пакуль што нас не пакідай.

Ты не развітвайся — не час,
свой голас надта не глушы.
Не аддаляй навек ад нас
свой нечапаны скарб душы.

Ты ўсё ж даруй за боль і здзек,
за крыж, што вынес на гарбе.
За ўвесь цярніста-доўгі век
ніхто не выслухаў цябе.

А толькі білі пугаўём,
не ведаў, плакаць ці трываць.
На роднай мове салаўём
ты ўмееш лепш за ўсіх спяваць.

Хто дар твой гэты ацаніў
сярод пустых шматлікіх спраў?
І нетраў пах, і песню ніў
з крывёй ты ў сэрца увабраў.

Каб край душу сваю не звёў,
не забірай з сабой у рай
ты музыку тутэйшых слоў —
у рукі ўнукам перадай.

## БЕЛАРУСАМ, ЯКІЯ З'ЕХАЛІ ДАЛЁКА

Хто ні ўцякаў, прызнайся,
на цаліну, у войска...
Жыць можна хоць на Марсе —
абы далей ад вёскі!
Далей ад цёмнай скрухі,
ад коней адабраных,
ад ганьбы, галадухі,
ад брыгадзіраў п'яных.
Хоць у гушчар сібірскі —
прыгону б ім не ведаць,
ад самых родных, блізкіх,
якія ўжо не з'едуць.
Пылілася шаша
за лесам развітальна,
і плакала душа,
бо гэта ненармальна.
І грэчневае поле
цвіло перад вачамі.
Старых бацькоў юдоля
ўсё кашляла начамі.
Застаўся нуль уцехі,
след пад вачамі мокры.
Дзіравіліся стрэхі —
і раптам сляплі вокны...
Чаго мой край ні зведаў,
як доўга быў ён колкі...
О дзе вы, нашых бедаў
балючыя асколкі?
Святога краю позыў
трывожыць вашу стому.
Але... занадта позна
любоў вяртаць дадому.

## ПАЎДЗЁННЫ ВЕЦЕР

Лёгкі, парыўны, аддана-ўлюблёны,
ветрык, о як ты галубіш і песціш.
Доўгачаканы, нарэшце паўдзённы,
хочаш свой дотык да вуснаў данесці.

Гойдаеш ты парушынкі-аблокі,
ціха азёрнае кратаеш люстра.
І заміраюць ад радасці шчокі,
рукі табе распасцёрты насустрач.

Толькі тужліва на ўсёй Беларусі,
край наш
спакой, не жадаючы, страціў.
Я цябе, вецер паўдзённы, баюся —
ты нам аднойчы бязлітасна здрадзіў.

Колькі прынёс ты смяротнай атруты,
ёю засыпаў палеткі і вокны.
Колішні вецер, прызнайся, чаму ты
дзьмуў так старанна у бок наш, у бок наш?

Чую твой шэпт з-пад галля глухаваты:
«Я не чакаю ад вас прывітанняў...
Не вінаваты я, не вінаваты —
не задавайце мне цяжкіх пытанняў...»



Не згасне ў Бацькаўшчыну вера,
ў яе вясну, у спеў шпачыны,
пакуль Максімава Венера
гарыць над хатамі Айчыны.

Мы слабыя. Нам вельмі горка.
Нас ці ўратуюць песні-лекі?
Хай дапаможа наша Зорка —
не выйдзем з-пад яе апекі.

Мы заўтра ўзнімемся на ногі —
ажывяць родныя крыніцы.
А як нам выйсці на дарогу,
падкажа шчырая Дзянніца.

І блаславіць яна Світанак
буслінага святога краю.
Яго марудны, доўгі ранак
хай пройдзе і святлом зайграе.

Як майскі гром у атмасферы,
празвоніць пошчак абуджэння.
Бо ёсць Максімава Венера —
нябесны компас Адраджэння.

6. зак. 5132.

## З НАГОДЫ АДКРЫЦЦЯ МУЗЕЯ Ф. БАГУШЭВІЧА

Як позна да цябе прыйшлі.
Цябе любілі на паперы.
А расчыніць шырока дзверы —
збаяліся, занемаглі?

Чаму праспалі лепшы час?
Усё яшчэ даймалі страхі,
што возьмуць некага пад пахі,
каб не схацеў наступны раз?

А можа, шмат сляпых, глухіх
ёсць сярод нас — мо ўсе навокал?
Завучвалі чужых прарокаў
і білі палкамі — сваіх.

Глядзелі сціпла з-пад вярбы.
І за падкінутую лусту
служылі мы свайму халуйству,
са стажам радасным рабы.

Пакорненька маўчалі мы.
Нас мучылі не толькі немцы,
але і нашы іншаземцы
за нораў ціхі і нямы.

Наш дух усё-ткі не аслаб,
і мы не з кволенькай кагорты.
Здымаем путы з ног нацёртых
і выкідаем з рота кляп.

І да цябе ад той зямлі,
дзе слова роднае мацнее,

наш сейбіт ранні, наш Мацею,
хоць позна, але мы прыйшлі!

Мы далучылі твой куток
да сэрца шчырага навекі.
Мы ўсе — твае галлё і рэкі.
Мы дзякуем за наш выток!



І хто ні цёрся ля цябе, народ,
каб выпіць задарма з тваёй крыніцы.
Хто толькі ў твой ні лазіў агарод,
жадаючы са смакам пажывіцца.

Гудзе, нібыта ў кругляку дубовым,
моц у тваім непаламаным целе.
Авантурысты, гніды, пустасловы —
ўсе да цябе прымазацца хацелі.

Пры гэтым, чэрці, ад твайго імя
якіх дарог у рай ні навяшчалі.
Ні тога раю, ні саміх няма —
але з якою гучнасцю вішчалі!

Ад іхніх слоў — аскома на зубах,
і сёння іх ты супыняеш: годзе!
О як ты толькі ў горы не зачах,
балесны мой, цярплівы мой народзе!

# ГОРАД АШМЯНЫ

*Г. Пішчыку*

Як кот на плоце, грэешся на горцы.
Амаль што круглы, як пшанічны блін.
Заходні наш суцішаны дазорца,
маленькі беларускі Сахалін.

Ды воблік твой далёка не вайсковы,
хіба салдацік трапіцца адзін.
Яшчэ азон не выве́ўся вясковы,
хоць паліш і салярку, і бензін.

Тваё дыханне ўсё ж пашкадавала —
прайшла наўзбоч бетонная шаша.
Хапае бульбы і хапае сала —
шчаслівая сялянская душа!

## НАШЫ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ

Дзесятыя — нібы ганцы расплаты...
Падкопы, звяганні і войны.
Фінал прароцтва: «Брат на брата...»
Маркотны гул айчыннай бойні.

Дваццатыя галаднаватыя,
калі цвіло надзеяй гора.
Пад гоман рыначны аратаю
пятлю падсоўвалі пад горла.

Ах вы, сібірскія трыццатыя —
сталіцы, вёскі і мястэчкі
замёрлі ў страху, як зацятыя...
Вам хочацца паставіць свечкі!

«Сороковые роковые»,
раструшчванне фашысцкай клеткі.
Пароўну — мёртвыя, жывыя...
Прыміце сённяшнія кветкі!

Пяцідзесятыя — наш ранак
вясны — няхай з жытамі нізкімі.
Уздым. Агонія тырана.
Усмешкі першыя калымскія.

Шараханні шасцідзесятых,
раскрадванні сямідзесятых,
дзе дрэмлюць на пярыне штаты
ў чаканні кругленькай зарплаты.

Васьмідзесятыя — не босыя,
але па-людску не абутыя.

Крыклівыя, мнагагалосыя —
нарэшце вольныя, раскутыя!

Як хочацца пажыць у радасці,
у цеплыні, святой лагодзе.
Без шуму, плачу і без крайнасцей
прыйдзіце вы, дзесяцігоддзі!

І будзьце лепш мануфактурнымі,
чым толькі одамі хвалебнымі.
Не столькі маршамі бравурнымі —
вы станьце шчырымі і хлебнымі.

## ЭМІГРАНТЫ

Запырсканы, з пены марской небакрай...
Расія.,. Ды сёлета — гэта не летась...
Прасвечаны сонцам усіхнім адчай
падхопліваў, як севастопальскі ветразь.
І лашчыўся вецер з-пад ялцінскіх скал,
шаптаў развітальна пра шчасце і волю.
Мяцежнага полымя ўздыблены вал
ужо набліжаўся з палыннага поля.
Паклікала чайка марская здаля,
на мове сваёй колькі раз пракрычала.
І толькі свая за спіною зямля,
любімая, мілая, ўсё ж прамаўчала.
На беразе стала крыўдней удвая.
Свінцовай тугой налівалася цела.
Хай бура, ды бура айчынна-свая,
а вось зразумець іх яна не хацела.
Як цяжка ўспамін валачыць за мяжу
пра страчаны край, які стаў нелюдзімы,
дарожнай вяроўкай скруціўшы душу,
у чамадан спакаваўшы Радзіму...

## АПАНТАНЫЯ

Ператварыць у сад зямлю
мо хочаце, вятрам адданыя.
Я не люблю вас, не люблю,
максімалісты апантаныя.

Чаму — не ведаю і сам —
вы мне не падарылі радасці.
Я спачуваў, бывала, вам,
не зведаўшы ніякай зайздрасці.

На месцы высушаных слёз
вы пасялілі ўсмешку гордую.
Вам выйграць хочацца свой крос,
не палічыўшыся з пагодаю.

Дакор ніколі вас не грыз,
прапахлі бурамі і порахам.
І нават лёгкі кампраміс
здаваўся самым лютым ворагам.

Не адчувалі за сабой
дарогі зранена-знявечанай.
І сохлі кветкі пад нагой,
і глохлі душы чалавечыя.

Мо й ашчаслівіце зямлю
і пірагамі, і фантанамі,
я не люблю вас, не люблю,
максімалісты апантаныя.

## КІНАФІЛЬМ

Над цэлым стэпам звоняць капыты.
Будзёнаўцы. «Тачанка-растаўчанка»...
Над грывамі крывавіцца заранка:
Разяўленыя дыхаюць раты.

Па дзікім полі скача маладосць.
І той імпэт — зусім не прымусовы.
Абнятая палотнішчам пунсовым,
віхурыцца уздыбленая злосць.

Ляцяць галовы на густы палын —
за ўсё, за ўсё і плата, і расплата.
Ідуць сцяной жалезнай брат на брата,
на сына бацька, як на бацьку сын.

Вачэй айчынных гасяць сіняву,
забітых коней груда на дарожцы...
Прытомленыя кураць пераможцы
і выціраюць шаблі аб траву.

А мы глядзім. Нікому не баліць.
Ні літасці, ні кропелькі спагады.
Здаецца, ўсе, усе чамусьці рады,
а трэба ў гэтым месцы слёзы ліць.



Асобныя людзі
не зведалі злосці,
шаленства.
Іх, як забіваць, не вучылі...
Яны не назвалі
вампірам кагосьці,
тым болей
чужых манет не лічылі.
Крываваму не давяралі патопу
асобныя людзі.
Праз жаласны сорам
глядзелі ў чырвоныя вочы натоўпу
з біблейскаю скрухай,
з бяссільным дакорам.
Асобныя людзі —
іх болей і болей.
Нязмушана п'юць
сваю горкую чашу.
Яны прысягаюць не лозунгу —
болю.
Душу
выратоўваюць бедную нашу.

* * *

Вялікі клопат быў — аб ім.
І ён узрадаваўся, хмельны.
«Хто быў нічым, той стане ўсім» —
шавец, кравец, малазямельны.

Усе, хто надта кепска жыў,
хто харчаваўся вельмі блага,
хто не араў, не пёк, не шыў —
лянівец, злодзей і бадзяга,

зайздроснік вялы, падхалім
і саранча ўся немалая...
Хто быў нічым — і будзе ім.
Тут проста цудаў не бывае.

* * *

О колькі харошых не стала людзей,
як шмат пракацілася гвалту сляпога.
Якіх толькі добрых не з'ела надзей
крывава-галодная наша эпоха.

Яна і душу маю ў радасны час,
не даўшы цвісці-расцвісці, праглынула.
Як доўга вяла паляванне на нас
драпежная гэтая злая акула.

# МОНСТРЫ

Чые ж вы дзеці? Хто на белы свет
вас нарадзіў і да грудзей прытульваў?
Вы аж да скону агнястрэльны след
пакінулі ў душы сваёй матулі.
Як вабіла, як узвышала зло,
як вы раслі уверх увачавідкі!
А сэрца ваша у той час гуло,
нібы метал праслаўленай Магніткі.
Сумлення дзяцел вам душу не дзёўб,
ішлі, бы ў храм святы, у катавальню.
І выязджалі у людскі натоўп
па-каралеўску вы на паляванне.
Ах, што гэта былі за вечары,
не вечары — страхотныя пачвары...
Вы запускалі ў цела кіпцюры,
спакойна ў вочы гледзячы ахвяры.
Ні літасці не зналі, ні віны —
вяршылі горда свой занятак шчыры...
Якія ж сёння вам прыходзяць сны,
прыгнутыя ад старасці вампіры?
Не дадзена злачынства закапа́ць,
як немагчыма дзень спісаць расплаты.
Няўжо і сёння дазваляюць спаць
вам вашы сны і вашы Курапаты?
Ды прозвішчы аддаўшы ў райсабес
са стажам дзікім — як жа без падтрымкі! —
забіліся вы ўсе ў архіўны лес
і зніклі ў ім, як тыя невідзімкі.

## ДАРОГА АБСУРДУ

Ішлі — не злічыць — цягнікі, цягнікі:
мо войска ў палон хапянулі ў Антанты?
«Трацкісты», «бухарынцы» і кулакі,
«шпіёны японскія» і «дыверсанты»,
ясенінцы, балбатуны, урачы,
ксяндзы і баптысты са знакамі Бога,
даносчыкі шчырыя і стукачы,
і тыя, і тыя, хто ведаў замнога.
Іх гналі па сцюжным пероне ў загон —
жалезныя дзверы расчынены насцеж.
Трашчаў перагружаны тройчы вагон,
і нават калі паміраеш — не ўпасці...
Сасмяглыя губы шапталі: вады...
А вочы па снезе блукалі вячыстым.
І слынны прафесар — далей ад бяды —
шкарпэткі дарыў сваё рэцыдывісту.
Грузнелі і пахлі тайгою снягі,
і тысячы жыццяў — па зонах, па зонах...
Айчынныя мускулы, плечы, мазгі
марнелі, і сохлі, і гаслі ў вагонах.
А беглі назад толькі паражнякі,
як быццам іх гнала нячыстая сіла.
Бо, каб загрузіць тыя ўсе цягнікі,
сібірскага лесу б, відаць, не хапіла...



Больш не скокне ў гняздо,
у гняздо не залезе.
Плача,
страціўшы хатку маленькую, дрозд.
Вы хавайцеся, птушкі,
бо ходзяць па лесе
без сумлення-душы
разбуральнікі гнёзд.
Іх страшэнна не любяць
у нашым народзе —
тых малых дзікуноў,
што свой ганьбяць узрост.
А калісьці былі яны
нават у модзе —
у высокіх кругах —
разбуральнікі гнёзд.
Недазволены плач
уздымаўся пад зоркі,
з хатаў пер'е ляцела
на тысячы вёрст.
Назаўжды, назаўжды
астывалі падворкі,
як наведвалі іх
разбуральнікі гнёзд.
Колькі людцаў пакутных
па снезе, па снезе —
у сібірскую далеч
або на пагост...
З цягам часу бывае
зацесна у лесе
пасталелым ужо
разбуральнікам гнёзд.

* * *

І скончылася свята —
душа заныла нема.
У галаве вар'ята
сляпая ўзнікла схема.

Яна — стварэнне шалу.
Саскочыла спружына!
Дзень-ноч запрацавала
крывавая машына.

Здзек будзе нечуваны —
вар'ят убок не зверне.
Пайшло пад барабаны
мільён людзей на зерне.

Ажно пад неба крыкі
з тых малацілак лютых.
О самы грэх вялікі —
эксперымент на людзях.

## ЗАВІРУХА 40-ГА ГОДА

Калі б не ты, сляпая завіруха
былой зімы саракавога года,
загінулі б усе мы, нібы мухі,
ператварыўшыся ў кавалкі лёду.

Не выжыў бы ніхто з маёй сямейкі —
ні бацька з маці, ні браты з сястрою.
Нямыя душы выпалі б на рэйкі,
абнятыя сібірскаю зарою.

Напэўна, лёсу страшная пагоня
дагнала б нас. І прастагнаўшы глуха,
заціхлі б мы ў прастуджаным вагоне,
калі б не ты, сляпая завіруха.

Калі б не ты, як сіла дапамогі,
што прашумела над маркотнай хатай,
не заваліла б гурбамі дарогі
у зборны дзень да станцыі праклятай.

На гэты раз, відаць, пашанцавала,
быў люты дзень да нас надзвычай шчыры.
Пра нас на час, хоць верылася мала,
забыліся раённыя вампіры.

А покуль іншых слалі ці стралялі
у Курапатах пад сваёй зарою,
пакуль чарговы выклік афармлялі —
я нарадзіўся... І затупаў пад вярбою...

Калі б не ты... і сэрца пройме скруха.
Калі б не ты — не зведаў свет бы мілы.
Ты загадзя, сляпая завіруха,
маё з'яўленне ўсё ж благаславіла.



Асвенцім, Майданак, Дахаў і потым
яшчэ Бухенвальд, Бабін Яр, Трасцянец...
І вось Курапаты... Наперадзе што́ там?
Зноў доўжыцца рад — а калі ж ён, канец?

Маркотныя спраты твае, Курапаты,
слязу выціскаюць і ў сонца, і ў золь...
Нашто вы стараліся моцна, лапаты,
нам выкапаць самы пранізлівы боль?

Ну як яго, як яго зараз загушкаць,
варушыцца — ў сэрца не кінеш на дно.
Не кінеш... Напэўна, тутэйшыя птушкі
аплакваюць гэтае месца даўно.

Скажыце пра страты хоць што, Курапаты,—
што́ тоіць шмат'ярусны страшны насціл?
Чый бацька, чый сын тут? Ні знаку, ні даты.
Адна цішыня ананімных магіл.

Тут вусцішна дзятлу і вусцішна сойцы.
І я не магу зразумець аднаго:
ахвяры, ахвяры — а дзе ж вы, забойцы,
забойцы і каты народа майго?

## АТРУТНАЕ ЗЕЛЛЕ

Стаяла на кволенькай ножцы няўмела
і справіць хацела сваё наваселле.
Спачатку тры лісцікі кволыя мела
атрутнае зелле.
Стаяла і нават не прагнула вышай,
было нізкарослым сярод мнагатраўя.
Па сціпласці сонца не засціла іншым,
прыхільна глядзела з чабору і шчаўя.
Хто ведаў, што будзе яно такім слынным.
Як хуценька сталася — можна звіхнуцца!
Аднойчы адчулі вароны-расліны:
атрутным дыханнем вось-вось захлынуцца.
Чаму ж не хацелі яны лапушыцца
і парастак хібны сагнуць і зацерці.
А зараз драпежным ён лісцем лажыцца
на макаўку ім, пагражаючы смерцю.
Былы неданосак, а ўюшыўся смагла,
над полем усім распусціў апярэнне.
І нават суседняе жыта зачахла —
далёка ўпілося благое карэнне.
«Не стане, напэўна, ні волі, ні хлеба —
па ўзмежках худое шкандыбае гора,—
адчайна сябе вінавацiла глеба:
— Чаму ж барану не паклікала ўчора?
Чаму ж не павесіла камень на крылы
я парастку тому, што лез з падзямелля?
І сок я чаму ж гэта не перакрыла
атрутнаму зеллю?

## ЗЕМЛЯКАМ

Зрабіў я тут першы свой крок,
ды жыў нібы з боку прыпёку...
Маленькі наш быў хутарок
бяльмом на вясковым воку.

Яго дараваць не маглі
ні бацьку, ні нам, малалеткам.
Бо ладны кавалак зямлі
упёрся ў худыя палеткі.

«Чаго яны хочуць, чаго?»
Памучыўся бацька нямала.
Палова здароўя ў яго
Амерыка ўсё ж адсмактала...

А вёска вачамі савы
глядзела — нікога не шкода...
Як вылез ён толькі жывы
з-пад трыццаць дзевятага года?

Куляліся дні, як снапы.
Навокал спявалі, трубілі.
А новых парадкаў цапы
па ім, як па коласу, білі.

Буяла бяда да калень...
Прыстаць да якога прычала?
А родная вёска штодзень
ад радасці проста вішчала.

Дні тыя сплылі, як гракі...
Пішу — і няёмка адразу.

Прабачце мяне, землякі:
былі вы заложнікі часу.

І вы, як вялося здаўна,
па злосці рабілі прамашкі.
Дзе ваша віна, не віна,
уцяміць і лёгка, і цяжка.

Хай сёння — жывых, нежывых —
мая не даймае адкрытасць.
У вас адабралі на міг
раённыя цэзары лiтасць.

## ЛЕТА 47-ГА

Цвіло, лапушылася лета,
і сонца свяціла аддана.
Спявала і плакала гета —
ад Мінска да Магадана.

Празрыстыя білі крыніцы.
А душы маўчалі, як немкі.
Крывавіліся суніцы
там, дзе запыняліся эмкі.

Мядоўна раілася лета.
Цяжэлі ранеты і грушы.
Ды пухла ад голаду гета —
вялікая частка сушы.

І мыла ўсё рукі ахова,
сваю учыніўшы работу...
Выконваліся паспяхова
заданні па вырабу дроту.

І пахла нявіннае лета
мурожнымі цуда-стагамі.
Грымела аркестрамі гета,
накрыўшыся шчыльна сцягамі.

* * *

О як ты дзіўна любіш!
Паклон адбіўшы злу,
сваіх герояў губіш,
пасля — пяеш хвалу.

Зямля мая, ну штосьці
бяда ў цябе адна:
ўсё пачынаць са злосці,
з крутога бізуна.

Душу найперш каб выняць,
замоўкнуць загадаць —
язык спачатку вырваць,
а потым слова даць.

Але спачатку — пстрычкі,
пасля ўжо — доўг бяры.
Чаму такая звычка,
з якой яна пары?

Жыццё бязбожна секла
сыноў, хто славіў край...
Чаму заўжды праз пекла
яны ідуць у рай?



Страшней саранчы ўся былая мана —
да пня раз'ядала дзяржаўную крону.
Бяда, калі з мяккай ухмылкай яна,
любоў адпіхнуўшы, надзене карону.

І пальцамі груба бярэ за каўнер,
так груба, што можаш адразу упасці.
І раіць, каб надта не вохкаў цяпер,
пакольні ідзеш да суцэльнага шчасця...

І цягне да гэтага шчасця сілком —
трушком пастарайся, забыўшы пра хворасць.
А стомішся ты — кулаком, кулаком
яна прывядзе цябе хутка ў свядомасць.

Любоў жа ніколі не служыць бядзе
і сэрца твае не гвалтуе як звычай.
Яна і пад рукі цябе не вядзе,
а толькі, ўсміхнуўшыся, радасна кліча.

7. зак. 5132.

## МУДРАСЦЬ

Яе выкарчоўвалі, як маглі —
дзе словам, а дзе бульдозерам.
Тапілі калі-нікалі
ў крыві яе, нібы ў возеры.

Патрохі падкладвалі тол —
што цацкацца з ёю, манашкаю!
Яе запрасіць за стол —
злачынствам лічылася цяжкім.

Яе вось ад новага дня
аднойчы рашуча адрэзалі,
дзе правілі злосць і гайня
усіх дамарошчаных цэзараў.

Яна са сваёй вышыні
на тых, хто стаяў з даўбешкаю,
глядзела ўсе ночы і дні
са скрушлівай горкай усмешкаю.



Я хутар помню свой пасля Пагрому Часам.
Ні бацькі, ні цяпла, ні нават дроў сухіх.
Сяк-так я раздабыў паленняў самапасам —
раздзьмухваю я іх і праклінаю іх.

Паленні ж не гараць, шыпяць, нібы гадзюкі.
Няма ні смалякоў запечных, ні папер.
Бутэльку з газаю бяру нарэшце ў рукі,
лін́у — і затрашчаць, я ведаю, цяпер...

Ах, лёс ты, лёс ліхі, нязменна-адмыслова,
ты любіш клопат мой балючы паўтараць.
Спрабую распаліць, нібы паленні, словы —
кручу іх, варушу, а словы не гараць.

Узятыя з душы, прагрэтыя дыханнем,
айчынныя, свае, з бярэзнікаў, з бароў...
вось не гараць — і ўсё...
Не могуць стаць адхланнем
для стомленых людзей і запаліць іх кроў.

Выходзіць, што з агнём мне не шанцуе штосьці —
не хоча палымнець наш край ад слоў маіх...
Ну чым мне іх абліць — любоўю альбо злосцю,
каб ім запалыхаць хоць на кароткі міг?



А год сорак сёмы. Ужо на зыходзе зіма.
Твар бледны ў мяне — як выразны адбітак галечы.
Апошнія бульбіны радасна варацца ў печы.
Што з'есці? Нікому да гэтага справы няма.

З пакутамі шклянку ўздымаю — хаця б не праліць.
І вочы адводзіць вялікая наша краіна —
залізвае раны, свае разграбае руіны,
і месца ніяк не знаходзіцца, дзе не баліць.

Пазвоньваюць кельмы, сібірская свішча піла,
пад колам дарогі разбітыя вохкаюць гразка.
Жыве ў элеватары вецер. Дзяржаўная ласка
на хутар маленькі пакуль што яшчэ не дайшла.

Апошняя бульбіна меншыцца ў лёгкай руцэ,
і шклянку з пакутамі прыйдзецца выпіць да донца.
Праз космас і шыбу прабраўшыся, чуйнае сонца
пяшчотна пагладжвае мяккім цяплом па шчацэ.

## ПУСТЫ ГОД

Здаецца, год быў пяцьдзесят другі —
пярэдадзень цаліннай эпапеі!
Надарыўся такі ўжо ён благі,
успомню — скруха каля сэрца спее.

Штодзённа ў нізкарослыя жыты
мы лазілі — і весела жылося...
Разявіўшы галодныя раты,
мы проста прыпадалі да калосся.

Хай спраўдзіцца нарэшце хлебны сон.
Заплюшчыш вочы — бачыш сон той самы.
У маці ажно трыста працадзён —
іх соладна мяняць на кілаграмы.

У свірне зерне хуценька расце.
Аж чмыхае ад спеху малатарня.
Прадбачліва бурчыць у жываце —
ці скора скіба? Не чакалі ж марна!

Не спраўдзіўся ні мой, ні матчын сон.
Маю душу запаланілі крыгі.
Насупраць запаветных працадзён
стаялі шчыльна здзеклівыя фігі.

— Усё дзяржаве пойдзе... Да зімы
павінны здаць...— інструктар маладжавы
тлумачыць хлеборобам.
— Як жа мы?
— Пацерпіце... Абы жыла дзяржава!



У той прасторнай чыннай зале —
і гэта сталася не ў сне, —
дзе шматгалосна «так» казалі,
ён абвясціў рашуча: «Не!»

Куды падзелася дрымота
неперраможная з грудзей —
як быццам страшныя грымоты
са спячкі вывелі людзей.

Ён разагнаў іх сон салодкі,
іх раскатурхаў, небарак,
каб стала сорамна усё-ткі
за іх прыніжанае «так».

За іхні нораў фарысейскі,
свядомы план-самападман,
паклон угодліва-лакейскі,
за іх душэўны рабскі стан.

І хоць сустрэлі з разуменнем
яго — не лепшалі ніяк.
Адно закідвалі каменнем —
маўляў, і ён мо скажа «так».

Ён бедны быў, насіў абноскі,
сваёй не верачы віне.
Але трымаўся па-геройску,
яшчэ раз паўтарыўшы: «Не!»

## МАЛАНКІ

*Алесю Наўроцкаму*

У «Маладосці» або ў «ЛіМе»
было магчыма друкавацца,
калі маланкамі сваімі
умела неба усміхацца.

Але замест былых маланак,
што асвятлялі нашы ганкі,
у форме вогненных драцянак
узніклі новыя маланкі.

Яны грымелі, нібы ў шале.
Як меч, караючымі сталі —
з дзівоснай трапнасцю стралялі
па тых, хто збочыў з магістралі.

Хто пераскочыў смела планкі —
ах колькі іх было паднята!
Я помню хлёсткія маланкі
гадоў, гадоў шасцідзесятых.

Яны гулі над галавою
(і час, здаецца, быў адталы).
Не толькі страшылі сабою —
зусім маглі пасекчы талент!

## РЭХА Ў ГАРАХ

З крутой верхавіны — агонь ураганны.
Замры, баязлівец, адчайны храбрэц.
Прапальвае дзіркі ў паветры свінец —
няўжо ён сапраўдны, свінец, не экранны?

У вас там гуляюць «Спартак» і «Дынама»,
грыбная пара пачалася ў бары...
Як хочацца піць ля душманскай гары —
адна ты, адна ты ўсё ведаеш, мама.

Як цісне той прэс абавязку і страху,
загадвае гонар паўзці на кап'ё...
І як надакучыла нешта сваё
даказваць гранатай чужому Алаху.

У скалы ўрастаю — каму на пацеху?
Прыдушвае неба скалістай сцяной.
У млосным парыве расстрэльваю рэха —
у хованкі рэха гуляе са мной!

Нібы прыварылася моцна да цела
халоднае вока з-пад злых камянёў,
як джала гадзюкі, бы знюхаўшы кроў,
да сэрца ўсё цягнецца кропка прыцэла.

Я кінуся ўбок, распружынены спехам.
Іскрыць запаветнае самае — жыць...
О мама! Ну як жа мне, як заглушыць
няўлоўнае клятае горнае рэха?

## З БЫЛОГА

Наш хутар будзе расстраляны —
збавенне лёс не абяцае.
З-пад лесу лупяць партызаны,
з-пад вёскі смаляць паліцаі.

І там і там свая наводка,
ляціць агню крывавы росчырк
з пазіцый дзвюх.
А пасяродку
наш хутар, як рэгуліроўшчык.

А ў ім жа дома ўсе выключна:
бацькі, браты, сястра малая.
І галасіла маці гучна:
«О, людзі! Хатка запалае!»

А кулі — дзве густыя хвалі —
ішлі (няхай сабе галосяць!).
Ля вокан весела пяялі
і звонка шасталі ў гаросе.

8. Зак. 5132.

## РАМАНТЫКА

У вокны нам як дыхала вясна,
і як было ўсім хмельна без гарэлкі.
Гарэла сонцам слова «цаліна».
Туды, на ўсход, усе глядзелі стрэлкі.
І недзе ж там займалася зара,
прызыўна так над лесам палыхала —
як «МАЗ», грымела слова «Ангара»
і неспакой у думках калыхала.
І праз заслону самых тоўстых брам
ляцела рэха, і была ў ім сіла —
чыгуннаю даўбежкай слова «БАМ»
у самы асяродак сэрца біла.
Ды штось пшаніцу возім з-за мяжы —
ні хлебадайнай цаліны, ні пашы...
І пад вадой ангарскаю ляжыць
зямля-тапелец, спадчынніца наша.
Хоць я сабе і раю: не скуголь —
Байкал яшчэ не так закруціць колы!
А ўсё-ткі «БАМ» — наш казырны кароль — ,
хоць і кароль, але — глядзіце — голы!



Ах, колькі шматпакутнае пяро
рыпела у імя вышэйшай веры...
Дружына, камітэт або бюро
свой статус абвяшчалі на паперы.

Хаця паперы той штодзённы пуд
ляжаў трухой ва ўсеагульным звале.
Галоўнае — выконваўся статут,
галоўнае, што так патрабавалі.

Скраблі фасад і мылі для «гасцей»,
а колькі сцен цямнела нечапаных...
А ў школе як любілі мы дзяцей
пакорных, ціхіх, мяккіх, паслухмяных.

Скланялі і клялі за ўласны стрэс,
хоць і разумных — наравістых дзетак...
Так званы выхаваўчы наш працэс
і штампаваў, і пёк марыянетак.

Хоць мы маглі, маглі, маглі
пакінуць вучням іншыя засечкі...
Мы каемся цяпер. А па зямлі
снуе мільён фальшывых чалавечкаў.



Хоць бы прыкмета адна... Ні двара ні кала.
Што ж нам рабіць цяпер тут, настальгічная Муза?
Хіба ж на хутар мой колішні ты прыляла?
Бачыш, адна тут бушуе, адна кукуруза.

Маса зялёная джунглямі тут паўстае —
робішся карлікам ты, як стаіш у прагале.
Ногі стаміліся — дзе вы, падмуркі мае?
Тросы халодныя вас ці даўно пасцягалі?

Буйнае лісце з дварышча высмоктвае сок —
з месца, дзе я вось гукаю былыя парогі.
Перамяшаны з нітратамі мяккі пясок,
ты ці пазна́еш цяпер мае босыя ногі?

Студня — няўжо ты і праўда была на двары?
Колькі ты раз напаіла ў бядзе і нястачы.
Дух маёй маці, напэўна, блукае ўгары,
толькі я твар яе сумны чамусьці не бачу.

Не заўважаю нікога, нічога нідзе —
што ж нам рабіць цяпер тут, настальгічная Муза?
Хістка стаю на былым зруйнаваным гняздзе
і адчуваю: пад рукі, пад рукі бярэ кукуруза...

# НАШЧАДАК

Здаецца, голас з даўнасці прачуе —
што прарасце, як жыта праз раллю...
На момант знерухомеўшы, прачула
усё глядзіць на бацькаву зямлю.
Яна... І ён (маршчыністая шыя,
сляпых вандровак карта на ілбе).
Суіснуюць цяпер вось — як чужыя,
сустрэліся — не пазнаюць сябе.
Ссутулены, як здань, стаіць на полі,
пужае сельсавет і старшыню...
Тут хутар быў. Будынкі і таполі.
Тут некалі ўсміхнуўся ўпершыню.
Там сенажаць дымілася ля рэчкі.
Тут ён гуляў ля мокрых капяжоў.
А там гудзела сімфанічна грэчка.
«Зямелька, адгукніся. Я прыйшоў...»
Маўчыць калоссе — скаргу адшаптала.
З нябыту пчолам прылятаць нашто...
«Пакуль чакала — стомленасць настала.
Гукала доўга — не прыйшоў ніхто.
Як на чужыне, сцялася ў калгасе,
і сохла, і маўчала, як скала.
Палонніца, я знебылася ў часе.
Без родных рук зусім занемагла.
П'ючы паветра песеннага краю
і дым п'ючы (каля мяне шаша),
не ведаю, калі я акрыяю,
ці загаворыць зноў мая душа...»



Гісторыі грымучы цеплавоз,
ты запраўляўся доўгі час крывёю.
О колькі нас зрабілася травою,
каб ты кудысьці свае колы нёс.

Ты не адзін падмяў пад колы лёс,
твой апетыт звярына непамерны,
твой рухавік — як молах ненажэрны,
гісторыі галодны цеплавоз.

І клаліся народы, як снапы,
твой шлях пустэчай значыўся навокал.
І ты праехаў, зрэшты, недалёка,
ты круцішся на месцы, як сляпы.

Як ачмурэлы, рвешся на таран,
руйнуючы наўкруг усё святое...
А можа, ўсё-ткі паліва не тое —
дыспетчары цябе ўвялі у зман.

Наканаваны не асіліш крос
з драпежнай хваткай, з норавамі звера...
Энергія твая — любоў і вера,
гісторыі няшчасны цеплавоз.

# СВЯТЫ

Нудотная, самотная пара.
Уцеху ловіш і не зловіш, кляты.
Я не люблю вас, пісаныя святы
Чырвонага календара.

Нішто не адклікаецца знутры
на гэтыя, як кажуць, дні святыя.
І цёмна мне.
Як воблакі густыя,
заслалі неба вінныя пары.

Ні жаўранкаў, ні восеньскіх варон,
зрыжэлы пляц на месцы травастою.
І дыхае на градуснік настрою
ружовашчокі тоўсты фанфарон.

Пад ціскам шуму знемагае дух.
Тамленне духу — гэта ўжо прывычна,
пакуль натоўп шукае хаатычна
спакус, якія мрояцца наўкруг.

Няўцямна скача бойкі маладзён,
што ўсё ж такі дапяў да шчасця гвалтам...
О не, не сёння — заўтра буду хватам.
Я вырвуся на волю будных дзён!

* * *

Нарэшце вылезла з-пад прэса.
І ў той жа міг, адчуўшы волю,
зусім расплюшчаная прэса
ажно завойкала ад болю.

Уцеху мае, што жывая.
У дні святога прасвятлення
крытычным ядам адмывае
сваё сабачае сумленне.

* * *

Жыццё ім рай, хоць несвабодны рай,
хоць скора дні і скончацца малінныя.
Ёсць людзі, што нагадваюць трамвай —
трымаюцца заўжды патрэбнай лініі.

Што будзе з імі, калі нехта ток
адключыць раптам — мала іх, аматараў?
Як ім скрануцца ў той ці іншы бок?
У іх няма сваіх акамулятараў...

# КАІН І АВЕЛЬ

Дзе яны — ўсе запаветы?
Ты адцуралася Бога.
Пераламала паўсвету,
злосная наша эпоха.

Зганьбіла крыж і паперу,
праўду сагнула да долу.
Самую большую веру.
дробненька перамалола.

Ды ўсё здавалася: мала...
Пакарысталася часам!
Гвалтам, але паяднала
Каіна з Авелем разам.

Перамяшаліся штосьці
светлыя, цёмныя сілы.
Боязна глянуць: з мілосці
павытыркаліся вілы.

Век да яднання ахвочы...
Побач — і здзекі, і мукі.
Добрыя Авеля вочы —
жорсткія Каіна рукі.



Адзін бы хоць трапіўся хлопец-гарэза
на здымку, пазначаным колішнім годам.
У позірку стоеным — столькі жалеза,
і цягне ад позірку выстылым лёдам.

Што згаслі так раненька ў вас вачаняты,
што вусны заціснулі так хлапчуковы?
Няўжо вас зусім не любілі дзяўчаты?
Жыццё пачыналі, нахмурыўшы бровы...

Сталіся ўсе пад суровым законам,
нібы пад кувадлай,
што высіцца зверху.
У лапы узятыя векам-драконам,
маўчалі. І, мусіць, было не да смеху.

Усё стаіцё вы на здымку да змогі.
Прысядзьце на міг. Яшчэ хопіць пакуты.
Нявінныя цені крыжовай дарогі.
Дарогі, якая ляцела ў нікýды.



Не надта цешымся мы маем,
не садзім свой уласны кветнік.
А ўсё памылкі папраўляем,
што нам падкінуў папярэднік.
Мы гэта робім апантана.
Ды столькі крыўды, столькі здзеку,
дроў столькі ўсюды наламана,
каб расцягаць —
не хопіць веку.
Мы праўду клічам галасамі
асіплымі і веру мосцім.
Ці асцярожна ходзім самі —
як проста паваліць нам штосьці.
Ці будуць на шляху абломкі
ад нашых ветразяў і лодкі?
Не абцяжарвайце патомкаў—
вы пашкадуйце іх усё-ткі.

## НАШАМУ ВЕКУ

Злаclівых, яршыстых, упартых, зацятых,
бяздушных і помслівых, падкіх на гнеў,
не дужых, не гордых, не шчырых аратых,
а зломленых вязняў ты бачыць хацеў.
Лухту ты якую нам накукарэкаў,
шыпамі якімі абсыпаў наш лёс!
Хацеў падарыць, можа, зверхчалавекаў —
бязбожных пачвар у прыполе прынёс.
Ды сумны, няплённы, ганебны твой фініш.
Ты — сілы нячыстай дасужы агент.
Ну, можа, цяпер хоць нарэшце прыпыніш
гвалтоўны і дзікі свой эксперымент.



Балюча аб нечым яшчэ запытаць.
Адказы — у праўду жахлівыя візы.
Нічога не хочацца залпам чытаць,
дарэшты абрыдла глядзець тэлевізар.

Зламаныя жыцці гартаць не магу,
складаць або множыць чужыя пакуты.
Хто мог бы пакаяцца — той ні гу-гу.
Дрымучымі ка́тамі плач не пачуты.

Угодлівы юда ці слынны тыран
стаіўся, часова прыкінуўся пешкай.
З утульнай канапы глядзіць на экран —
гуляе на твары гадзюкай усмешка.



З кватэркі забытай, як некалі з лесу,
выходзім на сонца — адкрыта і звонка...
Пагаслы і стомлены твар паэтэсы,
туга ад яе вершаванай старонкі.
Здаецца, не верыць у нашу падтрымку,
увага, відаць, палічыла дзяжурнай...
А вось яна зноўку на колішнім здымку —
усё-ткі якой жа была прыгажуняй!
Такую красу зруйнавалі дашчэнту
бураны сібірскія — злосці павевы.
А гляньце ж, якія радкі — дыяменты!
Аздобяць паэзію, як каралеву.
Радкі-дыяменты, радкі-дыяменты,
якія ўзышлі, як фіялкі, на болю.
Усе нашы познія апладысменты —
нібы адпяванне загубленай долі.
Разбітыя мары, як тыя люстэркі.
Як быццам чужая зямля пад нагамі.
Хаця пад дзвярамі маленькай кватэркі
эпоха стаіць са сваімі даўгамі.



У сілу бярэцца ўжо дзень малады.
Таполяў дрымучых святлеюць абрысы.
Угору ўздымаюцца зоры з вады.
І вецер расцягвае змроку кулісы.

Шпакі прыступаюць да ранішніх спраў.
Асфальт яшчэ сонцам не выцерся — мокры.
Здаецца, бы хтосьці да шыбы прыпаў —
эпоха ўзіраецца хмурая ў вокны.

Хтось будзіць — пастуквае-б'е па сцяне.
І трэба ўставаць, хоць няма гаспадаркі.
Мо хворая памяць ідзе да мяне
з нязменнаю просьбаю — ставіць прыпаркі.

Наіўная, зноў спадзяецца на цуд —
рассмокчуцца болі, пасланыя векам...
Ёй хочацца вызваліцца ад пакут...
За гэта ж ніводзін не возьмецца лекар!



Звышкемлівая люднасць,
ці зразумееш ты:
любоў, сумленне, мудрасць —
галоўныя кіты.
І не бярэш чаму ж ты
вось гэты запавет —
на ім, на ім пакуль што
трымаецца ўвесь свет.
Твая ж былая лютасць
пад воплескі трыбун
любоў, сумленне, мудрасць
саджала на гарпун.
За ўсё, за ўсё ў адказе
гарпуннікі-стральцы:
мы ўсе ж у гэткім разе
маглі аддаць канцы.
Іх стрэл усіх нас джаліў —
увесь людскі агул.
Пад нас кітоў саджалі,
падобных на акул.
І сэрца боль адчула.
І стала болей зла.
Акула ёсць акула,
якой бы ні была!

# ПА ПЕРШАМУ ВЫКЛІКУ

Хрышчонніца вашая — злосць.
Таму й кіпцюрастыя выбрыкі.
Пакуль што замнога вас ёсць,
лакеі па першаму выкліку.

Вам праўдзе нашто прысягаць,
вы праўду і храмы разбурыце.
А скажуць заўзята брахаць
на сонца і месяц — і будзеце!

Любая падыдзе мана —
і хлёсткая і няхлёсткая.
А плата звычайна адна
за ўсё — натуральнаю косткаю...

# АРХІВЫ

З начы на паліцы ўсё цэдзіцца змрок,
няўпэўнена выблісне промень пужлівы.
Узлёгся на дзверы пудовы замок.
Зацятыя, кашляюць пылам архівы.
Ляжыць анямела ў сваім забыцці —
аглухла, ці што, папяровая маса...
Спрабую праз дзверы як-небудзь прайсці
і ўсю прачытаць біяграфію часу.
Хто хоча мой час ад мяне утаіць,
закінуць у вечную цемру камода?..
І з віламі д'ябал штодзённа стаіць,
расставіўшы ногі свае, ля ўвахода.
Худы ён і страшны, як вобла, сухі,
апёрся спіною кашчавай на дзверы.
— Прапусціш?
— О не! За дзвярамі — грахі...
Грахі! І ніякія там ні паперы!
Найлепей убок адыдзі, баламут!
З вачэй прападзі ты, пакуль яшчэ пекны...
Таму што чытальная зала не тут,
за гэтым замком — канцылярыя пекла.
Не ваш ён, а наш — гэты сцішаны схоў,
тут працы яшчэ не на год, а на дзвесце...
Класіфікацыя цяжкіх грахоў
яшчэ не закончана. Рана — не лезьце!
Пакуль не крануся я з месца свайго.
Тут лічаць грахі. Нам яны — як кара́лі!
Асобныя вашы патомкі — ого! —
спажыва для нас. Столькі дроў наламалі!

## БАЙКІ

Іх выдавалі цэлыя тамы
пісьменнікі, дзяржаўныя ўсёзнайкі —
з адкрытым ротам слухалі іх мы,
таму што вельмі паважаем байкі.
Ды не Крылоў тут і не Міхалкоў
не вінаваты...
Надта ж любім сайкі —
каб самі ў рукі падалі з бакоў.
Лаві і еш...
І ў пляскі бі за байкі.
Мы бачылі, што роўнасці няма,
і аднадушша, і вялікай спайкі...
Але нашто трывожыцца дарма
і падрываць аўтарытэт у байкі?
А нас жыццё з вялікіх бальшакоў
адносіла на шэранькія ўскрайкі.
Ніхто не бачыў гэткіх дзівакоў,
як мы,
што з рук не выпускаюць байкі.

## ЯКАР ДУШЫ

Старанныя тварцы зямных багоў,
вы ходзіце напышліва і важна.
Няўжо ашмоцце ідала свайго
вам выпусціць і сёння нават страшна?

Смерць за яго — як смерць за караля?
Свяшчэнны знак даваў вам бегчы сілы?
Свяшчэнны знак — Айчына і зямля.
Які другі яшчэ патрэбен сімвал?

Па магістральнай тупалі шашы,
пакліканыя радасцю і векам.
Ды без уласных якараў душы
вы толькі пыл, што круціцца пад ветрам.

Вас, прастадушных, «цвёрдая рука»
трымала ў фальшы, як у ліпкай ціне.
Як павуціне вы для павука —
павук бы здох,
калі б не павуціне.

Вісеў павук над намі, і таму
ніяк не можам мы скрануцца з мелі...
Якога д'ябла біць паклон яму —
няўжо нічога вы не зразумелі?

## ТЭЛЕФОН

Здаецца, з разраду дзіцячых быў цацак —
падумаеш, зранняя штодзень верашчаў —
пластмасавы лёгенькі той апарацік.
Але памыляўся, хто так вырашаў.
Хоць быў ён звычайнай айчыннай мадэлі,
свой гонар імкнуўся узвысіць, відно.
Ён дзынкаў — і твары ад страху бялелі,
ён сыкаў — і губы дрыжалі адно.
Нястомна гудзеў ён дакучлівай мухай,
а часам пагрозліва зумкаў, як чмель.
А часам з яго ў далікатнае вуха
ляцела абразы густая шрапнель.
Нашмат паскараў ён сардэчныя стукі,
ніхто ад яго не схаваўся ніяк.
Ён нібы высоўваў вялікія рукі
і хлопцаў патрэбных хапаў за пінжак.
Пасля спавядаў іх за дробязі чэрства.
А колькі разоў ён, пластмасавы бог,
спяшаў пакараць наравістую чэснасць,
хоць заўтра злачынства памілаваць мог...
Ах, час, ты настаў, нехарошы, нялюбкі —
няўжо давядзецца самоту пажаць?
Не вельмі спяшаюцца сёння да трубкі,
не вельмі ўжо губы ад страху дрыжаць.

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ФУНКЦЫЯНЕРЫ

Спяшаюцца, як мышы, да паперы
па ўсёй зямлі — ад Брэста да Курыл —
маленькія функцыянеры.
Іх падлічыць — ці хопіць нашых сіл?

Ад іх, ад іх — як на нядзельным рынку,
бягуць, бягуць — як за святой куццёй...
Тралейбусныя тлумныя прыпынкі
запруджаныя імі раніцой.

Адчужана стаяць на тратуары
пад ношаю напружаных гадоў.
І іхнія захмараныя твары
святочны воблік гасяць гарадоў.

Як ажывіць іх хоць вясеннім ветрам
і вочы ўзняць у сонечны прасцяг,
каб не віселі ў ранішнім паветры
іх немата і беспрасветны страх?

* * *

Чаго не было, таго не было.
Я мо памыляўся раз першы і соты —
адкрытае, як і падпольнае, зло
не прапускаў, нібы госця, ў вароты.

Мо быў баязлівец і слабы душой,
за нос неаднойчы шальмоўцы вадзілі —
не апынуўся за пэўнай мяжой,
паклоны не біў я нахрапістай сіле.

Не надта высока, напэўна, кружыў,
на левае, правае падаў крыло.
А трыццаць сярэбраных я не нажыў —
чаго не было, таго не было.

* * *

Прысніцца: цуглі ў роце,
наўкруг павадыры...
Што шэпча на самоце
душа твая знутры?

Чаму ўсё лезе ў вочы
твой пералётны страх?
Які я н а прарочыць
табе і іншым шлях?

І па сваёй шасэйцы
пусціцца — раіць як?
Не памагаюць лейцы,
каб выйсці на маяк!

Выходзіць, па праграме
ішлі — як без яе...
Аб чым жа вечарамі
душа твая пяе?

Глухі ён ці мізэрны...
Яму ж ты свет адкрый,
бо голас самы верны,
што просіцца знутры.

9. Зак. 5132.

* * *

Дайце даведку,
што нікога я не забіў,
за дротам калючым
ні разу не быў,
дабра не зглуміў пад дажджамі
ні кучкі,
ніводзін калгас
не давёў да ручкі.
Дайце даведку
з круглай пячаткай:
не вінаваты.
Не біў я ў ладкі
слыннай пасрэднасці,
гора-ўладыку...
У доме дурных
не стаю на уліку.
Колькі разоў
за высокім парогам
я спавядаюся,
як перад Богам.
Марна стараюся —
ёлупень гэткі:
мечаны нуль я
без вашай даведкі.
Ісціна —
дзе папяровая сведка.
Шчырасць пакуль што —
нібы прайдзісветка...



Адкласці абед каларыйны на потым,
аднесці на да́лей шчаслівую ўсмешку...
«Прабачце, не зараз, не зараз пад плотам —
салодкія вырастуць заўтра арэшкі...
Не трэба зашмат ужо быць эгаістам,
не мы, дык пацешацца нашыя дзеці...»
Аднак жа і сёння такім гуманістам,
як маслу ў смятане, жывецца на свеце.
Не трэба наперад ляцець стрымгалоў —
ужо наступіла заўчасная панства.
...Няўжо яны вераць у магію слоў —
спецыялісты былога шаманства?

# ПЕРАД ДЗВЯРАМІ

Перад дзвярамі ўпіваецца зрок
у зіхатлівую цёмную шыльду.
І замірае пакорліва крок,
і халадком тваё цела прашыта.
Вось ужо стала вільготнай далонь,
хваляю твар залівае ўтрапенне.
Вось зазваніла натужліва скронь —
што [redacted] табой, што з табой, сэрцабіенне?
Лёс мой ва ўласных руках і зубах,
дурань ты —
хто тут цябе пакусае?
Толькі балотнай гадзюкаю страх
з клетачкі нейкай
усё ж выпаўзае.
Ты не настолькі яшчэ пасмялеў,
каб тузануць
горда ручку рукамі...
Ах, насланнё!
Усё мроіцца леў,
люты, ашчэраны леў за дзвярамі.
І пазірае вачамі мальба.
І неўсвядомлена — літасці прага...
Ах, гэта знятая шапка раба!..
Дзе ж мая гонару пругкая шпага?

* * *

След вінаватых прастыў.
Ёсць указальнік падманны.
Вось ён — злачынца — стыль
бюракратычна-камандны.
Вострыя шышкі — яму.
Ён і з'яўляецца варвар.
Ён збудаваў Калыму.
Ён наша шчасце развальваў.
Хтось ад народа свайго
ім свой парог адгароджваў.
Нехта ж усё-ткі яго
і запрагаў, і абходжваў.
Нехта і зараз яшчэ
коніка тога старога
гоніць і пугай сячэ,
хоць не спрыяе дарога.

## ДВАЙНІК-КАНСПІРАТАР

Саліст-запявала
былога малення,
становішся — брава! —
прарабам сумлення.
Святым абаронцам
пакрыўджаных, бітых,
спагадлівым сонцам
для вёсак забытых...
Куды ж ты падзенеш
былое прытворства,
як раптам раздзенеш
халат рэтушорства?
Рукой, як трохзубцам
(засвоіў цытатнік!),
замест «праўдалюбца»
выводзіў ты «здраннік»...
Двайнік-канспіратар,
нябачная плесень.
Вялікі аматар
палярных прафесій...

## УЧАРАШНІЯ РЭФЛЕКСЫ

— Падтаяў страх... крануўся лёд —
амаль усе прасілі слова.
— А хто арканіў бурны сход?
— Нетэлефонная размова.
— А можа, сход — звычайны блеф,
вясёлы дым перабудовы?
Якому богу служыць шэф?
— Нетэлефонная размова.
— Які артыкул! Смела як!
Ты прачытай абавязкова
апошні «ЛіМ»...
— Прабач, аднак —
не тэлефонная размова.



Няма жывога месца на зямлі,
дзе б ні ўпіваўся востры зуб свінца.
Прайдзі наўсцяж з канца і да канца —
параненыя ўзгоркі і палі.

Ты жменю падымі пяску свайго,
адчуй раптоўна на спіне мароз:
ах, колькі, колькі ўпала на яго
чырвоных кропель і пякучых слёз.

Ах, колькі тых слядоў бяды і зла
наўсцяж дарог узнікла б на вачах,
калі б трава штодзённа не расла
на тым пяску, дзе ёсць жыцця працяг.

Шуміць трава — працягваецца рух,
хоць ты тапчы зямлю ці варушы...
Пасля шматлікіх страшных завірух
няма жывога месца на душы.

Не вытрымала б кволая душа,
пайшла б сама з натруджаных грудзей,
калі б не мела веры ні граша
у ясны розум будучых людзей.



Ні ў кога не пытаючыся згоды,
вы кожнага ў палон кідалі змалі —
былыя тэарэтыкі свабоды,
вы колькі клетак ёй намайстравалі!
Узорна-пекных, дзіўна-адмысловых,
складзі ў рады — расцягнуцца на мілі.
Прытым якім усхваляваным словам
вы тыя клеткі-норы блаславілі.
Пры гэтым думка вашая нярэдка
даволі дзіўны брала накірунак:
зацверджаная форменная клетка —
о, не загон — сапраўдны паратунак!
Ах, фарысеі, прытварыцца што там,
вы не свабодзе — вы служылі страху.
Як па-майстэрску вы бліскучым дротам
размахі крыл перацінала птаху.
Свабода — не прыгода і не мода.
Яна — і рух, і росквіт, і збавенне.
Мы ведаем і самі, што свабода
не проста так — на прывязі сумлення!



У век нядобры наш
зло біла нас каменнем.
І правячы шабаш,
абсвіствала сумленне.

Была эпоха злой,
бязлітаснай карыдай.
Жаданаю пятлёй
не раз вісела крыўда.

Хапіць рукою меч —
як гэта ўсё-ткі проста.
Прашу, адсунься прэч,
спагадлівая помста.

Пад лопат галубоў,
усе суняўшы мукі,
ты, вечная любоў,
вазьмі мяне за рукі.

За шчыры твой давер
пасадзім заўтра кветкі,
каб наш маленькі звер
не вылез болей з клеткі.



Яго навакол — неразга́даны лік.
Злічыць? Не бярыся, бо лопне цярпенне.
Мо хопіць са злосцю ківаць на ляднік —
не ён раскідаў па дарогах каменне.

Не ён яго сыпаў на збэрсаны шлях,
на вуліцы нашы, на нашы паляны.
А колькі яго на нітратных палях!
А колькі ў душы́ яго панашпурляна!

Хто ж так пастараўся рукамі дзвюма?
Які градасей нарабіў столькі шкоды?
Адны — прытаіліся. Іншых — няма...
Пайшлі, насмяяўшыся з нашай прыроды.

А нам падбіраць. Яно ўсё на душы,
штодзённа пад ім ажно вые сумленне.
Здавалася б, толькі кідай у кашы́,
а мы ж усё лічым і лічым каменне...



Запомні гэты сціплы запавет:
двайнік наш цёмны — людзям не слуга.
Не лепшае ніколі белы свет,
калі мы злосць спускаем з ланцуга.

Бы д'ябла, крыўду да сябе не кліч,
яе ўспамогі чорнай не прасі.
Іначай пугу ці жалезны біч
у рукі подлай зайздрасці дасі.

Калі крывёй асвеціш новы зруб —
запозненым сумленнем задрыжы:
як Бог, узыдзе страшны душагуб,
памрэ Хрыстос яшчэ раз на крыжы.



Я веру ў шчырасць, а таму магу
у хітрай тайны расчыніць акно,
развеяць падазронасці смугу
і ў ісціны разбіць двайное дно.

О колькі дабрыні перамалоў
наш грозны век — далоў яго банкет!
Далоў людское езуіцтва слоў,
бяздушны фарысейскі этыкет!

Прасеяная звабнасць песні — прэч!
Крывёй вітаю шчырасці пару.
Адзін вар'ят і той не ўздыме меч
на праўду, аб якой я гавару.

## МІЛАСЭРНАСЦЬ

Ў эпоху ломкі ехаць не магла —
і свой білет назад здала ты ў касу...
Пазбаўленая права і вугла,
глядзела сумна, падчарыца часу.

Зірнуўшы палахліва на бакі,
уздрыгвала ад жалю раз усякі,
калі мянялі двор на Салаўкі
чарговыя сяляне-небаракі.

Шаптала ты: «О, як душа баліць...
Як памагчы мне і старым і дзецям —
пашкадаваць бы, трохі накарміць...» —
у страшным тым галодным трыццаць трэцім.

Сваіх сясцёр нявінных і братоў
суцешыць парывалася ты шчыра.
Ды за вярсту да лагерных дратоў
цябе не падпускалі канваіры.

«Магнітку не збудуеш на жальбе!
Не стануць цэглай літасць і лагода.
А будзь жалезнай,— раілі табе,—
калі навокал ворагі народа...»

Табе заўсёды ставілі ў віну,
што нораў твой не цвёрды сплаў, а мякаць...
Крыху пасля, ў жахлівую вайну,
ужо магла, не таячыся, плакаць.

Зноў уваскрэсла, выйшла на дазор,
пакліканая сёння доляй горкай.

Спяшаешся ў бальнічны калідор,
запоўнены няшчасцямі і хлоркай.

Свой запаветны і жаданы крыж
ты зноўку хочаш несці без ляноты.
І дзень і ноч спагадліва маўчыш
над галавою нашай адзіноты.

* * *

Спрабуй жа ты зацяцца неўпрыкмет,
калі абрыдне гамана людская...
Праз тоўшчу цэглы навакольны свет
на сэрца, як на клавіш, націскае.

Ягоны гул, ці позыў, ці свісток,
ягоны ўскрык ад радасці ці болю
бягуць па жылах, як звычайны ток.
Дзе дзецца ад яго мне біяполя?

І час, нібы чарнобыльскі рэнтген,
пранізвае і схімніка і творцу.
Вось паглядзеў бы я, як Дыяген
сягоння прасядзеў спакойна ў бочцы!

Залётны вецер мой куток трасе,
навіны-пчолы над ілбом раяцца.
Асуджаны ты сёння, як усе,
з усімі разам плакаць ці смяяцца.



І часу іншага гарачы бур
не прасвідруе бок яго здаровы.
Нібы скала,
стаіць магутны мур —
апафеоз Вядомай Установы.
Свае святкуе святы ён, угодкі,
глядзіць штодзённа пільна па баках.
І па яго класічна-рымскіх сходках
ідуць чыны ў цывільных пінжаках.
Мяняе злёгку фарбы і акрасы,
плануючы яшчэ адзін круіз...
Ну што яму настырны вецер часу,
што б'е ў фасад
і коціцца уніз.
Туды, дзе вольны люд бурліць навокал,
дзе ўпарта памяць звоніць у набат.
Дзе мне й цяпер яшчэ
з падвальных вокан
нявінных вязняў мроіцца пагляд.
Высокі мур прымае выгляд гожы,
хоць ён усё ж ранейшы са двара.
Пакуль што ён стаіць на раздарожжы —
ах, да якога плыць Гаспадара?..



Навошта муціце ваду?
Патугі вашы варты жалю.
Вы ж наклікаеце бяду,
успененую ўзняўшы хвалю.
Праз душы, як праз чараты,
бяжыць надзея кругам хісткім.
Выратавальныя плыты
не абяцаюць бераг блізкі.
Не рызыкуе галавой
ніводзін дабрадзей-дарадца.
Падсоўваючы компас свой,
вяшчае, як уратавацца.
Нібы патоп, вакол бедлам —
узнята вамі шуму колькі!
Здаровым дужым плывунам
перашкаджаеце вы толькі.
Хто на вадзе — пакуль што хват,
і кемнасці даволі ў людства.
Дарэмна ўвесь узняты гвалт,
замнога, мусіць, славаблудства.
Наспех узведзены маяк
патрабавальна ўжо мігае...
Ды кожны мо, дабрацца як,
на запаветны бераг,— знае!

## ПАДРУЧНІКІ

Смокчуць наіўныя душы застойны ялей,
п'юць, як сівуху, дурманны напышлівы гонар.
Чэрпаюць фальшу густы ўскаламучаны глей...
хоць і за шыбаю свежы даносіцца гоман.

Хочаш не хочаш, а ведай, што ёсць тут, на пяць.
Ціхенька ўнурвайся, вучань, старанны калі ты.
Лісцем апалым нудліва старонкі шумяць,
вокладкі — як надмагільныя пліты...

Нават і сёння пад імі — зусім не гульба,
слабыя позывы літасці і спачування.
Нібы на фронце, стаіць тут густая стральба,
быццам на зайцаў, ідзе на людзей паляванне.

Скачуць сюжэты — бяздумныя смерці ганцы.
Пнуцца раздзелы, раздзелы — патронаў абоймы.
Хрэстаматыйныя гэтыя нашы стральцы —
не, не героі, зусім не героі, па-мойму...

Дзеці, усцешцеся: хтосьці пакуль што жывы,
неапантаны, усмешлівы, цэлы і дужы.
Гора-прафесары, што ж гэта робіце вы —
спраўна калечыце кволыя чыстыя душы.

## КААПЕРАТАРЫ

Спакойныя, вальяжныя, як бітласы.
Тугія твары чырванеюць макамі.
Як у баксёраў, маладыя біцэпсы
спружыніста пагульваюць пад майкамі.

Даглежаныя, радасныя, спрытныя,
сам Бог ім быць не дазваляе хмурымі.
Хрусцяць, хрусцяць на пятачку ў адкрытую
далёка не маленькімі купюрамі.

Куды там сёння з лічбамі маленькімі,
жыві, не цырымонячыся з публікай.
Як можна быць бабулькаю старэнькаю,
што шамаціць сваім пацёртым рублікам?

Загружаныя шапкамі і блузкамі,
і нават безрукаўкамі казінымі.
Ды куртачкі, ды шынка беларуская,
ды маечкі... усё-ткі магазінныя.

А дзе ж узяць іх? Любаю краінаю
не вельмі вы прылашчаны лагодаю.
Няродныя пакуль што. Сыравінаю
ніводзін з вас па-людску не валодае...

Ні хлебаробы покуль, ні рамеснікі.
Шаўцы-краўцы? Бывае. Рэдка — грузчыкі.
Тузоў падпольных шчырыя намеснікі?
Звычайныя пакуль што перакупшчыкі?

Сваю паслугу аказалі крызісу?
Не вамі люднасць гарадская корміцца?

Ды не жадаю, малайцы ад бізнесу,
у вашых кашальках я сёння корпацца.

І каб пачуць маё ад сэрца «Брава!»,
вам з хітрасці плясці не трэба кошыкі.
Нармальныя спачатку любяць СПРАВУ,
а толькі потым — шапаткія грошыкі...

## РАЁННЫЯ ЖУРНАЛІСТЫ

Лозунг адзін — і не зменіцца, мусіць: давай!
Лётае ручка па аркушы, як аферыстка.
Факты канчаюцца — кругам ідзе галава.
А за спіною цярпліва стаіць машыністка.

Ходзіць рэдактар і моўчкі пытае: «Ну як?»
Любіць ён, ох, выпрабоўваць працяглым маўчаннем.
Лопні-загніся, а дай разварот пра «Маяк»,
чур — не дасі, хоць сябе танізіруеш чаем.

З тэмай спартыўнай таксама сядзім на бабах.
Эўрыка! Зараз ідуць міжкалгасныя гульні...
Ды ці праб'ешся на гульні ты ў «Ленінскі шлях» —
як дыверсанты, бальшак пазавальвалі гурбы.

Сёння надзьмулася злая асоба з райфа:
што іх кантору чапаем — лезці чаго нам?
Чуе душа, што пазвоніць начальнік РАПА
і адчыхвосціць за крытыку ўзвінчаным тонам.

Б'юць за іголкі, калі іх шпурнеш пад сядло
нейкаму чыну... А як без газетнай папругі?
Вывесці злодзея хочацца так на святло.
Хочацца... Ордэн вісіць на грудзях у хапугі!

Цяжка, а ўсё ж сваю цвёрдую лінію гні.
Ведай і помні, што ты праўдалюбца найпершы.
Шчыра радкі, нібы вугаль у шахце, гані
і, мой харошы, забудзься на вершы...

* * *

Як з цюбіка,
я радасць выціскаю —
той радасці
даўно застаўся мізэр.
Яе не большыць
гамана людская,
падпітвае
штосьці слаба тэлевізар.
Абвыкся з тым,
што меншыцца ў аб'ёме,
па ёй
ужо не лямантую звычна.
Як выжыць ёй
у непрытульнай стоме?
Таму й гарыць
штодзень катастрафічна.
Але жыццё —
яно дабрэе часта
і пасылае радасць
па ліміту
па сціпламу —
нібы зубную пасту
у горшы час
былога дэфіцыту.



За час жывадзёрны,
сцугляна-застойны,
за надта расцягнуты тэрмін былы
хадзіць развучыліся мы самастойна —
каб без дапамогі
чужой кавялы.
Мы чуем
страшэнную вяласць у целе.
Не вельмі ўжо сіл,
каб адправіцца ў шлях.
Дарэшты
ўсе мускулы нашы здранцвелі.
Пудовыя гіры
вісяць на нагах.
Нам ясніцца-свеціцца
нешта здалёку,
нам хочацца есці
смачнейшы булён.
Дый сёння
на месцы здаровага клёку
ляжыць запаветаў
пажоўклы рулон.
Прад светам
мы выглядзець хочам прыстойна
у вопратцы чыннай,
а не забіяк.
А вось самастойна,
зусім самастойна,
як іншыя людзі,
не ступім ніяк.

## НАТОЎП

Тысячарукі і тысячаногі,
ідзе, нібы таўчэ ваду у ступе.
Даводзіць ён мяне да поўнай змогі,
аж аддаецца ў сне ягоны тупат.

Здаецца, што і сувязей між намі
няма ніякіх... Крыллі ён раскінуў
і вось нясе, нясе, нібы цунамі,
піхае ў рот гарачых магазінаў.

Адчужаны і злосны аж да пены
адцісне ўбок, і не зірнуўшы ў вочы.
Вампір, які не кроў смакуе з вены,
а волю смокча з раніцы да ночы.

Задыханы, запараны, ў трывозе,
шукае ён яду і апранаху...
Як добра зноў спыніцца на парозе,
адбіўшыся ад вулічнага страху.

## СУВЕНІР СТРАХУ

На кошт яго павысяцца працэнты
у будучым. Зноў схіляцца над ім.
А зараз ён — са жвіру і цэменту —
мізэрна танны і даступны ўсім.

Маўклівы сведка радаснага краху
усіх святынь, дзе сіла і мана.
Ён стаў звычайным сувенірам страху,
як рухнула Берлінская сцяна.

У тысячных ён едзе экзэмплярах,
як мірны госць, на ўсе мацерыкі.
І прасвятленне бачыцца на тварах,
расціснуліся дзесьці кулакі.

Памчыцца вестка гонкай антылопай,
дзівосным рэхам пройдзе па гарах:
у самай гушчы, пасярод Еўропы,
нарэшце дэманціравалі страх.



Напэўна, запомнілі ўсе мы
хвалюючыя хвіліны
з біблейскай уражлівай тэмы —
«Вяртанне блуднага сына».

Чыталі і румзалі зрэдку...
Ды можам разважыць цвяроза:
ці варта з-за дробязі гэткай
губіць чалавечыя слёзы.

Наплакацца можам яшчэ мы
не столькі — і, мусіць, павінны.
Хіба не біблейская тэма:
«Вяртанне блуднай краіны».

Вяртанне да праўды, сумлення —
тут радасць, і слёзы, і дзіва.
Хіба ёй не стаць на калені:
аж семдзесят год блудзіла!

## ПЕРАФАРБАВАНЫ КАРШУН

Забудзьце пра яго віну —
ён не хацеў слаць нас на згубу.
Тым больш што сёння каршуну
крыху прытрымліваюць дзюбу.
Маўляў, каршун ужо не той.
Светла-блакітным стала пер'е.
Да чарады амаль святой
навек прыпісаны цяпер ён.
Перамяніў ён сёння ўсё —
і гены ўсе, і храмасомы...
А вам пішчыць, як парасё,
і днём і ноччу трыццаць сёмы...
Вам не забудзецца ніяк
яго бязлітаснасць начная.
Вы паглядзіце, мірна як
над шумным мітынгам лунае.
Спакойна слухае згары,
уважліва схіляе голаў...
А што звісаюць кіпцюры —
дык ён усё ж такі не голуб!

# ЛЯЖАЧАЕ КАМЕННЕ

Не сёння, а вякамі
гучыць наказ прарочы,
што пад ляжачы камень
вада цячы не хоча.
Не хоча і не будзе
такою жыць задачай...
Ах, рызыкуюць людзі,
што думаюць іначай!
Не ўсе жывуць імкненнем —
паправіць штосьці ў лёсе.
Ці не зашмат камення
між намі развялося?
Па гарадах і вёсках...
Залегла па-майстэрску
каля сталоў канторскіх,
на крэслах міністэрскіх,
у кабінетах графскіх,
дзе тэлефонны віскат,
ў пакойчыках прарабскіх,
на месцах брыгадзірскіх...
Амаль былі ў пашане
яны — любімцы лаўкі,
аматары ляжання
на цёплым ложку стаўкі.
Жылося карнавальна,
хоць план ішоў са скрыпам —
паблізу прэміяльных,
што сыпаліся з ліпы...
Бурчым: японцы, чэхі —
майстры... не ўмеем самі.
Дакуль нас будуць чэргі
па нервах біць хвастамі?

Чаму дары прыроды —
свае! — так гінуць спрытна
і вальтузня з нагоды
анучы дэфіцытнай?
Ці не таму «не ўмеем»,
што мы каменню собім...
Перад чужым — нямеем,
а вось сваё — не робім.
Спартыўная эмблема —
чужых парток акраса —
аж гэткая праблема,
нібы палёт да Марса?
Такая не такая,
ды не чакай збавення,
пакуль душа прымае
ляжачае каменне.



— Я волат,
які ўжо саслаб у прымусе,
таму што вышэйшаму чыну служу.
Свабоду мне дайце!
Я так разгарнуся,
што сёлетні хлеб павязём за мяжу...
І хор той гудзе
ўсіх старшынь-«вальналюбцаў»
ад крыўды,
што смокча раённы павук.
— Свабоды! —
тутэйшы грыміць Старадубцаў.—
Наручнікі скіньце з натруджаных рук!..
— Высокія суддзі зычлівыя,
дзе ж вы?
Няўжо вы не чуеце,
як я крычу:
аслабаніце
з-пад панскай падэшвы
мяне, хлебароба — я волі хачу!
Каб сеяць, касіць мне
па ўласнай ахвоце,
каб сэрца загадвала — толькі не штаб...
Ах, вылезу ўсё-ткі
з ганебнай аброці,
таму што не конь я,
не лёкай, не раб!

# КЕЛЛЯ

Сцяны чатыры, шыбіна і столь —
мой мікрасвет. Сучасная пячора —
яна мне блізка й сёння, як учора.
Спыніўся тут, мне кажа Бог, і стой.

Навошта адракацца ад свайго.
Ісці на плошчу і махаць рукамі.
Аддай пад брук ты свой кішэнны камень
у тым выпадку, калі меў яго.

Свой гонар-злосць да ўзвышаных трыбун
што́ валачыць!
Стамлёны пралетарый
абсвішча, не зацвердзіць твой сцэнарый.
Адно і зможаш — збіцца у табун.

Тым скончацца памкненні ўсе твае:
за нейкі фунт паабяцанай грэчкі
ты прымеш статус радавой авечкі,
што пугу любіць — тужыць без яе.

Не, плошча ўсё ж табе не па плячы.
Як не свае — чужыя запаветы
ты праз акенца ўзбуджанаму свету
з натхнёнай малітоўнасцю шапчы.



Шлагбаўмам разлёгся павалены слуп,
скрывіліся скрозь тратуарныя пліты.
Кавалкі асфальту з абрэзкамі труб.
І кожная пядзя зямлі перарыта.
І цягнецца некуды роў з-за вугла,
таполя хістаецца, ледзьве жывая.
Як быццам нядаўна бамбёжка была,
не вулка — пазіцыя перадавая.
Не, гэта работ незакончаны фронт
у восень
пад націскам дзён адкаціўся...
Адзін экскаватар — няўрымслівы крот —
пасноўдаўся, потым суцїх — як скруціўся...
Дзяўчаткі, кабеты, няпэўны ваш лёс,
не надта фарсіце — глядзіце пад ногі.
Ах, бедныя —
вечна бягуць праз хаос
і вуліцы нашы, і нашы дарогі.
Набраць не ўдаецца ім поўны разгон,
хоць вабяць іх, вабяць кірункі скразныя.
Які ўжо тут, смешна сказаць, марафон,
калі скрозь работы ідуць земляныя.
Мы грунт векавечны бяром на таран,
апошнія працячы сілы дарэшты.
Каторы ўжо рыем ізноў катлаван!
І марым, і марым, што вырасце нешта...

11. Зак. 5132.

## ПАЧЫНАЮЧЫ БІЗНЕСМЕН

Заўважылі: яму пашанцавала.
З галечы выбраўся, нібы з патопу...
Паглядам слізгаціць паверх натоўпу,
патрэба ў вочы паглядзець адпала.

Прыкмецілі, як ён ідзе па-панску,
іграючы нагамі — шпацыруе.
Не вопратка, а залатая збруя.
Яму ж усе навокал — як падпаскі.

Ён што — у ранг мо выбіўся асобны?
Парушыў мо статут рэвалюцыйны?
Скрыпіць сабе ў пантоплях камерцыйных,
як камерсант музейна-дапатопны.

Скуль браўся ён з закваскай еўрапейскай?
Што ж ён заносіць утрапенне ў масы?
Жыць не жадае, сімулянт, па Марксу,
трымаецца зусім не па-біблейску.

Пяршыць пытанне сцішанае ў горле:
яму цяпер мы не браты і сёстры?
Ну, што ж, давайце кіпцюры павострым
ад злосці, што ў чарзе бакі нацёрлі.

А мо вачмі палыпаем здалёку,
зацісне́м гонар свой самаахвярна.
Нашто чапаць... Ён надта папулярны.
Натоўп за ім... нібы кароль ён року.

## ПРЫЕЗДЖЫЯ

Хіповай знітаванаю брыгадай
ідуць на рыштаванне, як на сцэну...
Прыйшлі, зірнулі і, як дзеці, рады,
што пірагамі ўверх палезлі сцены.
Паскідвалі кашулі, порткі, майкі —
мускулатуру сонца любіць вельмі.
Заглохнуць недаказаныя байкі.
На нізкай ноце загавораць кельмы.
Глядзяцца добра бронзавыя твары
на залацістым і зялёным фоне.
Пагойдваецца на цвіку гітара,
сумуючы, відаць, па мікрафоне.



Пазначаны беднасцю будзень і свята.
І мітынг падобны на зычны шабаш.
А гэта, відаць, яшчэ сціплая плата
за нораў упарты і помслівы наш.
Мо будуць яшчэ і не гэткія ўзносы,
як добрую п'есу падменім на фарс.
Ў дарозе дзяржаўныя нашы калёсы
у гэткім выпадку загразнуць не раз.
Заўзята і доўга тлумачым народу
туманную біблію велічных спраў...
Як быццам залезлі мы з чорнага ходу
у дом, дзе ніхто нас амаль не чакаў.

## З НАГОДЫ ПУСТЫХ ПРЫЛАЎКАЎ

Нашто здзіўляцца, што благая ежа
і што няма ні вопраткі, ні круп.
І валачыць нам прыклады з замежжа,
турбуючы наш пагранічны слуп.
Затое як мы пагулялі, хлопцы,—
як хочаш час той слынны назаві,
мы, рэквізітары і царазабойцы,
былыя дэгустатары крыві.
Усё-ткі мы выдатныя спрытнягі
мабілізоўваць косы і нажы.
Расшпіленыя рыцары адвагі —
каб бразнуць вобзем божыя крыжы.
Ад праведнасці ўсёй, як ад абузы,
адмовіўся наш хрысціянскі люд.
З якім імпэтам расчынялі шлюзы,
каб хлынуў шумна патаемны бруд.
Як нюхалі, каб знюхаць дэсідэнтаў.
І як сялян малолі мы на пыл.
Вырошчвалі не хлеб — апладысменты
высокія — ад Брэста да Курыл.
Вы думаеце, мы не па закону
панура селі на паёк сухі?
Плаціць жа нам, а не якому Джону
за ўсе свае вялікія грахі.



Трошкі пры гонару, трошкі фарсісты —
нос угару, як у чайніка.
Як не пазнаць мне спецыяліста
сельскага, проста — начальніка.

Гляне — і стане на сэрцы дрыготка —
ну не чакай, браце, літасці!
Вельмі грунтоўная ўсё-ткі паходка,
столькі ў ёй цвёрдай саліднасці.

Голас — адны выбуховыя гукі,
вечна павышаная інтанацыя.
Вы асабліва зірніце на рукі:
жэстыкуляцыя, жыстыкуляцыя.

Рэзка на газіку ён пад'язджае,
гучна пра справы пытаецца.
Быццам нікога не заўважае,
першым не павітаецца.



«Індустрыяльная дзяржава» —
заводаў, фабрык — не злічыць...
«Індустрыяльная!» — як брава,
ах, як напышліва гучыць.

А вось — «Аграрная краіна»...
Пагарда так і лезе з душ:
рамёствы, збожжа, садавіна...
Сярэднявечча сон і глуш!

«Індустрыяльная дзяржава!»
Няхай у полі недарод,
затое збэшчаная слава
праз дым сягае і смурод.

І за рулём — усе шчасліўцы,
што піляць поле напалам...
Прызнайцеся вы, ганарліўцы:
чагосьці не хапае вам.

Чаго бракуе вам? Кватэры,
дзе ёсць акварыум для рыб?
А мо зямлі і добрай веры,
звычайнай хаты паміж ліп?

Ці азярыны паміж лесу,
дзе песні сыплюцца з крушын.
І толькі мінімум жалеза —
здаровы мінімум машын!



«Позняя восень. Гракі адляцелі...»
Ціха і глуха, наўзбоч ні машыны.
Глянеш — і пойдуць мурашкі па целе:
цэлая поле стаіць канюшыны.

Лепш не з'яўляцца малюнку такому
на залатым краявідзе асеннім.
Што — не патрэбны нікому-нікому
гэта травіца і гэта насенне?

Дзе ж гаспадар? О, няшчасце якое!
Можа, вайна? Не, часіна не тая.
Нешта здарылася, пэўна, благое
з ім, калі кожны дзянёк засядае.

Зводку складае — чарговую казку,
слухае радыё ў цёплай машыне...
Нізкае сонца, не страціўшы ласку,
грэе сваю сірату-канюшыну.



Чакае інструкцыі — казённых папер —
зноў століначальнік у ціхай канторы.
Гавораць жа столькі аб гэтым: цяпер
развязаны рукі... А ён не ў гуморы.

Узбуджаных дум закішэла гурма.
Марскія вузлы каб развязваць — навошта?
Вярхоўных указаў дагэтуль няма —
спазняецца штосьці службовая пошта...

Так будзе — і раніцай спыніцца цэх —
заходнім усім брахунам на пацеху.
У прэсе цэнтральнай падымуць на смех,
ды толькі яму будзе, ох, не да смеху.

Душа яго ўспенены жах убярэ,
калі запытаюць: дырэктар ці хто ж ён?
Завод велізарны на момант замрэ,
таму што чамусьці спазняецца пошта.

Самому хапіць за штурвал? Магелан
ці выйдзе з яго? Мо найлепей — памерці...
Ну як яго выканаць — спушчаны план,
калі тлумачэнні ляжаць у канверце?..

А з'явяцца — стане прыемна і люба,
дадуць і гарэння, і сілу, і спеху.
Упарта чакае канторская шруба,
што нехта крутне яе лёгенька зверху.

## ГАЛІНА СЦЯПАНАЎНА

Даедзены ўласны гурок,
[illegible] бульба свінням не запарана...
Не дай Бог спазніцца на ўрок —
спяшайся, Галіна Сцяпанаўна!
Парохкаюць хай у хляве.
Спяшайся —
ты сёння дзяжурная...
Зноў круцяцца ў галаве
героі літаратурныя.
Забыла свой дворык і дом —
і ў школу, у добрае верачы...
Ой, штосьці застыў пад акном
брызентавы газік праверачны.
Прынесла, аднак...
Навіна —
ну тут твая песенька спетая:
званілі — вось-вось з аблана
пад'едуць чатыры інспектары.
І тая, што летась была —
правераная інфармацыя! —
якраз на развод падала —
яна ўжо, ох, печань памацае!
Адкрыты ж урок і гурток,
бацькі во — ну як усё склеіцца?
Аформіць «чырвоны куток»,
а вечарам — клубная лекцыя!
Ой, зараз пліту пагасі,
нічога, капуста не выстыне.
У краме даюць «Івасі» —
штось возьмеш, калі толькі выстаіш.
А вечарам — пэўна ж, не фэст!
І дзецям, і мужу прыслужвае.

І сшыткаў круты Эверэст
штодзённа без шуму адужвае.
А ўранні — снавацць ля стала
з вачамі, свае не даспанымі...
Якой ты прыгожай была
калісьці, Галіна Сцяпанаўна!

## ІХ ВАЧАМІ

Мы вам не прыслуга рахманая —
цур!
Свае вы
шукайце дзе-небудзь абноўкі.
Не бачыце, хто мы —
які манікюр,
якой незямной геаметрыі броўкі!
Набіць захацелі
свае хатулі,
у вочы паглядваюць:
дай ім камашы!
А як жа —
камашы і сёння былі,
ды іх узялі,
«как положено»,— н а ш ы...
Прывыклі
ад раніцы швэндацца тут.
Пацеха!
Не бачылі іхніх абносак.
Штодзённа
і тупат, і вэрхал, і бруд.
Не людзі, а бежанцы.
Хлынулі з вёсак!
Дарэмная ўся
гаварыльня пра блат —
ніхто нас не зрушыць
з абранага месца.
Нічога,
што грэблівы маем пагляд,
і скача
іроніі д'яблік ва ўсмешцы...

## УНІВЕРМАГ

Задушна і млосна.
Ад гулу глухі.
Жывая рака
упадае з праспекта.
Бы нехта
за цяжкія вельмі грахі
укінуў сюды —
у вірлівае пекла.
Круг першы —
па-нашаму, першы паверх.
Другі круг і трэці —
па лесвіцы лезьце.
Пакінуўшы ўнізе
свой вулічны смех,
калі яго змог хто
праз дзверы пранесці.
Пад сэрца
сігналы тутэйшыя б'юць,
нібыта ў вайну
выбуховыя хвалі.
«На першым —
ужо як гадзіну д а ю ц ь!
Другім і наступным —
учора д а в а л і...»
Хіба мы
«здароўя свайго кавалі»?
Хтось цягне і цягне
ў нябесную браму.
Глядзіце,
пад рукі ўжо двух павялі
рабіць тэрміновую кардыяграму.

## ГОНАР

Гул вуліцы —
ён не разбурыць сцяну
і бесцырымонна
не пройдзе праз дзверы.
Спяшайся
набіць сабе трохі цану,
пакуль ты ў кватэры.
Пакуль ты ў кватэры —
нібыта ў брані,
аддайся
найлепшым сваім успамінам.
І зрэдку ў люстэрка лагодна зірні,
не стомленым тварам
паззяй на хвіліну.
Таму што
як горад душу заграбе,
адразу ж
забудзеш дарогу да храма...
Ад гонару
хутка адвучаць цябе
тралейбус,
цырульня,
аптэка
і крама.
Адразу
твой выгляд паблякне святы.
І зноўку вярнуцца
захочацца ў садзік...
Бо ясна напомніць,
хто ён, а хто ты,
чарговы
маленькі, ды злы бюракрацік.

## РАЗВАРУШАНЫ МУРАШНІК

Разгубленасць проста — наперадзе восень.
Адно недаўменне, безважнасць, няпэўнасць.
Адчай і надзея ўсё б'юцца між сосен.
Патрачана ўтульнасць. Закрэслена крэўнасць.
Бядой і трывогай усыпаны сцежкі.
Вось вецер падкіне і возьме ў ахапак.
Прыпынкі, замінкі, прабежкі, прабежкі,
і валіцца праца любімая з лапак.
А новы пачатак бязлітасна-цяжкі,
і холад сціскае маленькія душы...
Мы самі — як той паміж сосен мурашнік,
які хтосьці палкай аднойчы парушыў.
Над нейкаю стратай штодзённа гаруем.
І зімна здаецца на цёплай падлозе.
Ад рання да ночы на плошчах віруем,
стварыўшы адну мітусню на дарозе.
І ранены ўсе мы асколкамі веры,
а мроіцца: дом свой будуем багаты.
Прыходзім у новыя нашы кватэры,
ды штосьці здаецца: прыйшлі не дахаты...

## У ГАСЦІНІЦЫ

Спрабуй абысці загародку брані!
Гуляе з ключамі падлетак бязвусы.
Усе нумары і шыкоўныя люксы
занятыя
на ўсе бліжэйшыя дні.
Шыбуюць па мяккай спіне дываноў
плячыстыя хлопцы, амаль супермены.
Навокал спартсмены, спартсмены,
спартсмены,
нібы алімпійскія гульні ізноў.
Ідуць,
каб казённага ўведаць пайка.
Як плюнуць ім —
цераз чаргу пратачыцца.
І дзень праімчыцца —
калі ж ім вучыцца,
калі ж ім, як іншым, стаяць ля станка?
У белых красоўках —
так, так: прывазных —
ідуць
ганарлівыя трэнеры-босы,
як быццам усе нашы справы і лёсы
сягоння залежаць выключна ад іх...

## НЯБЕСНЫМ ГУМАНОІДАМ

Згары што хочаце параіць нам?
На момант бліснуўшы ўначы,
вы асцярожна падбіраеце
да нас нябесныя ключы.

Вы нас з далёкай зоркі згледзелі,
ландшафт прыкмецілі зямны.
Шкадліва думаеце недзе вы,
што мы пакуль што дзікуны.

Ды мы ж не лічымся няўмекамі,
мы ж палім атам, як бензін...
Няўжо пад зыркімі «талеркамі»
вы бачыце абсурд адзін?

Руку не падасцё чаму ж?
Што вас утрымлівае, скоўвае —
непастаянства нашых душ
ці, можа, пыха бесталковая?

Дарэмна думаць і гадаць.
Напэўна, ёсць прычыны розныя.
Вы здагадаліся, відаць,
што мы ў крэдыт папросім розуму.

Наш, мусіць, ведаеце спрыт
з усімі гэтымі крэдытамі.
«Прасвішчуць за пяць год крэдыт,
не стаўшы мудрымі і сытымі».

## ПОШУКІ ГАДЗЮКІ

Яна пакусала,
усіх пакусала
і ў куст папаўзла,
задаволіўшы джала.
Крычым мы,
смакуючы доўгую муку:
«Не стойце —
шукайце пад мохам гадзюку!»
І дружненька ўсе —
хто абуты ці босы —
даліся
на пошукі важныя ўроссып.
Дні, тыдні і месяцы —
толькі мігценне,
ні песні, ні радасці,
ні летуцення.
Не чуем, што кажуць
зарэчныя птахі.
Да нас не даходзяць
ні гукі, ні пахі.
Стаміліся.
Тупату столькі і груку.
Ну колькі ж мы будзем
шумець пра гадзюку?!
«Яна пакусала...»
Таму што кусае
усюды, дзе пільнасць
у зрэнках згасае.
Не стаўце —
запомніце, дзеці і ўнукі! —
вы босыя пяткі
для свежай гадзюкі.



За тое, што з жыцця смяёмся, як на ўроку,
жыццю — і не малы! — мы плацім свой аброк.
І сёння дзе-нідзе зрабілі мы паўкроку
замест таго, каб нам зрабіць вялікі крок.

Здаецца, для хады расчысцілі дарожку,
і дыхае у твар задзірысты свяжак.
Няўжо гэта ўсур'ёз — разлічваць на падножку?
І хто там за спіной трымае за пінжак?

Няхай сабе бальшак пакуль яшчэ не гладкі,
цвярдзейшы, чым калі, што на зубах, арэх.
Павінны крок зрабіць мы сёння без аглядкі,
каб заўтра перайсці на марафонскі бег.



Каго дагнаць ці перагнаць,
за кім ісці ці бегчы,
зрабіць рывок за год, за пяць,
яшчэ смялей налегчы...

Узнагародай — гул і пот...
Не можа быць іначай.
О, як мы часта любім спорт
у гаспадарцы нашай.

Рэвалюцыйны допінг ёй
уводзім, зноў уводзім.
Але як помню, Божа мой,
не дапамог ніводзін.

У брудзе неба і вада,
пусценькія скарбонкі.
Відаць, агульная бяда —
надуманыя гонкі!

І наша колішняя злосць
раптоўнай перамены,
і натапыраная поўсць
надзьмутага спартсмена.

Жыццё ж — павольная рака.
Не паскарай цячэння
ты, чалавечая рука...
І ў тым — усё значэнне.

Не варушы яе глыбінь
і не палохай стэпам...

Не падганяй зямную плынь
сваім шалёным тэмпам.

Збаў, чалавеча, гонар ты,
не трапячыся ў шале.
Рабі харошыя плыты
на ціхай вечнай хвалі.

## РАХУНАК СУМЛЕННЯ

Хоць ты і мацнейшы, а слабых не бі,
як снегам, развагай прысып утрапенне.
І самая лепшае — гэта зрабі
рахунак сумлення.

Калі напісаў хоць адзіны данос
і сёння не спіцца — не знойдзеш збавення,
то ведай, мярзотнік: асвеціць твой лёс
рахунак сумлення.

Ты іншых вучы сабе, многа вучы
і трохі ўшчувай, хоць усё пакаленне,
калі і самому табе па плячы
рахунак сумлення.

На крэсла высокае смоллю не лезь,
бяжы ад кароны, хоць будзе здзіўленне,
пакуль ты яшчэ не засвоіў увесь
рахунак сумлення.

## ПОЗНІ КЛІЧ ТРУБЫ

Над страшным шматгалоссем
салютаў і журбы,
вы чуеце, пранёсся
адбойны кліч трубы.
Ён радасны — не грозны
і чуецца здалёк.
Шкада, што вельмі позні —
вось-вось наступіць змрок.
Спявае кліч адбою.
Узрадуйцеся вы,
хто ўсё ж на полі бою
і цэлы, і жывы.
Вам доля з тварам феі
змагла жыццё сыграць.
Усе свае трафеі
з сабой не трэба браць.
Хоць боль дагоніць востры,
прыцісне, як гарой —
хай не заве да помсты
ніводзін ваш герой.
Аб чым там злосць варожыць,
прыўзняўшы меч стары?
Няма сцягоў варожых —
ёсць толькі сцяг зары!
За дзень да вечных святаў
гудзі, трубы набат.
Не танкавых парадаў —
жыві, шароў парад!

## ШКАДАВАННЕ

Скрозь тоўшчу часу позірк пралятае,
імкне душа — рассоўвае смугу...
Над продкамі вісіць бяда густая,
але нічым я ім не памагу.

Маё бяссілле мне самому збрыдзіць,
вось кінуся — ў стагоддзі пабягу...
Табун чужацкі наш чабор капыціць,
але змяніць нічога не магу.

І блякне на маіх вачах геройства,
фанфары глухнуць, як пачую плач.
Ды я фальшывы сцяг братазабойства
не вырву з рук, люд колішні, прабач.

Тыран шалее ў акружэнні зброду
і гне народ свой стомлены ў дугу.
Я спачуваю беднаму народу,
але змяніць нічога не магу.

На папялішчы слёз і шкадавання,
як пагарэльцу, мне смактаць тугу.
Няма збавення, як няма вяртання.
Нічога перайначыць не магу.

Не перакрэслю ўсе былыя церні.
Я пад світаннем заўтрашнім хаджу.
Хіба ў сумленне, нібы ў звон касцельны,
удару словам — можа, разбуджу...

# ВАЯЎНІЧЫМ — АПОШНІМ З МАГІКАН...

На злом вы галавы
зноў скачаце раптоўна...
Не тузайцеся вы,
бо не адны ж у чоўне.

Тут нас мільярдаў пяць.
Вам човен — нібы цацка.
Абы вось разгайдаць...
Што станецца — Бог бацька...

Адкуль вось гэты шал —
шумець дзевятым валам,
хапацца за кінжал
і рвацца да штурвала.

Вы служыце бядзе.
Засвойце: будзе блага.
Кругамі па вадзе
надзеі нашы лягуць.

Наперад паглядзім —
ну вы ж народ дарослы.
Адначасовы ўсім
налегчы мо на вёслы?

А ў вас грызня адна —
т а к нельга пацяшацца.
Усе ж баяцца дна —
чаго на дно спяшацца?

## НАСТАЎНІК

1

Пра іншы свет не думаюць ніяк,
бо вечныя яны ж у гэтым свеце.
Заўсёды бессмяротныя ўсе дзеці,
як гаварыў паэт-мудрэц Маршак.

Настаўнік, не нагадвай пра жальбу,
што мгліцца, мгліцца ў беззваротным часе.
Калі ўжо сёння апынуўся ў класе —
схавай сваю прыватную журбу.

Ім не патрэбен горкі вопыт твой,
твая журба — якая недарэчнасць!
У радасную травяную вечнасць
хай зараз акунуцца з галавой.

2

Ты ім жадаеш шчыра памагчы,
нібы ў крынічкі, зазірнуўшы ў вочы?
А можа, ты з настойлівасцю хочаш
не памагчы ім, а перамагчы?

Падстрыгчы пад адзіны грабянец.
Ну а паколькі ты аўтарытэтны, дужы —
у кулаку сціскаеш моцна душы.
Не піснуць... Ну і справе ўсёй канец.

Ты мне даруй — занятак твой пусты.
Дзіўлюся проста — ах, чаму ты рады?
Дарэмна ўзвёў у класе барыкады —
не пераможаш ўсё-ткі вучняў ты!

3

Ты так спяшаўся, небарак, сюды.
Нясе партфель усе рыштункі тэмы —
ўсе доследы, заданні, тэарэмы,
фармуліроўкі, даты і гады.

На парты ссыпаць гэтую гурму —
які вялікі і пачэсны клопат.
Хоць гэта ўмее і звычайны робат,
і да таго ж, відаць, прасцей яму.

Ты сонны Дух хутчэй разварушы,
каб ён прарос і паляцеў раскуты...
Не забывайся: ты спачатку скульптар,
што лепіць сонца з маладой душы.

## СЭНТЭНЦЫЯ

Як славяць птушкі
свой падобны лёс,
і іх кожная
умее шчасце здзейсніць.
Усе яны —
анёлы з-пад нябёс.
Ўсе радыя —
у харастве і песні.
Даў Бог красу
усёй лясной жывёле,
аднолькавыя даў
Ён ёй правы:
мець стройнасць ног
і статнасць галавы,
выгульвацца пад сонейкам
на волі.
А як жа быць,
мой Божа, чалавеку,
хто надта шмат
аздобы не дабраў,
хто цэлы век
не дойдзе да забаў —
як быць недасканаламу калеку?
Як сваю долю
выбраць весялосці,
як сцерці з сэрца
чорную кайму,
як сярод іншых
пачуваць яму,
як славіць неба
і ўцячы ад злосці?

Бо я і зараз,
ва узросце сталым,
такой задачы цяжкай
не рашу.
Няўжо адно:
трымацца за душу —
за цуд,
які ён зробіць дасканалым.



Глядзіце: ваша мама — прыгажуня!
Які ваш тата — дужы весялун!
Як многа грае ў хаце цёплых струн.
Буяе радасць, як палетак руні.

І вечарам не хоча развітацца —
гуляе ў зрэнках сонечны прамень.
Запомніце вы гэты майскі дзень —
вам давядзецца да яго вяртацца.

На вашым сталым цяжкім перавале
выява гэта з'явіцца ў вачах.
Яна ўдыхне зноў сілы, быццам маг,
у вашы крылы, што далоў апалі.

Люстэркам гэта зробіцца выява
у будучыя тыя вечары,
калі пасядуць частыя сябры:
самота — злева,
а бяссонне — справа.

* * *

Лыгасты малады акселерат,
захоплены сваім самасцвярджэннем,
не прыдае ніякага значэння
таму, у чым ён, можа, вінават.

Чужых зусім не заўважае мук.
Смакуе волю, хоць яна і злая.
І надта цьмяна, мусіць, уяўляе,
што ён падобны вельмі на бамбук.

Уверх ідзе. На ім, як на кусце,
так лісцяў шмат напорыстых і вострых.
Ён праз душу застылую дарослых,
нібы праз цела, прагна прарасце.



Шустры хлапчына, ты маму замучыў.
Параскідаў свае ручкі, алоўкі.
Зноўку зваліў, шалапуцік, у кучу
кнігі, часопісы, тапкі, красоўкі.
Нейкімі дзіўнымі ходзіш рыўкамі,
проста не знаеш звычайнага кроку.
Дрыгнеш нагамі, ускінеш рукамі.
Рухі твае — як прэлюдыя року.
Сэрцам аддадзены ветру-стыхіі,
шумную музыку любіш прачула.
Можа, ў цяперашняй арытміі
цела гармонію новую ўчула?
Па маладосці, як кажуць, спрасоння
ну а калі з панталыку ты збіты?
Можа, душа наша кволая сёння
раптам сышла са спакойнай арбіты.
Ёй не вярнуцца на месца старое —
пэўна, маршруты наш лёс пераблытаў.
Пэўна, душа ўжо — малы астэроід,
што падуладны дзесяткам магнітаў.

## БЕЗ МЯНЕ

Праз цэглу тоўстых сцен,
як праз любоў і злосць,
як праз чарот антэн,
хачу прайсці наскрозь.

І мой парыўны бег
праз плот двароў і дач —
у ваш ледзь чутны смех,
у ваш надрыўны плач.

З'яўляюся, як цуд,
на вашым я акне.
Трапечацца мой люд,
не чуючы мяне.

І круціць, як ганчар,
сляпога лёсу круг,
не глянуўшы ў мой твар,
мой не адчуўшы дух.

Гаркота ахіне,
як воблака, не раз.
Жывіце без мяне!
Я ж не пакіну вас.

Усё мне па плячы.
У зарасніку руж
адбудзецца ўначы
сустрэча нашых душ.

13. Зак. 5132.

## ЯЎРЭЙСКІЯ МОГІЛКІ

Не закрычаць ад жальбы камяні,
ціха забытыя векам і Богам.
Густа зялёным пабраліся мохам,
нібы пусцілі ў зямлю карані.

Вольна шчыруюць асот і быльнёг.
Сноўдае конь. Шпацыруюць авечкі.
Дзеці вядуць валейбольныя спрэчкі.
Шпарка ідзе ў наступленне мурог.

Вас, камяні, засталося няшмат —
вы прыглянуліся вельмі прыдуркам...
Згодна, пакорна пайшлі на падмуркі
гумнаў усіх навакольных і хат.

Тут я амаль на каленях стаю —
бездапаможна чытаю пісьмёны.
Цяжка ўваходзяць былыя імёны
у закарузлую памяць маю.

Шкельцы разбітай бутэлькі бяру
і ажыўляю былое патроху.
Камень — ці сэрца? — ўратую ад моху.
Бляклыя літары шкельцам пратру...

## ВАЙНА ШЫЛЬДАЎ

Бывае, шыльду
хто-небудзь развешае
і пракрычыць:
— Эй вы! Яна — найлепшая!
Спрабуйце толькі зачапіць
ці скінуць...
Адзін намер —
і ваша справа — згінуць!
Другі ж
таксама шыльдачку прышпільвае:
— Ну, вось...
Пад ёй жывуць усе шчаслівыя.
Шчаслівыя!
Чаго ты слёзы мажаш?
Паплач, паплач —
дзесятаму закажаш!
І трэці лезе
і зіхатлівай бляшкаю:
— Пад ёй, пад ёй
пражыць будзе няцяжка вам.
Яды хапае,
сукні ўсе пашытыя...
Вайна ідзе
паміж усімі шыльдамі!
Паміж сабой
не дапускаюць літасці,
страляючы
сваёю кожнай літарай.
Але лагода
на планеце шырыцца.
І шыльды, можа,
як-небудзь памірацца.



Запальваюць агні сяляне ў хатах —
лес схаладзелы пацямнеў ледзь-ледзь.
Адразу сэрца хоча зразумець,
чаму агні ўсе абвяшчаюць свята.
Святло ліецца з позніх фар і вокан —
калышацца ў сырым паветры след.
Адчужаны і спрацаваны свет
і пацяплеў і падабрэў навокал.
Не ведаеш, за што удзячны стоме
і цяжкаму згрызотліваму дню,
як прыпадзеш да вечнага агню,
што запаліў ты сам у родным доме.

## ПАКІНУТЫЯ

Як вам хапае грубасці,
распешчанай няўвагі!
Ад недахопу любасці
вам цяжка, як ад смагі.

Ад колішняй лагоднасці
вам засталіся крошкі.
Скарынкі ўсохлай роднасці
пакаштаваць бы трошкі.

Ды ваша непрыкаянасць
у зацішэлых хатах
заўжды пячаццю Каіна
ляжыць на нашых тварах.



Настаўнік мой,
ты быў вялікі маг —
душа мая расла
ў тваім палоне.
А памужнела
і, як дужы птах,
далася ўверх сама
з тваёй далоні.
Яна пайшла
угору і ў бакі,
узяўшы волю
па сваёй ахвоце,
запомніўшы
цяпло тваёй рукі,
яе трамплін,
спружыністы на ўзлёце.
І як рабіць мне
выдых альбо ўздых,
хай вышыня набраная падкажа.
Настаўнік мой,
я ісцін прапісных
ніколі не трымаю ў саквояжы.
Праз павуцінне
веры і дарог
я, можа, і палез
не ў тую б і т в у...
Настаўнік мой,
у нас адзіны Бог —
не патрабуй
шаптаць т а б е малітву.

* * *

Ну так, вядома, дзеці — нашы кветкі,
што радасна растуць навідавоку,
каб сярод іх у супачынак рэдкі
папесціцца ўстрывожанаму воку.

Няхай яны і сапраўды пасвецяць,
з апошніх сіл дагледжаныя намі...
У светлае апранутыя дзеці
мне майскімі здаюцца матылямі.

Узнятыя ў блакітны свет малечы,
усцешаныя сонцам, жаўрукамі,
садзяцца нам даверліва на плечы,
махаючы, як крыллямі, рукамі.

## БЭЗ ЛЯ ПУСТОЙ ХАТЫ

Глядзіш з-пад полымя свайго,
прыгрэты позіркам людскім.
Скажы, палаеш для каго?
Спытацца лепей мо: па кім?
Табе маўчанне больш пад густ.
Не любіш згадак і адгадак.
Заўжды гарэць твой будзе куст,
пакуль стаіць замшэлы ганак.
Пакуль са сцен святло цячэ,
падмурак цёплы, як калісьці,
і студня дыхае яшчэ
на замаркочанае лісце.
А знікне хата, як міраж
жыцця пагаслага людскога,
ты зноўку дзень асвеціш наш,
як нейкі сімвал, што ад Бога.
Былое помнячы жыллё,
ты прашапочаш штосьці грушы.
Пасядуць ноччу на галлё
табою вернутыя душы.

## У СЕЛЬСКІМ АЎТОБУСЕ

Шматгучнай бяседы суцэльны кашмар,
дзе крыўда і скарга — нібы галашэнне,
дзе кожны разлічвае на суцяшэнне,
дзе боль беспрасветна аж дыхае ў твар.

Нібы тут адзінае выйсце пакут.
Хто плача, а хто безупынна балбоча.
Нікога ніхто і паслухаць не хоча.
Мазгі перакручвае вусцішны гуд!

Як галасна стогнеш ты, мой хлебароб!
Я змогся зусім — пашкадуй мяне крышку...
Бо пойдуць мае запісныя ўсе кніжкі
зусім не пад вершы — пад назвы хвароб.

Адкуль вы, адкуль вы, чародкі бабуль?
З бальніцы, з раённых пустых магазінаў?
З бліскучых ці ўчуе вас хто лімузінаў
пад нумарам-шыфрам таемным «нуль-нуль»?

Саноўныя дзядзькі, мо знойдзецца ў вас
свабодная хвіля — кажу я адкрыта:
залезьце хоць раз ў аўтобус разбіты
і, хоць з валідолам — праедзьце хоць раз!

14. Зак. 5132.



Ці чуеш, дружа: жаўранкі ў блакіце!
Згары вяслуе лепшая пара.
Твая даўно ўжо сталасць у зеніце,
на галаве карона з серабра.
Твар апалілі полымя і сцюжа,
затрэсла неспрыяльная шаша.
З тваіх вачэй выглядвае, мой дружа,
былая летуценная душа.
Гарэла, млела, мерзла — не хацела
адпрэчыць спадзяванні ўсе свае.
Хаця пакуты стомленага цела
паклалі цень празрысты на яе.
Дасведчанай, ёй верылася ў казку
і ў твой запал наіўны-маладых?
Маўчыць яна пад грубаватай маскай,
што зноў пашылі спраўныя гады.

* * *

Асенні дзень сышоў у блізкі лес,
і шчыльны змрок на вёску асядае,
нібы аўчыну накідае спрэс —
і выхаду зусім не пакідае.

І лямпачка на вулічным слупе
ужо год пяць назад перагарэла.
Конь змучаны пад брамкаю храпе,
рыпіць хамут, ад шыі замакрэлы.

Зрэдзь галасы чуваць то тут, то там.
Асляплі вочы: чалавеча, дзе ты?
Льюць малако пахучае катам
і нешта прыгаворваюць кабеты.

Як родны дом, ім гэта стала глуш,
і гэта ноч — ні месяца, ні зорак.
І толькі ззянне ад сыноўніх душ
плыве здалёк на восеньскі падворак.

* * *

Ёсць маці дзве, што кінуты табой.
Нямы дакор гусцее ў іх паглядзе.
Як дзве сястры, яны на даляглядзе
спыніліся, пабраныя журбой.

Ім холадна — ні ласкі, ні цяпла.
Цярплівыя, жывучыя надзіва.
І з іх адна аднойчы нарадзіла
цябе,
другая — першы хлеб дала.

Зямля і маці! Што за жорсткі час
ля самых хат прагрукатаў, пралопаў,
каб адабраць сыноў і хлебаробаў
у вас, не папытаўшы згоды ў вас...

Піхнуў у свет цябе ад пахкіх ніў,
з няўцямнай сілай павалок да раю...
Ад травянога матчынага краю,
нібы шлагбаўмам, рэзка аддзяліў.

Прызнайся шчыра, гладка не ілжы,
паспавядайся, расчыніся насцеж:
ці ўхоплена табой за грыву шчасце,
як лёг шлагбаўм, па гэты бок мяжы?

Ляціць душа — адна — за дрогкі лес.
А прыйдзе міг — з табой кранецца разам.
Ты ля былых варот застынеш, Лазар,
схаваўшы мокры твар у дзікі бэз.

## ЧАЛАВЕК НА ПАЎСТАНКУ

Чалавек на паўстанку ўстрывожаны нечым —
і куды гэта выбраўся ён супраць ночы?
Ён не ўмее схаваць неспакой чалавечы
і бясхітрасна ўсім пазірае у вочы.
Разрываецца сэрца на часткі да млосці,
а ў душы ледзь варушацца, мусіць, руіны.
Ён глядзіць з непрыкаянай вераю: хтосьці
здыме камень з ягоных плячэй на хвіліну...
А наўкруг тарахцелі няспынна пра моды.
Хтось маўчаў. Маладая гучала бравада.
Пад накінутым панцырам спала лагода.
Праз турботы прабіцца не ўмела спагада.
Не хапала паветра, нібы пад вадою.
Скрозь лажылася сонная цемра да ранку.
У вялікім натоўпе, сам-насам з бядою,
утрапёна хадзіў чалавек на паўстанку.



Згінае бетонная столь мае плечы,
на жоўтую яблыню гляну я ў скрусе.
Не ўмею любіць я канкрэтныя рэчы
і, мусіць — даруйце мне! — не навучуся.

Навокал прыручаны свет разнастайны,
знаёмыя скверык, вугол, паваротак...
Сябе загубіла, як страціла тайну,
усё, што сягоння адкрыта на дотык.

Прашу, абхапі мае ногі, світанак,
на смужнай вярсце апынуцца хачу я.
Я выйду адзін на жаданы паўстанак,
дыхання твайго ля грудзей не адчую.

У вочы дакорліва гляне расстанне.
Усё, што пакінуў — як быццам знявечыў...
Народзіцца — скуль яно возьмецца? — ззянне
ад кінутых сэрцаў, адрынутых рэчаў.

## СЯРОД СВАЯКОЎ

Не ранні час. Пара ўжо з-за стала.
Падгрэблены грунтоўна дэфіцыты.
Апошні шкалік з марачным дапіты,
а не прыбавіў ён, аднак, цяпла.

Не адбылося цуда. Гамана
зноў не змагла ператварыцца ў радасць.
Не знікла далікатная зацятасць.
Пануе ў сэрцы стомленасць адна.

Ніхто не знае, гаварыць аб чым.
Ваду таўчы у ступе аднастайна?
Размытая мяжа сямейнай тайны...
Перад расстаннем чынна памаўчым.

Сустрэчу доўжыць проста сіл няма.
Па добраму святому абавязку
на твар паклічам робленую ласку —
і выйдзем з-пад сваяцкага ярма.

## ХЛОПЧЫК У ЦІРЫ

На ясненькім лобіку — веку кляймо.
Чамусьці ўтрапёны, узрушаны нейкі.
Ах, плакала сёння тваё «эскімо» —
гані ўсе сабраныя ўпотай капейкі.

Якая там трапнасць дрыжачай рукі,
а значыць — хіба задаволен сабою?
Амаль не куляюцца штосьці звяркі
за выстралам першым уніз галовою.

Бляшаныя цацкі настойлівы зрок
з талковай прыкідкай свідруе з-пад шапкі.
І весела падае ўрэшце звярок,
адкінуўшы ўверх нерухомыя лапкі.

І радасць твая палілася праз край.
І гонар мужчынскі запеніўся: брава!
Ну хопіць. Нацешыўся. Стрэльбу аддай.
Аддай і не румзай — благая забава.

Вунь сябар чакае з футбольным мячом,
вунь свішча цябе ля варот аднагодак.
Як цяжка пайсці! Падпірае плячом
і вокам валошкавым цэліцца продак...

## МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ДОШКІ

Па тратуары — так ці з мэтай —
ідзём, нібы па цвінтары.
Пазначаны жалобнай метай
пасляваенныя муры.

Адсюль людзей кудысь пакратаў
няўступны лёс — не нейкі мэр...
Як многа слынных кватарантаў
з ранейшых з'ехалі кватэр!

Выходзіць, сталася такое —
размен свой здзейснілі яны:
камусь пакінулі пакоі,
сабе ж — кавалачак сцяны.

## НЯМЕЦКІЯ ТУРЫСТЫ

Расія-сфінкс, чырванасцяжны рэбус —
яна чаму іх вабіць, як азон?..
Гарчыць, гарчыць нацыянальны эпас
мінулых спраў, дарэшты з'еўшы сон.

Праехаўшы вакзалы і таможні,
адкінуўшы гасцінічны спачын,
вачамі п'юць журботу жоўтай пожні
і журацца — на гэта шмат прычын.

Як прачытаць па гэтай жоўтай кнізе,
сягоння ім які падкажа луг,
дзе спачывае мёртвы дух дывізій
і дзе лунае самы родны дух.

Не засталося ні адной засечкі
ад іхніх продкаў — цішыня і гладзь —
ні ў чыстым полі, ні ля нашай рэчкі —
час пастараўся ўсё тут заараць...

* * *

Чамусьці ніякіх правоў у яе,
куды ні падайся — адны забароны.
І кожная птушка, шалеючы, б'е —
аж сыплецца пер'е з-пад белай вароны.

І хоць закрычы — паратунку ні-ні,
дзяўбуць і чакаюць гвалтоўнай абноўкі.
Ды лепш прыпыніць свае цяжкія дні,
чым прагнуць ганебнае перафарбоўкі.

«Як-небудзь я выжыву. Ўсё не бяда.
Ужо не дрыжаць мае ў страху паджылкі...
Вы толькі не верце: калі чарада —
святая яна
і не зробіць памылкі».



Зажураны спакой лёг ясна на шчаку,
два сэрцы родны кліч у свеце не згубілі.
Вядзе дарослы сын матулю пад руку,
чый век ужо гарыць зарой на небасхіле.

Ідзе дарослы сын, а за яго спіной
шматлікія гады брыдуць, як невідзімкі.
Шлях доўгі раз'яднаў і з летам і з вясной,
пайшлі па галаве асеннія зазімкі.

Віруе маладосць і скача навакол,
праменячы па ўсіх усмешкі і лагоду.
Матуля й сын ідуць. Над імі арэол,
нябачны арэол — любоў і смутак роду.

## КРОКІ ВЯЗНЯЎ

Бяздонная ціша — сястра і сяброўка,
а склыгат жалезны у ёй — як прарэха...
Халодная, як прыгавор, атынкоўка
ужо не ўбірае апошняга рэха.

Мяняюцца дні, каравульныя змены,
заглядвае кат у акенца — світанне.
Зноў рэха з-пад ног, нібы гукі Шапэна,
праз тоўстыя сцены вылузвацца стане.

Ты чуеш мяне, нешчаслівец далёкі,
у гэтыя самыя доўгія ночы?
У сон мой трывожны самотныя крокі
даносяцца глуха з усіх адзіночак.



Усё часцей сябе
суцешваеш са скрыпам—
патрэбных слоў няма,
былы ідэаліст!
І моўчкі пастаіш
каля паштовай скрынкі,
трымаючы ў руках
свой старамодны ліст.
І самі па сабе
з'яўляюцца пытанні:
што хочаш ты пачуць
з далёкіх берагоў?
Ці дойдуць да цябе
глухія прывітанні
ад колішняй травы,
ад леташніх снягоў?
Хто возьме гэты ліст,
што сёння ў свет паскача—
шуфляда ці вядро
таропка заграбе?
Занятая сабой,
заўжды маўчыць удача.
Не хоча лёс благі
расказваць пра сябе.

## МОСТ ЛЮБОВІ

Бунтоўна-хмельны ўзрост
трасе, як вецер грушу,
любові ранняй мост—
з вялікім хрустам рушыць.
Усё ляціць далоў.
Рэальны пыл адзіны.
Каструбаватых слоў
праносяцца ільдзіны.
Ад радасці, відно,
кругі наўсцяж зайгралі—
ідуць на дно, на дно
параграфы маралі.
Наказаў цяжкі брус,
свабод ланцуг кароткі—
як непатрэбны груз,
глытае ўсё паводка.
Глухі, сляпы яшчэ
пярэдадзень сталення.
Пакуль што не пячэ
сярод начы сумленне.
Бунтоўна-хмельны ўзрост —
ён можа хутка выйсці...
Зноў трэба ладзіць мост,
разбураны калісьці.
Над вірам талых дзён
яго снуецца пража.
На бераг сэрца ён
былым цяплом ці ляжа?

## НОВЫ МІКРАРАЁН

Пустыр працінаюць густыя павевы,
яшчэ незакончаны дворык — прадзьмуты.
Гіганты-дамы, ці бетонныя дрэвы,
гадаюць, пад імі маркотны чаму ты.

Мае галасістыя жаўранкі — дзе вы?
Вясны і надпольнага сонца пястушкі.
Бетонныя дрэвы, бетонныя дрэвы,
чаму вас не любяць шматлікія птушкі?

Паверхаў і лоджый раскрутак вялізны,
ды сфера такая для птаства благая,
зусім не спрыяльная — лісце бялізны
на сонцы трапечацца і засыхае...

Шафёры, прафесары і лабаранты
адзін аднаму тут не скажуць ні слова.
У кожным пад'ездзе — адны эмігранты,
якія не знойдуць агульную мову.

Гіганты-дамы, вы ўзаконілі межы
і душ разгародкі, дзе кожны знямее.
Не дрэвы вы ўсё ж — вавілонскія вежы:
ніхто тут нікога не разумее.

## ІЗГОЙ

Дэбільны хлопчык спіць на задняй парце,
хто знае, шчыра дрэмле ці знарок.
Закончыцца вось-вось чарговы ўрок —
не варухнуў ён аніводным пальцам.

Нібы зусім адсутнічае ў класе —
няма яго аж некалькі гадзін...
Як сірата пакінуты — адзін:
сусед яго да іншых перабраўся.

Ні ў кога ён не просіць суцяшэння —
ніхто яго не лічыць за свайго.
Паперкамі страляюць у яго
амаль што з трох бакоў, як па мішэні.

Ён — добрая прычына для пацешак,
і кожны з крыўдай лезе, як аса.
Між ім і класам стала паласа,
зарослая ажыннікам насмешак.

І ўсё ж азы адужвае паволі,
на большае яму не хопіць сіл...
Шчаслівыя бацькі, што іхні сын
не ў спецыяльнай — у звычайнай школе...

* * *

Жаданай травіцы заўжды адчуваецца брак,
заўжды не хапае, хоць ты, як Габсек, эканомны...
Калышуцца райскаю ніваю ў стэпе каноплі.
Цвіце, як нябеснае зарыва, радасны мак.

І дымныя позіркі цягнуцца мройна праз плот,
з бутонамі маку настойліва спеліцца драма.
Які ж ты салодкі, аднак, забаронены плод—
якія ж вы кволыя ўсё-такі, дзеці Адама.

Прагневалі Бога і з д'яблам даўно заадно?
Што — сонца пагасла, о наша малодшая зелень?
Трымаешся моцна за самае страшнае зелле,
нібы за саломінку, што пасылае на дно.

А можа, такі бескантрольны расхрыстаны час?
А можа, было не да вас нам у фінскай парыльні?
А можа, сярод неабдымнай пустой гаварыльні
зусім праваронілі вас?

# ДОНАРЫ

Завяў бы я, бы кветка ля шашы,
і даканала б сонная знямога,
калі б не вы, о донары душы,
калі б не ваша збоку дапамога.

О маці, сіл дай пераплыць раку,
хоць вобраз родны прыцемкі схавалі.
Мяне вядзеш і сёння за руку,
з усмешкаю
ускідваеш на хвалі.

Сябры мае, нязваную бяду
я ля парога стрымана страчаю.
Пакуль са мною вы, я не пайду
па хісткай кладцы хмельнага адчаю.

О птушкі галасістыя, няхай,
мой сад надзей няхай сабе патухне,
пакуль даносіць шчабятанне гай,
мелодыя былая не заглухне.

О сонца запаветнае, свяці,
не дагарай над галавой заўчасна.
Пакуль ты ёсць — не восень у жыцці.
І сад цвіце,
і дыхаецца ясна.



Шкадую ўсіх заўсёды і, як звычна,
ваш супакой дарэмна не ўраку.
Даруйце, што і ў споведзі лірычнай
таемны боль трымаю на замку.

Я знаю, што яго ў вас значна болей,
я толькі боль чужы разварушу.
Стаяць, як з шапкай, з асабістай доляй?
Сябе прыніжу, іншых рассмяшу.

Таму ў цяжкой і неспатольнай скрусе
дарыць вам слёзы я даўно адвык.
Як нечага ганебнага, баюся
сярод адчаю перайсці на крык.



Карпею я над паэтычным томам...
Тут вельмі блага кожнаму паэту.
Тут столькі ходзіць беспрасветнай стомы!
Суцэльны плач — канец нарэшце свету.

Паэзія, ты што — на пахаванні?
Спявачкай чыннай ходзіш на хаўтуры?
Характару і вытрымкі — ні звання.
Чаму ж дайшла да румзання з бравуру?

Успомні, як ты ў медзь шчасліва біла,
трубіла ў горны — і не брала змога.
Адкуль жа сум? З-за дэфіцыту мыла?
У рай зямны не верыш — вер у Бога!

Замучылі зазімкі і адлігі
цябе. Здаецца: ў свеце — недарэчнасць.
Заблыталася між чужых рэлігій.
Але ж свая ёсць пад найменнем — вечнасць.

Зачэрпні там вядзерца супакою,
а потым выпі — распагодзіш хмурасць.
Не дажджавою лужай будзь — ракою,
дзе ціхенька пагойдваецца мудрасць.

Ты выжывеш, абавязкова згорыш
свой цяжкі шлях і закалышаш мукі...
Калі вясла ты мне падаць не можаш—
саломінку мне кінь аднойчы ў рукі!

* * *

Агонь душа душы нясе...
Дарэмна слоўнікі гартаць:
як нежывыя, словы ўсе —
не могуць факеламі стаць.

І па-вясковаму шумець
не ўмеюць, лапушыцца веццем
няздольныя. Яшчэ ледзь-ледзь —
зашалясцяць асенні́м смеццем...

А што здзіўляцца? Доўгі шлях
іх скасаваў і бляск і шчырасць.
Хадзілі доўга па руках —
даўно ўжо страцілі цнатлівасць.

І паспрабуй цяпер адсей
ад пустазелля дзеясловы.
Фальшыманетчык-фарысей
пакінуў пудзіла ад мовы.

Дарэмна я пра заняпад...
Як сэрца, мова будзе грукаць.
Адно б, як слабых куранят,
нам слоўца кожнае адхукаць.

## ПАМЯЦІ ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

Зялёны ліст сарваўся долу,
яшчэ такі зялёны ліст.
Зямнога лета мерны свіст
яшчэ звінеў, гусцеў наўкола.

Такі ўжо лёс, такая доля,
ёсць дно ў адпушчаных хвілін...
З паверха трапяткіх галін
зялёны ліст сарваўся долу.

Чаму сарваўся? Стала зімна,
дрыготка, вусцішна ўначы?
Балюча стала, хоць крычы?
Увесь не ўлазіў боль у гімны?

Туга глушыла трапятанне?
Цяжэй было вясну гукаць?
Чым позняй восені чакаць,
мо лепш паклікаць развітанне?

Хто нам, адкуль прарочыць выйсце,
заве душу ў нябесны сад?
Шуміць пад знакам горкіх страт
астатняе жывое лісце.

Яно чарговы дзень вітае
з паверха кожнага свайго.
Але прыслухайся: ў яго
ужо мелодыя не тая...



Ну вось ён — талент адшуканы,
па сціплай мерцы — пяцібальны!
Ход разв珠жанняў — нечаканы,
раптоўны жэст арыгінальны...

Тэмпература ёсць гарэння,
самааддача ёсць як быццам.
Праз лес пажоўклы паўтарэнняў
жаданне цвёрдае прабіцца.

Не важна, што ў адкрыцці новым
не ўсё даведзена да ладу.
А ўсё-такі што стаіць за словам —
парыў, учынак ці бравада?

Людскіх пакут і болю — колькі?
Усіх адчайных намаганняў
як шмат тут маецца? Ці толькі
высокі клас чыстапісання?

А слова — як святло ў хаціне.
Яно — і звон, і меч, і лекар...
Як пехацінец, слова гіне,
душы не ўзяўшы чалавека.

## МАЛАДЫМ КАЛЕГАМ

Як хочацца стварыць ім непадобную
паэзію — штодзень муштруюць Музу.
Бо класіка — як костка дапатопная.
Як звон хаўтурны — роўненькая музыка.

Далоў зашмальцаваныя банальнасці:
раса на лузе, коні, хатка матчына...
Мо скончым румзаць над чыёйсьці старасцю?
Завыем дружна над забітай спадчынай.

Ну што за тэма — шчабятуха-ластаўка?
Было, што ёю сэрца суцяшалася.
Жыццё і міфы, праўда і фантастыка,
Хрыстос і Фрэйд — усё перамяшалася...

Як многа паэтычнай апантанасці.
Ірвецца сувязь... зноў душа на ростані.
Як хочацца ўтрапення і складанасцей.
А людзям ах як не хапае простага.

Яны ўсё болей цягнуцца да звычнага,
удары лёсу зносячы пакорліва.
Ну што ім тая музыка касмічная,
яны пакуль што нават не накормлены.

Не падаліся — чуеце? — задужа мы
кудысь у бок ад веры і ад святасці?
Мо зоймемся пакуль што тымі душамі,
дзе вельмі мала засталося радасці.



Шматлікія словы турбуюць мяне,
хоць я іх багата за век перакрэсліў.
Бо слава, так думаюць, іх ахіне
адразу, як толькі увойдуць у песню.

Шматлікія словы прыходзяць да рук.
Бяры іх! І новая песня гатова.
І быць вешчунамі ці шчасця, ці мук —
хоць зараз! — гатовы гарачыя словы.

Абы штохвілінна ім біць у званы.
Я знаю, маю вінавацяць ляноту.
Штодзень і штоміг падбіваюць яны
спяшацца... і ўзяць мне фальшывую ноту.

* * *

За тайнай — наўздагон...
Скачы кулём, як Рэ́мба...
Каму патрэбен ён —
твой малаўцямны рэбус?

Сваё вітанне шлеш
якому адрасату?
У сэнс без дна і меж
ты робіш спрытна сальта.

Ці глянуў на бакі,
дзе наша мова вяне?
Хто знойдзе іх — радкі,
схаваныя ў тумане?

Пяройдзеш час уброд —
ёсць паэтычны мускул!
Як навучыць народ
чытаць па-беларуску?

Да мовы ён жывой
ідзе, хаця й марудзіць.
Чарговы рэбус твой
яго зусім адпудзіць.

## ДЫЯЛОГ З ПАЭЗІЯЙ

— Ёсць, значыць, надзея на кволыя сілы?
Зноў горнеш буяністы вецер пад крылы?
— А як жа іначай?
— А што, калі ты не адужаеш змогі,
ганебна ўпадзеш пешаходу пад ногі?
— А гэта пабачым.
— Ёсць троны, тыраны, дзе рыфма — прыслуга.
Навокал жалеза, а ты — толькі пуга...
— Пра кроплю мо чулі?
— Дапусцім, ты сонца — ёсць думка такая,
ды толькі не куля, што ў сэрца страляе.
— І сонца, і куля.
— А знаеш, навокал і скокі, і рокі,
і рогат, і свісты, і шум пад аблокі.
— А я не аглухну.
— Ці доўга працягнеш, аднак, без вады ты—
цябе не накормяць скупыя ліміты.
— Мне хопіць — не спухну...
— Прыхільнікі віскі, прыхільнікі плова
адносяцца вельмі скептычна да слова.
— Няпраўда — бунтую!
— Ёсць людзі, што ў брудзе пагрузлі па вушы—
паэзія вычысціць іхнія душы?
— А я паспрабую.

* * *

Пазначанае сонцам слова,
дзеля чаго табе старацца—
ці ў небе быць абавязкова,
ці кукаваць на біржы працы?

О песня, ты свайму народу
бываеш чым і дорыш што ты?
Мо як дадатак бутэрброда
глыток салодкага кампота?

Натхненне, а нашто ты здатна?
Падвысіць тонус да суботы?
Выцягваць некага бясплатна
з пасляабедзеннай дрымоты?

О песня, з вышыні казённай
цябе не раз лічылі служкай,
прыслугай мітусні будзённай.
А ты нябёс жывая птушка.

Жывая птушка-аблачынка,
і свет табою акрылёны.
І ты не модная пласцінка—
труба наперадзе калоны!



Былыя мілыя сябры,
вы ўсе, як спрынтэры-спартсмены,
ішлі, ірваліся ў тры змены —
і ўжо на тым баку гары...

Адтаялі ад снежных скал
і з'елі радасці па гронцы.
Вы першымі адчулі сонца,
ускочыўшы на перавал.

Не без прычын і без падстаў
не ўзяў пакуль свае я горы.
Ад вас, о слынныя прызёры,
[illegible] безнадзейна ўсё ж адстаў.

Адзін брыду я колькі год
праз дні і ночы, бы таможні.
Прысеў на камень прыдарожны,
каб паглядзець на сонца ўсход.

Мне радасна, нібыта ў сне.
Хоць я й не быў на перавале,
ды зараз сонечная хваля
дастала ўсё-ткі і мяне.

Мой лепшы час непадалёк...
Сябры, не вельмі хмурце бровы,
што ваш ужо вянок лаўровы —
даўно засушаны вянок.



Людзі залезлі на Дрэва жыцця—
каб жа залезлі з пустымі рукамі.
Проста для форсу нібы. З хлапчукамі.
Глянуць на гнёзды. Бліжэй да лісця.

Людзі залезлі зусім не таму,
каб пахваліцца дарослай адвагай...
Гляньце, якія сякеркі пад дзягай!
Пілы ўзялі па звычаю свайму.

— Вы пашалелі! Што робіце вы?—
ім я, сярдзіты, галёкаю з долу.—
Што вы мяшок уздымаеце з толам?
Выкіньце глупства хутчэй з галавы.

Дрыжыкі раптам затрэслі спіну.
Млосна шапчу я ваеннаму шкету:
— Во дажыліся — ён цягне ракету...
Ён жа ашчэрыўся: — І не адну!

Стогне ад грукату, шуму зямля,
скача паветра ад гулкага звону.
Хутка абваліцца пышная крона.
Высяцца цэлыя горы галля.

Бесперапынна работа ідзе—
новыя ўверсе бяруцца бар'еры.
Бога пабойцеся вы, браканьеры—
хутка ж вяршыня далоў упадзе!

* * *

Я выйшаў з цішы — там і буду зноў.
Адкуль крануўся — там жа супынюся.
Адчаліў з песняй, а вярнуся ў скрусе—
ад гулкіх фраз да пацішэлых слоў.

Пыл шматкалёрны прыпадзе да ног,
у хатулі збяруцца разам дні ўсе.
Выратавальна бліснe: заблудзіўся...
калі ўзыду на колішні парог.

Наіўны, я усцешуся дарма.
Няма дарог мне ні далей, ні вышай.
Прытупаеш туды, адкуль ты выйшаў—
інакшага прыстанішча няма.

Ты прыхініся моўчкі галавой
да тых дзвярэй, адкуль душа ўляцела
і ля якіх світальна затрымцела,
калі ваяж распачынаўся твой.

## НУЛЬ АДЗІНОТЫ

Ў сярэдзіне сэрца — пустэльна і гола.
Як вынік тваёй нерастрачанай цноты.
Хвіліна надыдзе — і поперак горла
становіцца косткаю нуль адзіноты.

Чакаю — ратунак спазняецца недзе.
Я п'ю — перасохнуць не можа мучэнне.
Іду да людзей, каб у цёплай бяседзе
прыдбаць хоць маленькую лічбу значэння.

За лічбу хаплюся, што нешта заважыць,
якая ізноў да зямлі далучае.
А можа, надзея вяроўку прывяжа—
не выпусціць шар, што надзьмуўся адчаем.

А ўзняцца як лёгка — і вецер паможа,—
пры гэтым зусім не патрэбны пілоты,
каб пераканацца, наколькі прыгожа
над хатай, дзе месціцца нуль адзіноты.

16. Зак. 5132.



Куды бяжыш ты, чалавек?
Там, можа, стомленасць і здзек.
Там, можа, старасць з кавялой—
навошта мчышся ты стралой?
— Ды я ж да лепшага бягу —
хто дбае сёння пра тугу?
Ды я ж на заўтрашняй палянцы
прылягу ў шчасці, бы ў палацы...
Цераз натоўп шматлікалюдны
назад хтось тэпае марудна.
Няма імпэту і шаленства...
— Куды надумаўся?
— Ў маленства.
— Куды ўцячэш ад штурханіны?
— У лепшыя свае хвіліны...

Ах, невядома зараз мне:
таемны круг рабіць ці не.
Як быць,
на што мне ўсё ж налегчы:
ісці назад,
стаяць ці бегчы?

* * *

— Чаго бунтуеш?
Ці зляцеў з арбіты?
Адкуль дзівацтва, можа, знаеш ты?
Ні ў якае нармальнае карыта
не ўкладваецца нораў твой круты.
— Не ведаю...
— Навошта ўсё іначыш,
штурхаеш зноў на выбух пачуццё?
Жыццё разумнае — няўжо не бачыш?
— Жыццё, дапусцім... Ну а небыццё?
— Ты глянь, як свет расчынены на дзіва,
як вецер сам аж просіцца да шчок...
— Гарыць, вядома, ясна перспектыва,
але за ёй — грунтоўны тупічок.
— Дзівачыш і буяніш непрыстойна
таму, што думкі точаць пра пасля?
— Каб быў я конь,
дык цяжкі воз спакойна
цягнуў бы
ад нуля і да нуля.



Свой плашч вільготны морак распасцёр
над запаўночнай стоенай палянай.
Спакойны, думны, велічны касцёр
раптоўна стаў ратункам і нірванай.

Ён мае свой неразгаданы сэнс,
пакуль яго ты ўрэшце не затушыш:
як незвычайна моцны экстрасенс,
уздзейнічае на людскія душы.

Не падпаўзе сюды драпежны звер...
Расслабся, зліся з полымем раскутым,
такім гаючым...
Полымя цяпер
нейтралізуе болі і пакуты.

Яно таемна існуе з людзьмі.
А згасне—
адчувай сябе бяспечна.
Адно што ўгору вочы прыўзнімі.
Там ёсць працяг.
Там палыхае вечнасць.



Чаму ты, свет, усё ж недасканалы?
Сярод сяк-так завершанай прыроды
мы, людзі,— неразумныя вандалы,
так каламуцім душы, нібы воды.

А можа, Бог таму не ставіў кропку
апошнюю — наўмысна, спецыяльна,
каб сёння нашы працавалі клёпкі,
каб нам жылося творча і займальна.

А мы й далей свае святыні рушым,
не служым верай, праўдай паратунку.
Чаму ж у згодзе, радасці не рушым
у самым запаветным накірунку?

Мы блытаемся — меней альбо болей.
Прымоўкла мудрасць. Дабрыня нямее.
Мы дарам Божым — незалежнай воляй—
распарадзіцца, бы рабы, не ўмеем.

## КАСЦЕЛЬНЫ ЗВОН

Ён страціў свой вялікі сон —
прачнуўся неяк неўпрыкмет.
Загаварыў касцельны звон
ажно на цэлы сельсавет.
Ён спаў самотна дужа шмат.
Ён з таго часу не званіў,
калі тутэйшы шустры хват
яго зусім забараніў.
Звон плыў высокі да аблок,
губляючы ў паветры след...
І быў з міліцыі званок:
«Перакуліўся, можа, свет?»
А свет куляцца не хацеў,
як тая лодка з-пад вясла.
Спявалі птушкі моцна з дрэў,
трава зялёная расла.
Гудзела гэтак жа шаша,
хтось лез у магазін пусты...
І толькі ўздрыгнула душа
ад яснасці: не вечны ты...
І стала навакол цішэй,
па-іншаму глядзеў блакіт.
А звон паплыў вышэй, вышэй,
перамагаючы нябыт.
Здаецца, музыка плыла,
якой заўсёды не стае.
Душа удзячная была,
што нехта ўспомніў пра яе.

* * *

Душа мая ўжо крыллем не махае
і вечарамі месціцца на кухні.
Нібы газоўка, раптам прытухае.
Здаецца, і яна вось-вось патухне.
Задзьмухаць лёс яе, відаць, не хоча —
ён мае на мяне свае намеры.
Таму й гарыць упарта сярод ночы
пакуль за кошт майго агарка веры.
На сцежку свеціць будучыні мройнай.
І скача кожны цень наўкруг вавёркай.
Гарыць душа і цёпла і спакойна
і ціха перамігваецца з зоркай.

## ЧАЛАВЕК

Ідуць, бягуць, ажно трашчаць кусты,
жывёлы хатнія і дзікія звяры.
Табун мільённы.
Але ўсё-ткі ты
на пасяродку, месцішся ўнутры.
Цераз гушчар і поплаў травяны
спяшаюцца, дратуючы вякі,
жырафы, коні, лані і ласі,
шакалы, тыгры, лісы і ваўкі.
Ці не зашмат займеў іх шчодры Бог?
Навошта столькі свету крылляў, лап?
Паўзуць гадзюкі страшныя з-пад ног,
палохаючы ўсіх пачварных жаб.
А колькі ўверсе кружыць варання,
як моляцца нябёсам жаўрукі.
Ты — цар. А навакол — твая радня:
твае адбіткі, цені-двайнікі.
Здзівіся шчыра, грэшнік і святы,
хоць перастаў здзіўляцца ты зусім:
які багаты і бяздонны ты —
тваёй душы хапае ім усім —
звярам і птушкам: іхні донар ты ж...
Праз час, непадуладныя журбе,
як нейкі дар ці ганаровы крыж,
яны нясуць па кропельцы цябе.
Расшыфраваць цябе наважыў Бог
такім вось чынам — крышачку, ледзь-ледзь.
Каб ты заўсёды пры жаданні змог
на шматаблічны твар свой паглядзець.

## АДНАЧАСОВА

Лічыць пялёсткі на бэзавай лаўцы пяшчота.
Тут заціхаюць пад месячнай музыкай двое.
Раніцай прыйдзе і сядзе сюды адзінота,
радая сонцу, панікне, аднак, галавою.

Жаўранак моцна цвірчыць і мелодыю лепіць,
самы шчаслівы пяюн, малады і лагодны.
Перад скананнем, у неба забраўшыся, лебедзь
сумна выконвае свой паланез адыходны.

Ранішні булькат крынічкі — нявінны й дзівосны,
чысты парыў яе — кінуцца ў мёртвыя рэчкі...
Што азначаюць над ёю высокія сосны —
факелы славы або пахавальныя свечкі?

Сэрца ўстрапечацца — з болем на міг замірае,
лёсу насустрач кранаецца ціхай хадою.
Як жа заўважыць мне светлыя прывіды раю
тут, дзе абвешчаны танец уцехі з бядою.

* * *

Ідзі, Дарога, аж да брамы Бога.
Усе твае выбоіны, завалы,
змяістыя кірункі, перавалы,
і млосны пыл, і смага — ўсё нічога.

Ідзі, Дарога, аж да брамы Бога.
Хай кепска вельмі, невыносна будзе
сярод прастуд і здрад, што сціснуць грудзі,—
мне крылле дасць мая зямная змога.

Ідзі, Дарога, аж да брамы Бога.
Шчаслівa буду крочыць да канца я,
калі мне штосьці ўсё-ткі абяцаеш,
хоць гоніш да апошняга парога.

А можа, ты ўсяго бальшак, Дарога,
дзе валакуся ў якасці турыста?
У гэткім разе ты — авантурыстка,
калі не прывядзеш да брамы Бога.



Ты ўбачыў свет — зямное наша дзіва.
І твой прыходператварыўся ў крык—
і ад яго распачынаў адлік
дарогі, па якой ішоў шчасліва.

Ды ёсць адлік другі ў няспынным часе,
калі слязой агорнецца шчака.
Ад матчынага свежага грудка
адлік той новы сумна распачаўся.

Той міг, той дзень да скону не забудзеш.
Бы ў вечар пойдзеш... Бо ад тога дня
журба і боль — ужо твая радня.
Хоць будзе смех, але ён іншы будзе.

## СТОМЛЕНАСЦЬ

Пасую лісце маладых гадоў,
на вецер іх падкідваючы ў скрусе.
У лабірынце зробленых слядоў,
як падарожнік позні, валакуся.

Не ведаю, як выйсці на святло,
як вылузацца — зноў раблю прыкідкі.
А дзён былых насценныя адбіткі
прыносяць жаль, а лепей бы — цяпло.

Бы шторы, расхінуўшы лістапад,
я выйшаў — апынуўся на пагорку,
каб з сябрам весці ціхую гаворку,
паклаўшы свой пагляд на далягляд.

Здаецца, неба зноў непадалёк,
і ёсць прычына новая спяшацца.
І небасхіл зноў будзе набліжацца,
а не ўцякаць у процілеглы бок.

* * *

Астыне душа твая і схаладзее,
някліканым ветрам прадзьмецца да дна.
І згорнецца кволая кветка надзеі,
завяне, засохне і згіне яна.

Я ведаю добра, што станецца потым,
калі не ўратуеш ты кветку, як маг.
Адразу густым лапушыстым асотам,
прыблудным асотам праклюнецца страх.

Ён доўга жыве без усякай падтрымкі
і нават яршыста глядзіць на зіму.
Ён возьме душу тваю проста ў абдымкі—
аж войкнеш і нават не пікнеш яму.



Даступны мільённыя лічбы-даведкі.
І можна, здаецца, музеям даверыць
усе транспарціры, лінейкі, рулеткі.
Абмацалі ўсё мы — няма чаго мераць!

Усё пераважылі спрытна, як магі.
Ёсць толькі драбнюткія цельцы ў эфіры.
Што з імі рабіць нам? Не кінеш на вагі.
Ну што яны значаць — жалезныя гіры!

Запарыўся ты ў навуковым галопе.
Ды вось прыпыніўся, пагладжваеш лоб ты.
Пратоны, нейтроны, ядро ў мікраскопе.
А што там за імі? Не бачна — хоць лопні!

Ды цягне спакуса за рукі і ногі
усё-ткі крануцца насуперак ночы.
Не вызначаць толькі абрысы дарогі
ні вушы глухія, ні слабыя вочы.

Іх выверыць нельга па карце, па кнізе.
Вось міг — і падступяцца страхі і церні...
Душа зганьбаваная, ўсё ж адгукніся.
Адна ты, хто возьмецца вывесці з цемры.

* * *

Растуць два дрэўцы
кволага памеру.
Абсурд — адно з іх.
А другое — Вера.
Маладзікі
змяняюцца на поўні—
стаяць два дрэўцы
на адным узроўні.
А пойдзе Вера ўверх
на санцавеі —
Абсурд адразу
чахне, мізарнее.
Хай Вера шугане
на метраў сто—
Абсурд
ператвараецца ў нішто.
Але не дай Бог
занядужаць Веры —
Абсурд залапушыцца
ў атмасферы.
Ён замест сонца
будзе млосна цьмець.
І застанецца—
толькі звар'яцець.

## РОЗУМ

О, розум, ты нам апантана служыш,
зямныя справы вершыш мімаходзь.
Ты ўсемагутны і зусім нядужы,
стрыножаны, захоплены ў аброць.

Ты рвешся ўверх, бяссільна знемагаеш,
адчуеш волю на кароткі міг.
Ды падсвядомасць, што цябе трымае,
не выпускае лейцы з рук сваіх.

Б'еш капытамі ты на касмадроме,
усё ж парваўшы лейцы, як драты.
Ды падсвядома ў полымі і громе
сваю нікчэмнасць адчуваеш ты.

Ты над планетай узлятаеш плыткай—
чарговы цуд грукоча і гарыць.
Ды падсвядома ўсе свае здабыткі
у попел хочаш ты ператварыць.

Глядзі, каб ты не ўпаў на месцы лобным,
не зацугляўшы ўсіх сваіх забаў.
Заўсёды хочаш дзейнічаць асобна!
Ты — сын,
што маці горда занядбаў.

* * *

А людзі ўсё люляюць немаўля,
ваююць і гавораць пра надвор'е.
Не знаюць нават, што ляціць Зямля
да нейкага нябачнага сузор'я.

Набожна людзі звоняць у званы,
ды іх душа каля стала пасецца.
Зусім не хочуць зразумець яны,
што шар зямны над безданню нясецца.

Астуджаныя, лезуць у вагон
і ціснуцца да печкі, як да раю.
Ім холадна. Ды гэта не цыклон.
Касмічны вецер да касцей праймае.

Яшчэ не ўсё. Ляцець далей, далей
з вялізным грузам болі і дурноты.
Стуліцеся — і зробіцца цяплей
на чорным фоне вечнай адзіноты.



Хай па нахільнай роспач не нясе.
Тваe такія ж, як у іншых, раны.
Успомні мудрасць: прайграюць усе.
І розніца — прайграў ты вельмі рана.

У тэрмінах уся, уся тут соль.
Маршруты пераблыталіся ў спешцы.
Асобна вандравалі ты і боль
і выпадкова стрэліся на сцежцы.

Стуліся, супакойся пакрысе.
Ты дыхаеш. І небам не забраны.
Ці так, ці гэтак — прайграюць усе.
І ты прайграў. Адно што вельмі рана.



Ускалыхнуў душу дрыготка лёс,
калі ў яе аднойчы ўпала сонца
з вачэй матулі і з вачэй нябёс,
яе святлом запоўніўшы да донца.

Навечна ў ёй пакінуў спеўны след —
звініць, пяе, праменіцца праз дні ўсе—
птушыны і раслінны цёплы свет,
што ў майскі ранак мне прыадчыніўся.

Адзін ён ёсць, ашаламляльны міг,
галоўны пік, дзе вечнасць заціхае —
найпершы дотык вуснаў незямных,
трымценне слова мройнага «кахаю».

Мільгае час, бы аднастайны сон,
ты цягнеш цяжка долю, як калодку.
Бягуць кругі ад самых першых дзён,
гайдаючы тваю пустую лодку.

Гады свае дарэмна не касі—
не загарыцца радасць на астатку.
Найлепей — гэта ў Бога папрасі,
каб даў дазвол усё пачаць спачатку.

* * *

Выбіваюць дываны,
выбіваюць дываны
ўсе кватэры абсалютна.
Бахі-выстралы чутны.
Ну настолькі ж гэта нудна!
Проста б'юць па версе крыл,
гнуць душу катэгарычна.
Дзе ж бярэцца гэты пыл?
Ён айчынны ці касмічны?
Білі ўчора — поўна зноў...
Можна толькі дыхаць ледзьве...
Выганяюць з дываноў
як не пыл, а злую ведзьму.



Яшчэ мяне на свеце не было.
І значыўся мой вобраз пад пытаннем.
Над полем калыхалася цяпло,
спявалі перапёлкі на змярканні.

Яшчэ мяне на свеце не было.
А ўжо дамы гарэлі, як лучыны.
І ліхалецце ва ўсю моц гуло
над бальшакамі стомленай Айчыны.

Яшчэ мяне на свеце не было,
не меў адносін да жыцця, як дзіва,
а з запаснымі ланцугамі зло,
як канваір, паміж людзей хадзіла.

Яшчэ мяне на свеце не было.
А ўжо няпраўда па двары скакала,
людская радасць страціла крыло,
а з болем лодка ўжо мяне чакала.

Былі тут слёзы, утрапенне, войны,
ліхія сны аб вечным небыцці...
Падумаць толькі, як было б спакойна,
каб лёс не гнаў у гэты свет прыйсці.

## ЧАС-ГРЫМЁР

Мы ведаем, што ўсё ў тваіх руках.
Пры ўсім пры тым — стараешся без толку,
бо з году ў год у русых валасах
ты не пасадку робіш, а праполку.

Ты нечаканы. Гэта ж трэба ўмець—
зіму зацiснуць у сваёй далоні:
цішком, нібы жартуючы ледзь-ледзь,
ты сыплеш снег на маладыя скроні.

Давай заключым іншы дагавор,
такі, што ўсё ж улічыць нашы мары...
Як часта, часта робіш, час-грымёр,
свае мазкі адвольныя на твары,

якi шарэе больш і больш — ну дзе ж
тваёй палітры сонечныя скарбы?
Чамусьці ўжо ні грама не кладзеш
на поле шчок светла-ружовай фарбы.

Ты затынкуй перажыванні-болі,
а потым — супакойся, калі ласка.
І не турбуй нас. Для апошняй ролі
ты вельмі часта прымяраеш маскі.



Здаецца, стаў ён сватам-братам,
знутры адкрыўся, як вітрына,
недасягальна блізкі атам —
нейтрон, пратон, ядро, нейтрына...

Брыдзём, паўзём агульным скопам
па цёмным ім — як сярод ночы.
Вядуць сабакі-мікраскопы,
іскраць камп'ютэрныя вочы.

Пагладжвай лоб свой, матэматык,
свет мець вышэйшаю адзнакай...
Тут проста форменны парадак—
няма анархіі ніякай.

Хтось пахадзіў тут, вельмі здатны—
не нашы людзі-скамарохі.
Усё расстаўлена выдатна,
нічога лішняга ні трохі.

Хтось пахадзіў, расставіў знакі
і сплыў на сонечным пароме...
І вось мы лазім, разявакі,
па гэтым узламаным доме.

## БОЛЬ

У свет прыходзіш — прычыняеш боль.
Ашлюбаваны з ім ты вельмі рана.
Нябачны нехта сыпле, сыпле соль,
бязгрэшны хоць, на маладыя раны.

Тваё цярпенне не знаходзіць меж,
і мерзнуць шчасця кволыя мімозы.
Не знаючы куды, плывеш, плывеш,
з блакітнай песні падаючы ў слёзы.

Боль чалавечы — як зямны пароль.
І ты праз браму вечнасці — праз долю
нясеш увесь неўтаймаваны боль,
свае сляды пазамятаўшы болем.

* * *

*Лёлі*

Чыіх памкненняў адгалоскі,
што адбыліся ў пахкім цвеце,
вы, цудадзейныя пялёсткі?
Хто вас паслаў з'явіцца ў свеце?

Хто ж ён, да радасці ахвочы,
далёкі творца невядомы,
што хоча так папесціць вочы,
дзе заплыла хмурынка стомы?

Хоць раз, хоць зводдалі няхай бы
ён паказаў свой пэндзаль хітры.
Адкуль свае бярэ ён фарбы —
з нябеснай ці зямной палітры?

Лагодны, ветлівы і ясны,
ваш позірк ўсё-такі шматзначны.
Ля ног рассыпаліся шчасна —
ганцы таго, хто нам нябачны.

* * *

Я зноў халадзею, што страціў надзею.
Я гнаўся за ёю, прытульваў і песціў.
Зялёная вера у радасць рудзее,
жаўцее і сохне, каб скурчыцца дзесьці.

Уздрыгнуўшы, збаўлю адразу ў хадзе я —
ад сэрца адпала вялікая частка.
Я думаў, што ўвесь акунуўся ў надзею,
а выйшла: яшчэ раз ускочыў у пастку.

* * *

Як смокча ў душы,
як даводзяць згрызоты—
вось-вось і апусцяцца рукі зусім.
Скрабецца-пяршыць:
Нарадзіўся нашто ты,
калі твая доля—
пасланніца зім?»
Масты ўсе сарвала
жыццёвая бура,
згарэлі ўсе замкі
нябесныя ўшчэнт.
Ах, цяжка...
займіся штодзень фізкультурай,
таму што расклейвацца
рана яшчэ.
Дарэмна ты вочы
самотаю поўніш.
Не хмурся—
ўдыхай васільковы азон...
Праз год яго—
год гэты выкляты ўспомніш...
І здасца шчаслівым
і сонечным ён.

## КАЛЯДЫ

Пявучым чаканнем запоўнена хата.
Натхнёныя думкі — як струны, усе.
Вось маці з адрыны мурог прынясе—
і зверху пальецца па кропельцы свята.
Ідзе рытуальнае шэсце за стол.
Кісель тут салодкі і булачкі з макам.
Туманяць душу маладую прысмакі —
іх, пэўна, за дзесяць, калі не за сто...
З усёй урачыстасцю голад узнік.
Але не спяшацца! Усё па парадку!
Бярыце з матуліных пальцаў аблатку,
заносьце павольна яе на язык.
Нам нешта вялікае вечар прынёс.
Знікаюць аблаткі на белай талерцы.
І радасным сонейкам свецiцца ў сэрцы
народжаны ў гэту хвіліну Хрыстос.



Чаму ж мы так стараліся настырна,
з вазоў у храмы цягнучы мяшкі.
Няўжо не адчувалі, што не свірны
касцёлы нашы, не хлевушкі.

Чаму ж тады апостальскае Слова
не супыніла д'ябальскага зла
і вера наша шчырая Хрыстова
узбунтавацца нам не памагла?

Не вывела з глухога дамаседства
устаць гарой за прынцыпы свае...
А мо не веру мелі — фарысейства,
якое сіл нікому не дае.

Мы ў камячок згарнуліся ад жаху,
і вера наша вылілася ў жах.
Сапраўдная — яна непадуладна страху,
яе ніякі не сагне ГУЛАГ.

## АДЗІНОТА

Пастукае вецер пад шыбаю — хто там?
Адразу ж галлё калыхнецца на вокліч.
А потым і сонца — жывая істота—
бясшумна і мякка заглядвае ў вокны.

І з добрага неба, як з казачнай сумкі,
цяпло перакідвае ў хату нястомна.
Выходзяць на шпацыр марудныя думкі.
Гады — нібы зёлкі, што сохнуць над столлю,

Шматлікімі зёлкамі поўніцца хата.
Чабор — маладосці святая хвіліна.
Няпростая сталасць — з пяршынкаю мята.
А горкая старасць — сцяблінка палыну.

А лёсу яшчэ на закончаны танец—
дары яго ўсе падбіраюць да крошкі.
Плыве, як гуляе, на пальцах ружанец,
і, вочы закрыўшы, мурлыкае кошка.

Усё так і будзе, як сэрца ні муляй.
Хай думкі нядобрыя ў шыбу не лезуць.
Як сонца, як дзень, неразлучны з бабуляй
прыхільная кошка, Марыя і Езус.



Дзяцінства — нечаканая апора,
як стане грунт хістацца навакол.
О, колькі раз навалістая змора
мяне саджала за ягоны стол!

І за яго — такі ўжо ён харошы! —
рукамі зноў хапаюся дзвюма,
хаця на ім вось нават хлебных крошак,
як не было, так і цяпер няма.

Хоць міг пабыць ля шыбы запаветнай
і ўсё ж адтаяць ад сваіх гадоў,
хоць тая шыба выстуджана ветрам —
яна ўвабрала столькі халадоў!

Дзяцінства дом, якую асалоду
ты захаваў для будучых нягод?..
Я тварам прыхінаюся да лёду —
і вельмі грэе мой любімы лёд...

## ПАРТРЭТЫ БЫЛЫХ МАЙСТРОЎ

Спакой. Грунтоўны велічны спакой.
Павольная хмурынка задумення.
Нібы бяды і не было людской—
не сапсавала воблік утрапенне.

Давер шырокі. Як пагляд — давер.
Азёр-вачэй расчыненая брама.
Хоць здрадніцтва узнікла не цяпер—
тады ўжо Юды існавала драма.

У кожнай рысе ззяе дух жывы.
Служэнне праўдзе. Адчуванне мэты.
Прыўзнятасць звабнай гордай галавы
зусім не адмаўляе запаветы.

З ружовай фарбы падае цяпло
на цёмны твар наш, дзе застыла змога.
Унутранае мроіцца святло—
як след з душы, якая мае Бога.

## ЛЕБЕДЗЬ

Шчасце тут просценька ўгледзець—
поўняцца радасцю вочы.
Белаю яхтаю лебедзь
плавае з рання да ночы.
Сажалкі круг зелянее,
бераг купаецца ў цвеце,
шлях усцілаюць лілеі...
Ён у сваім сусвеце!
Хіба паскардзішся лёсу—
болей нічога не трэба.
Толькі б гайдацца на плёсе,
дзе адбіваецца неба.
Закалыханы пад вечар,
крыллямі ўскідвае вяла...
Бедны ты мой чалавеча,
як табе гэтага мала!
Хочаш свой розум спатрэбіць—
так табе часта не спіцца,
хоць за свой круг, як той лебедзь,
ты і паспеў зачапіцца.
Толькі і сёння, і сёння
кідаешся, як бяздомны.
Зноў узіраешся сонны
ў космас — бяздонны, бяздонны...

18. Зак. 5132.



На сонейку пырхаюць, як верталёты, стракозы,
ад спёкі спрабуе дарога травой затуліцца.
Падназіркам пільным і цёплым бывалай бярозы
вякуе, на старасць сваю не зважае капліца.

Усё чырванее, жыццё паважаючы, цэгла,
бо знае: адна яна самая лепшая служка.
На цёмную стрэшку пахучае вецце прылегла
з надзеяй, што сядзе на міг выпадковая птушка.

Як блізка сюды падыходзяць чарнічнік і верас,
як сцелецца пошчак вакол ад пявучага шуму.
Крыху галаву апусціўшы, патрэсканы Езус
стаіць і ніяк не дадумае горкую думу.

Усімі забыты чамусьці, прыгнечаны зморай,
на млосным узбочку даўно знемагае ад смагі.
Глядзіць на людзей мітуслівых ён з ціхай пакорай
і просіць, як некалі, кропельку нашай увагі.

* * *

Шчасце вялікае ўпала згары,
у педагогаў свяціліся твары:
«Бога няма, дарагія сябры.
Быў бы — вядома б, убачыў Гагарын!»
Што і казаць — аргумент немалы,
потым у гэтым і кемнасці многа:
трохі вышэй, з-пад ракетнай стралы
як не заўважыць славутага Бога.
Вось і прасілася радасць сама.
Людзі, хутчэй у літаўры трубіце:
ну абсалютна нікога няма,
нават анёлаў няма на арбіце.
Вось, ужо сталы, задумаўся ты:
тым, хто вішчаў гэту ісціну важна:
«Глуха над намі і космас пусты» —
ну хоць бы трошкі зрабілася страшна...

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Закрыўшы хутчэй сваю ноч на замок,
зноў мары смакуе — пірог мнагаслойны.
Зноў будзе варочацца з боку на бок
і вочы свае не замружыць спакойна.

А сон адвярнуўся, хоць ты закрычы.
Не цешыць пярына шыкоўная — мулка.
Спрабуй, як бухгалтар, усё палічы,
што тояць усе сундукі і шкатулкі.

А шафы, скляпы? А хлявы, гаражы,
рахункі прыватныя ў банках? Цярпенне
вось лопне, як шклянка ад вару. Бяжы
у цемень, што згасіць дажджом утрапенне.

Мо пройдзе чарговае сонцазацьменне.

І скажа нябесная бездань: жыві.
Ды зноўку падступяцца лічбы і факты. і
І лёгенькі боль паплыве па крыві —
нявопытны першы сігнальшчык інфаркту...

О зайздрасць, вужакай паўзеш па зямлі,
амаль што любую бярэш абарону...
Ты ноччу і днём тасавала рублі,
рублёў не было — раздавала патроны...



І не бывае дня,
каб не адведаць смагі.
Навокал таўкатня,
адны благія звягі.
Усё яшчэ пакуль,
расі сцяжынку потам.
Пакуль ты круглы нуль,
калі й што будзе — потым.
Праз дзень, праз два, праз тры,
праз тыдзень, год ці болей.
Як мак, турботы тры
з малым дамешкам болю.
Не румзай з-за жылля,
удзячны будзь прастудзе.
Усё тваё — пасля,
галоўнае — што будзе.
А што яно і дзе —
не здужыць сэнс глыбокі...
Твой яблык — упадзе,
вялікі, рудабокі.
Ён існуе — і досць,
і ён — вянец знямогі.
Не сумнявайся: ёсць!
Інакш — знямеюць ногі.
Пра гэта ж — салаўі...
Жывём ці паміраем,
на самым на краі
мы трызнім, трызнім раем.

* * *

Надзеі — фальшывыя ўсе загатоўкі...
А як жа мы ўгнацца за імі хацелі.
Ах, наканавана прыйсці мне з вандроўкі
з рубцамі на сэрцы
і соллю на целе.

Пад ручку вядзе мяне ціхая стома,
і сцелецца мякка пад ногі дарога.
Не помню, сказаў хто: вяртацца дадому —
нібыта вяртацца аднойчы да Бога.



Іх час малоў, малоў...
Ды жорнаў не баяцца.
Як многа лішніх слоў —
бы камары раяцца.
Кусаюцца-сякуць —
нясцерпны сверб пад скурай.
Штодзённа «мак таўкуць»,
нібыта перад бурай...
Спяваем і гудзім
у заліхвацтве слоўным.
Гаворым аб усім,
але не аб галоўным.
Патрохі ні аб чым —
гуляе сэнсу стрэлка.
Аб ім — заўжды маўчым.
Яно ж — сядзіць, як стрэмка.
І ў цішыні сябе ж
настойліва вярэдзім:
«На свой зямны рубеж
занадта хутка едзем».
Гне сэрца сум, бы кат —
нібы ланцуг той корбу:
«Хто возьме цяжкі клад —
памылак нашых торбу?»
«Маўчыш, Нябесны Дом —
зацяўся адмыслова... »
Як заяц пад кустом,
стаіўся страх пад словам.

* * *

Промні вечныя зор
рэжуць час, як нажы.
Неабдымны прастор.
Немагчымасць мяжы.

Ні траншэя, ні дзот
не супыняць камет.
Слабасільныя дрот,
разгароджаны свет.

Хто з нас возьме ў палон
вольны вецер, скажы?
Фантастычны заслон.
Нерэальнасць мяжы.

Не стамляецца дух,
і не трубіць адбой.
Не ўмяшчаецца ў круг
сёння праўды любой.

Строгі вырак і суд
хай сабе прагучаць.
Недарэчнасць, абсурд—
чыннай кропкі пячаць.

* * *

Запушчанай скрухі на сэрцы зіма.
Дрыготка панурыцца мой амфібрахій...
Зноў мроішся, бацька далёкі. Няма
ў сямейным альбоме тваіх фатаграфій.

Я проста не знаю, яны ці былі.
А можа, згубіліся ў беднасці... Горка.
Я проста не помню, сышоў ты калі
за свой небасхіл з хутарскога падворка.

О дзе адшукаць твой адбітак і знак,
пад ліпай якой падарожны твой посах?
Ну як, мой балесны, пазнаць цябе, як,
калі апынуся на верхніх нябёсах?

## ВЕЦЕР І ПОПЕЛ

Уцякла твая ў мора вада,
сцёрся след ад лагодных хмурынак...
Не варочайся ў вецце гнязда,
не шукай сваіх першых пярынак.

Помні гэта, што вецер не спаў.
Ён прадзьмуў, абсвістаў неаднойчы
месца цёплае даўніх забаў,
нібы воўк, падвываючы ноччу.

Не прывеціць ён сённяшніх нас,
не астудзіць апошнюю стому —
там, дзе вогненным скальпелем час
безаглядна прайшоў па жывому...

Ён растраціў свой ранішні спеў,
не данёс лёгкай музыкі з маю.
І ягоны асенні напеў
толькі попел з-пад ног уздымае.

* * *

Занятак марны — перайначваць долю,
вясною блюзніць цэлую зіму.
Каб быць свабодным,
не пужайся болю—
вароты зрання адчыні яму.

Кладзі ўсе беды з лёгкасцю на плечы,
пазыч цярпення ў мудрага суддзі.
На ўсе зямныя прахадныя рэчы
спакойна, як на воблакі, глядзі.

Вырошчвай хлеб на неўміручым дзёрне,
не надта вер у рукатворны рай.
Каб быць свабодным,
тайна і штодзённа
карону радасці не прымярай.

## ПАД ЕЛКАЙ

Трава, прыгнутая на глебе,—
з гадзіну зверху палівае.
Густая бура дажджавая
парыўна гойсае па небе.
Не варушыся, стой і слухай
са страхам стоеным на пару,
як па кашлатай цёмнай хмары
маланка б'е гарачай пугай.
І гром, і шум на свеце цэлым.
Шукаюць дах кузуркі, мушкі.
Аберагаюць гнёзды птушкі
сваім маленькім цёплым целам.
Варушыць лапкамі ў знямозе,
між кропляў рухаецца цяжка—
ды не збіраецца мурашка
свой груз кідаць на паўдарозе.
Таемны гоман у прыродзе—
гуляе неба з наваколлем...
Над лапушыстым мокрым голлем—
якое там тысячагоддзе?..
Якіх хвілін я чую танец?
Дзе гонар мой, мая адвага?
Хто я — цяперашні бадзяга
ці той жа ўсё неандэрталец?



За горла бяруць крэдыторы: плаці!
На крок не адступяць, даводзяць да зморы.
Здавалася, сам я ішоў па жыцці—
выходзіць, пад рукі вялі крэдыторы.

Ці выжыў бы проста, калі б не яны.
Як падаў, падсоўвалі дружна апору.
Падкідвалі сіл ад вясны да вясны
спагадна-уважлівыя крэдыторы.

П'ючы сваю радасць, як ранні блакіт,
вялікі адрэзак дарогі прайшоў я.
Не бачна ўспамогі. Я выбраў ліміт.
І трэба даўгі мне варочаць любоўю.

Мне цяжка, паверце. Аж цёмна ўваччу.
Выходзіць, даўгі павяртаць не гатоў я.
— А можа, чым-небудзь я так заплачу?
— Любоўю! І толькі любоўю!

## ДЗВЕ КНІГІ

Любімая кніга у вокладцы белай,
дзе людзі сышліся, звяры і гады.
Пакрыўджаным сэрцам, душою прымлелай
п п'ю тваю мудрасць, сасмяглы заўжды.

Зялёная кніга у вокладцы зорнай.
Штодзённа гартаю палі і лясы.
Шапочаш старонкай то светлай, то чорнай,
то з плачам, то з песняй твае галасы.

Не ведаю нават, дзе болей навукі,
дзе болей знайшоў для сябе пачуцця...
Вядуць мяне, лёгенька ўзяўшы пад рукі,
Настольная Кніга і Кніга Быцця.



Дзень занадта тлумны, ну а ноч пустая.
Ноччу сон дрымотны, днём жа мітусня.
Я іду заўсёды, а чаму — не знаю,
па краёчку ночы, па краёчку дня.

Можа, вінавата ўласнае ўтрапенне,
можа, гэта звычка, можа, лёс благі.
Па краёчку шчасця, радасці, натхнення,
па краёчку суму, роспачы, тугі.

Ты сваё былое крэслі ці не крэслі,
ды яно, як яблык, не ўпадзе далоў...
па краёчку цёплай выпадковай песні,
па краёчку горкіх прыхаваных слоў.

Ашалелым ветрам мне не быць ніколі.
Што наканавана — збудзецца ў жыцці.
Па краёчку мары,
па краёчку долі—
не хачу іначай, як ішоў, ісці.

# ЗМЕСТ

**Дукса М.**

Д81 Горн прымірэння: Вершы.— Мн. : Маст. літ., 1993. — 286 с.

ISBN 5-340—00901-7.

Дукса М. Горн примирения: Стихи.

У зборніку ёсць самыя розныя акцэнты: суперніцтва дабра і зла, любові і варожасці, лёс роднай мовы і культуры. Многія вершы даносяць элегічна-філасофскія разважанні аб жыцці, хуткаплыннасці часу, асэнсоўваюць людскія пакуты і радасці, страты і надзеі.

Д $\frac{4702120202-146}{М302(03)-93}$ 45—92

ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

**Дукса Марьян Николаевич**

**Горн примирения**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Дукса Мар'ян Мікалаевіч**

**Горн прымірэння**

Вершы

Рэдактар Хв. Д. Жычка. Мастак В. А. Тарасаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 3678

Здадзена ў набор 14.10.91. Падп. да друку 23.09.92. Фармат $70 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 11,70. Ум. фарб.-адб. 11,70. Ул.-выд. арк. 8,46. Тыраж 700 экз. Зак. 1724. Цана 20 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З дыяпазітываў Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня «Перамога», зак. 1724. 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.